Зрэшты, у гэтым таленце — доля ці не кожнага сапраўднага паэта?

Вось і ў Цёткі:

> Хацела б быць зярном пшаніцы,
> Упасць на ніўкі вёскі...

Іншае? Але, па сутнасці,— тое самае: агульнасць лёсу — з усімі, з усім няўтульным светам.

## ЖЫТНЁВЫЯ ВЯТРЫ

Нядаўна, у самае жніво, я вяртаўся дадому з Арлоўшчыны, краю, хлеб якога ўзгадаваў Тургенева, Ляскова, Цютчава, Фета, Буніна, Андрэева, Апухціна, Прышвіна і яшчэ многіх выдатных рускіх пісьменнікаў.

Здаецца, ніколі раней не бачыў на чыгуначных станцыях, у ланцугах сустрэчных паяздоў так шмат вагонаў, на якіх было б напісана то крэйдай, то фарбаю: «ХЛЕБ», «ХЛЕБНЫ», «ЗЕРНЕ». Можа, мне гэтак падалося таму, што той жнівеньскай восенню мы шмат думалі і гаварылі, нібыта дружна ўспомніўшы галодныя гады, пра хлеб Радзімы? Ці, можа, што дарога мая вяла з Арлоўшчыны, дзе кожная песня з хлебнай нівою заручоная?

Вечарэла. Пасля спякотнага дня я стаяў ля адчыненага акна вагона, прагна лавіў тварам сустрэчны, на спелым жыце настоены, вецер, а думкі былі то ля дуба, пасаджанага Іванам Сяргеевічам Тургеневым у садзе Спаскага-Лутавінава, то зноў жа там — на беразе абмялелай, проста запушчанай, як і ўвесь тургенеўскі сад, сажалкі Савінай, то ў Арле на Орліку, дзе легендарны Галаван пасвіў быкоў, а не менш легендарны Ляскоў пісаў натуралістычна-каларытныя, як галаванаўскія быкі, глàвы пра Галавана, то зноў жа там, на Орліку, пад нізкім, на другім паверсе, балконам у Лізы Каліцінай...

Наш поезд выбіўся з графіка і спыняўся ледзь не каля кожнага слупа.

Яшчэ раз — ля адзінокае хаты.

У градах корпалася жанчына. Узняўшы галаву, яна з-пад рукі глядзела на наш вагон, у вокны, быццам шукала каго знаёмага.

З вагона на прырэйкавую сцежку сышла праваднiца.

— Лявонцьеўна? — гукнула жанчыну за плотам.

— Га, Іванаўна? Пазнала, нягож?

— А чаму ж? Я вас тут, ад Арла да Брэста, усіх ведаю. Трыццаць гадоў гэтым пуцём езджу, ля кожнай хаты не адзін раз стаяла. А дзе ж твой злы сабака?

— Здох, блатняк.

Правадніца смялей падышла да плота:

— Бульбачку капаеш? Ну і як яна сёлета?

— Аніщто...

З вагона да плота высыпалі пасажыры. Каля плота студня — дасталі вядро вады, пілі па чарзе, нагбом.

З-за прыдарожнай паласы хвойніку, счарнелага ў вечаровым прыцемку, выехаў, уздымаючы пыл, камбайн. Пад'ехаў пад плот і стаў. Рухавік заглух. На зямлю цяжка, нібы камень, саскочыў камбайнер, шэры ад пылу, адны вочы блішчэлі чыстай сінізною, яшчэ маладой і здаровай.

Людзі падалі яму вядро з вадою.

— Піце,— сарамліва запярэчыў ён.

Але пасажыры настойвалі:

— Мы паспеем. Яшчэ тут пастаім.

Тады ён нахіліў вядро, каб лінуць сабе ў далонь. Да вядра пацягнуліся іншыя рукі. Пасажыры пачалі яму паліваць, а ён, салодка адфыркваючыся, мыў твар, карак, шыю, грудзі, не звяртаючы ўвагі на тое, што вада залівала рукавы і каўнер кашулі, штаны. Яшчэ і напіўшыся, адышоў убок, а людзі глядзелі на яго і ўсміхаліся, быццам самі з асалодаю памыліся і напіліся.

— Ну, ці зжаў ты, Лёнік, сваё поле? — спытала ад плота Лявонцьеўна.

— Спяшаўся, але не паспеў. Заўтра закончу.

— Значыць, зноў у мяне заначуеш? Дык ідзі ў хату. Зараз я цябе накармлю.

— Не, Лявонцьеўна, дзякуй за хлеб-соль. Тры дні дома не быў. Трэба з'ездзіць хоць на адну ноч.

— А далёка вам ехаць? — пацікавілася правадніца.

— Ды блізка. Цягніком — наступны прыпынак.

Цеплавоз прасігналіў, і пасажыры сыпанулі да вагона. Адна правадніца не спяшалася, чакаючы, каб паселі апошнія, стаяла на прырэйкавым шчэбні, трымаючыся адной рукою за парэнчу пры сходках.

Камбайнер на абочыне спакойна абіваў з сябе кепкаю пыл.

— Дык вы што не садзіцеся? — спытала ў яго правадніца.

— Я следам за вамі. Таварняк павінен ісці.

— Сядайце.

— Ды не, дзякуй. Я без білета. Брудны.

— Сядайце, каму кажу!

Вагон таргануўся, і тады ўсе пасажыры, хто быў у тамбуры, закрычалі:

— Сядайце хутчэй!..

Камбайнер ускочыў у тамбур, і ўжо следам за ім, схапіўшыся за яго руку, паднялася правадніца.

Я глядзеў на іх абаіх і дзівіўся. Правадніца была пажылая, буркलівая, незгаворлівая, усю дарогу ад Арла з кім-небудзь сварылася, на кожным прыпынку сцяною стаяла ў дзвярах, не пускала безбілетных, ганяла салдацікаў — пасажыры ім спачувалі, заступаліся,— што селі не ў свой вагон, кожнаму паўтарала, што ёй праз месяц ісці на пенсію і яна не жадае страціць яе з-за нейкага безбілетнага абармота. А тут — чалавек не хацеў ехаць, мала таго, што безбілетны, дык яшчэ і брудны, саромеўся свайго рабочага бруду побач з чыста апранутымі пасажырамі, чакаў таварняка, як сам бруднага, а яна яго пасадзіла, ледзь не сілаю загнала ў свой вагон. Ляснуўшы жалезнымі сходкамі, зачыніўшы дзверы тамбура, адчыніла перад ім дзверы ў калідор, і ён апынуўся на чыстай дывановай дарожцы.

Каля акна правадніца стаяла з ім побач.

— Маё поле,— сказаў чалавек.

Ён сказаў гэта глуха, як самому сабе ці, можа, правадніцы, але яго пачулі пасажыры, і ўсе, хто пачуў, павыходзілі са сваіх купэ, стоўпіліся на праходзе каля вокнаў.

З-за далёкага лесу, адтуль, дзе садзілася сонца, на пожню, на ўсё тое доўгае, чыста прыбранае поле лілася густая вечаровая чырвань. Поезд набіраў хуткасць, і чырвонае святло, якое саграваla зямлю перад халаднаватай жнівеньскай ноччу, грэла таксама і вагон, і твары пасажыраў.

Ніхто не адыходзіў ад вокнаў.

## ТВАРЫ... ЯК У ЛЮДЗЕЙ

Бываюць творы (тут — творы) абдуманыя, але не напісаныя. З ненапісанага ёсць у мяне аповесць, якая пачынаецца так: «У лесе жылі звяры, і твары ў іх былі — як у людзей».

Мне гэты радок тады, як напісаўся, адразу лёг на душу. Але з'явілася і боязь: калі гэтакі пачатак аповесці, дык якою ж будзе яна ўся, ці адрозніць у ёй чытач людзей ад звяроў? Чым даўжэй пра гэта думаў, тым больш цверазеў і нават ужо сам пачаў пабойвацца нечаканай фразы, а з ёю — і нечаканай блізкасці са зверам. Урэшце паклаў рукапіс у папку з ненапісаным: хай вылежваецца. Нават вядомы верш Забалоцкага «Твар каня» не падбіў мяне на рызыку.

А пазней у Ветцы ўбачыў акварэлі Галі Нячаевай, якая тады скончыла дзесяць класаў, і сярод яе акварэляў — такое: па лесе ідзе табун дзікоў і толькі першы з іх як быццам без «чалавечых заган», дзік як дзік, а наступныя, што за ім, з тварамі, як у людзей, прыгожымі, нават фантастычна блакітнымі, поўсць на шчоках — бакенбарды, лычы — насы, нейкія людскія вочы і вушы, і дабрата задумлівая — ад чалавека.

«Мне хацелася,— расказвала Галя,— каб чалавек, калі ён узнімае стрэльбу на звера, спахапіўся: ці не страляе ў самога сябе, ці не забівае свайго меншага брата?»

Такая смеласць мастацкага мыслення ўражвала. Я быў пасаромлены за сваю нерашучасць. Дзяўчына, а якая вышыня думак і болю! І які сацыяльна дакладны прыцэл! Шчасліва знойдзена сваё вобразнае слова ў абарону дарагой сэрцу прыроды. Хоць сказаць гэтае — сваё — слова вельмі нялёгка. У кожнага чалавека, калі ён не чужы на сваёй зямлі, ёсць пачуццё, закаранёнае ў самым чыстым куточку душы, пачуццё мае свае вызначэнні, яны ў словах, нам даўно знаёмых, запаветных, ад запаветных дум і запаветнае мары ідуць. Але, каб скалыхнуць, прамяць, узрушыць яшчэ чыюсьці душу зарадам свае душы, трэба сказаць свежа, як ніхто іншы, вобразна. Гэта вельмі нялёгка. Тым больш што гавораць пра тое, пра што вось і ты сказаць надумаўся, многія. Слоў з любой нагоды у свеце пасеяна шмат — мастакамі і немастакамі, паэтамі і непаэтамі, вучонымі і невукамі. Засеяны цэлыя палеткі дэфіцытнай у наш век паперы, кіламетры, тысячы кіламетраў — квадратных — у самых шматлюдных залах і аўдыторыях. І яшчэ таму цяжка, што, на які крок адыйшоўшы ад свайго дому, па не папяровае, зялёнае ўлонне, у парк ці лес, хоць і ў маёй, дзе жыву, Сляпянцы ў Мінску, дзіву даешся: быццам ніхто тут і не сеяў нічога разумнага, добрага, вечнага, а калі і сеялі, дык невядома што — насенне ці мякіну? Тут табе і зламаныя дрэўцы, і

выпаленая вогнішчамі зямля, і абгарэлыя камлі хвой, і паразбіваныя аб камяні бутэлькі, і сяйво этыкетак ад іх.

«Тут была Люда». Нажом па дрэве? Дзе там! Нажом — дзень учорашні. Сёння — сякераю. Думай-гадай: як тая Люда прынесла ў лес тую сякеру?

Можа, усё гэта не таму, што сеялі дрэнным насеннем ці што сейбіты былі недасведчанымі аграномамі, парушалі на сяўбе агратэхніку? Можа, за ўраджай не сейбіты вінаватыя? Бо, што ні кажы, багата пасеяна і адборным, вялікай пладаноснай сілы насеннем. Як такое — у Прышвіна: «Абараняць прыроду — значыць абараняць радзіму». Пяць слоў, а якая канцэнтрацыя праўды, мудрасці, велічы! Ці ў Ляонава — лекцыя Віхрова ў «Рускім лесе»? Ці ў Караткевіча — з самага апошняга:

О любоў мая, Беларусь!<br>
Над туманным начным стаўком<br>
Пралятае самотная гусь,<br>
Разразаючы люстра крылом.<br>
. . . . . . . . . . . . . . .<br>
Разразаючы неба крылом.

Чалавецтва стварыла і працягвае ствараць велізарную бібліятэку мастацкіх, прыродазнаўчых, філасофскіх, сацыялагічных, эканамічных, гістарычных тамоў, якія вучаць мудраму зблiжэнню чалавека з прыродай, іх гарманічнаму суіснаванню, іх узаемнай любові. А як мы карыстаемся гэтай бібліятэкай?

Ёсць у мяне знаёмы — навуковы супрацоўнік аднаго вядомага прыродазнаўчага інстытута, кандыдат навук, добры паляўнічы, знаўца лесу, звяроў, птушак, чалавек начытаны. Неаднойчы, вярнуўшыся з зімовага ці вясновага палявання, вячэраючы з ім у ціхай лясной хатцы, слухаў, як ён узнёсла чытае, ведаючы на памяць, цудоўныя вершы Цютчава, Твардоўскага, сучасных паэтаў — аб прыродзе. Ён цікава расказвае пра гончых і борзых сабак, іх намуштроўку, пра глушца і цецерука, слонку і качку. Але вось загадка: гэты самы знаўца і аматар прыроды, яе нібыта сябра і абаронца, шмат гадоў наведваючы лясную Чэрыкаўшчыну, тыя самыя мясціны вакол Лімені, дзе бываю і я, жывучы ў іх падоўгу, карыстаючыся дабратою — часам бязмернай, а часам і проста злачыннай — нашых леснікоў і егераў, сялян і дырэктара лясгаса — як жа, вучоны з самой сталіцы! — шмат і шмат паспрыяў таму, што перавяліся ў тых лясных, па Сажы, мясцінах бакасы і дупелі, пераводзяцца слонкі, цецерукі, глушцы.

Цяпер ужо бакасаў і дупеляў не ўпалюеш, а колькі гадоў назад, калі гэтая далікатная птушка — адна з самых першых заложніц нашага браканьерства ў прыродзе — яшчэ жыла, ён надта любіў пацешыць душу гэтым панскім спортам. Дык каб жа толькі душу. Неяк уначы, ідучы праз лес, я завітаў у егерскую хатку, дзе ён тады жыў, палюючы. Радасці і гасціннасці на яго твары я не ўбачыў. Затое ўбачыў агонь у грубцы, на пліце — патэльню, вялізную, як на добрую, чалавек на дзесяць, сям'ю, на патэльні — смажаных дупеляў і бакасаў. Тут жа стаялі чыстыя слоікі, ляжалі накрыўкі. Саматужны завод па кансерваванні дупеля і бакаса працаваў ваўсю. Як жа! Навуковец збіраўся ў чырваназорную сталіцу, пад акном чакаў блакітны «масквічок», і не з пустымі ж рукамі, сумкамі, багажнікам вяртацца — сталіца любіць далікатэсы.

Пасля сустрэў у гэтых лясах даўно і добра знаёмага лесніка, былога лесніка. Паляўнічы, знаўца ляснога жыцця, яго таямніц, нораваў усяго жывога ў лесе, лясун, як кажуць, ад продкаў, патомны, а «пагарэў». І як? Аднойчы лясная ахова затрымала аўтамашыну, у ёй аказалася недазволеная дзічына, і след прывёў да яго хаты.

— Навошта ж ты, Міша, гэта зрабіў? — пытаюся.

Доўга маўчаў. Перажываў. Балюча, ведаю, было яму гэта пачуць ад мяне: душа яго ўся ў лесе, жыццё ў лесе. І раптам не вытрымаў маўчанкі, загаварыў:

— Але чаму, скажы, адным у нашым лесе страляць дазволена, а другім дазволу няма? З лесу жылі мае дзяды і прадзеды, яны гэты лес садзілі і даглядалі, тут мая пупавіна зарыта, і мне тут паляваць нельга, а яму — можна...

Я не схільны апраўдваць Мішу. Не апраўдаеш і за той выпадак з дзічынкаю, і за думкі: калі можна некаму, то можна і мне. Але ж думкі гэтыя не на пустым месцы ўзніклі? Калі ён казаў пра сталічнага навукоўца, дык гэтым самым не аднаго яго меў на ўвазе, за сваё жыццё ў леснікак-егерах нагледзеўся на гасцей-паляўнічых з ліцэнзіямі і без ліцэнзій, рознага рангу, чыну, звання. Законы як быццам адны для ўсіх, але ў жыцці — далёка не адны: запярэчыць тут цяжка. І адступленні ад іх, нават калі не наносяць вялікіх матэрыяльных страт, разбураюць маральную аснову жыцця, ствараюць умовы для самых нечаканых злачынстваў.

На беразе Сажа пад Крычавам я сядзеў, як сцямнела, ля вогнішча з калгаснымі пастухамі. Можа, стрэльба, якая была пры мне, павяла пастухоў на размову пра лес, звяроў,

птушак. Старэйшы з іх двух быў чалавекам начытаным, чытаў Сяргея Ясеніна, нават, выпіўшы, спяваў: «Клен ты мой опавший, клён заиндевелый...» Крытыкаваў паляўнічых, што страляюць птушку і звера, не берагуць прыроду, цяжка ўздыхаў: «І што гэта будзе з нашай зямелькаю гадоў праз дваццаць?» Яны ўсю ноч праседзелі каля вогнішча, назіраючы за статкам кароў, а я добра выспаўся ў іхняй будцы на сене. Раніцай выйшаў з будкі — пастухоў ля вогнішча ўжо не было, статак хадзіў далёка. Я выкінуў з яшчэ цёплага прысаку спечаную бульбіну, абшкроб, разламаў і... ледзь не падавіўся: вогнішча раскладалася звечара пад хвояй, хвоя на волі, не ведаючы дрэў-сапернікаў, вырасла тоўстая, кашлатая, нібы які дуб лугавы, з нізкімі тоўстымі сукамі, і ў камлі, залітым смалою, была гэтак дзіка пасечана, пашчапана, што невядома, на чым трымалася. Яе падсякалі не ўраз, а паступова, дзень за днём, ад камля адбівалі па смаловым палене, па два, па тры — у вогнішча. І хто? Ды тыя самыя пастухі, што да поўначы распіналіся ў сваёй любові да прыроды, горача клялі браканьераў ды яшчэ і спявалі: «Клен ты мой опавший...» А што гэта рабілі яны, сумненняў не было. Тут, пад хвояй, засталася ляжаць пакінутая імі сякера да наступнага вечара, валяліся свежыя трэскі, а на хвоі, на свежых ранах, яшчэ не застылі пацеркі жывой смалы.

Як зразумець такое? Сказаць на людзей, што яны брахуны, крывадушнікі? Мала.

Я заўсёды думаў так: берагчы рэчку, дрэва, птушку, звера па-сапраўднаму здольны той, хто іх па-сапраўднаму — як неабходнасць свайго жыцця — любіць, а любіць моцна, чыста можа той, хто не толькі начытаўся кніжнае мудрасці, але жыве з рэчкаю, дрэвам, зверам, птушкаю, ведае, глыбока, як самога сябе, разумее іх. Развіваючы гэтую думку, разважаў і далей: мы жывём у такі час, калі чалавек у сваім штодзённым жыцці ўсё больш аддаляецца ад рэчкі, лесу, жывёлы, птушкі, рыбіны, травіны, а не жывучы з імі, ён не здольны любіць іх непадманнай, натуральнай — каб не заўважаць яе нават у самім сабе — пастаяннай любоўю. І ўжо адсюль выходзіў на прычыну неразумных, часам злачынных паводзін чалавека ў прыродзе.

Але сам у сябе пытаюся: калі гэта так, то як быць з фактамі, пра якія толькі што расказаў? Там — людзі невыпадковыя ў прыродзе?

Можна пытанне паставіць іначай: а ці не з'яўляецца

бядою для прыроды разумны, начытаны, адукаваны чалавек, якому грамадства шмат давярае, дае ўладу, які жыве ў прыродзе пастаянна, добра яе ведае і таму здольны напоўніцу ёю пакарыстацца, не прызнаючы грамадскіх законаў і грамадскай маралі? А пасля — ланцуговая рэакцыя: недазволены ўчынак аднаго чалавека народзіць браканьерства дзесяткаў іншых. Як у выпадку з тым навукоўцам і былым ляснікоm-егерам.

Любая вялікая справа ці праява пачынаецца ад малога, з малога збіраецца. Гэтак і калектыўны клопат аб прыродзе, усенародная любоў да яе складаецца з адданасці, што жыве ў кожным чалавечым сэрцы, з адданасці кожнага сэрца сваёй роднай рэчцы, свайму полю, свайму лесу, сваёй сцежцы. Бо ў кожнага чалавека ёсць свая Пасада, свой Кут, аб якім так і падбівае сказаць Коласавымі словамі:

> Мой родны кут, як ты мне мілы,
> Забыць цябе не маю сілы...

Уся наша зямля, усе яе скарбы складаюцца з гэтых кутоў, камусьці родных, любых, уся яна на гэтыя куты падзелена, а гэта значыць, што за кожны куток ёсць каму заступіцца, падняць голас. І калі гэтак будзе, то ўся яна, зямля наша, будзе цэлая і вечна прыгожая.

Ёсць у Чэрыкаўскім раёне вёска Охар. Прыгожая, на самым беразе Сажа. Побач — старая прыгожая дуброва. Аднойчы дуброву пачалі секчы. Сек лясгас — па графе шырпатрэбу зводзіў дубы на калоды для гандлёвых арганізацый: на гэтакіх калодах у магазінах сякуць мяса. Але вохарцы паўсталі за сваю дуброву. Пілы і сякеры замоўклі. Праўда, дуброва ўжо напалову ляжала. Але другую палову ўратавалі.

Вось і трэба, каб гэтакія патрыёты-заступнікі за нашу прыроду знаходзіліся ў кожнай вёсцы, у кожным горадзе, у кожным лесе, на кожнай вуліцы і сцежцы.

Для гэтага, ўпэўнены, чалавеку трэба быць не толькі рэалістам, але хоць крыху летуценнікам, аптымістам, каб бачыць не толькі ў сябе пад носам, але і далей, зазірнуць у век сваіх дзяцей, унукаў і праўнукаў, паклапаціцца аб іх. Трэба глядзець на жыццё вачыма Галі Нячаевай з Веткі — кожную жывую істоту бачыць у нашым чалавечым абліччы.

Жывое павінна жыць. Бо жывое ад жывога залежыць. Жыццё чалавека — у жыцці кожнай жывое істоты. І нікуды ад гэтага мы не дзенемся.

## І СЕЙБІТ, І ЖНЕЦ

Ён стаіць каля калодзежнага зруба, схіліўшы галаву, глядзіць у чыстае вока жывой вады. Думае. Нарэшце, на сабе адчуўшы мой позірк, узнімае галаву, усміхаецца добрым разумным тварам і кажа:

— Прывычка аграномa заглядаць у калодзежы. Дзе там вада? Ці глыбокая?..

Апынуўшыся разам з Ігнатам Цімафеевічам Дуброўскім на Пскоўшчыне, я неаднойчы заўважаў, што на зямлі ён адчувае сябе найперш аграномам, а пасля ўжо — майстаком слова, пісьменнікам.

Вось ідзём па парку ў Міхайлаўскім. Адстаючы ад Гейчанкі, вядомага ахоўніка пушкінскага лукамор'я, Ігнат Цімафеевіч зноў і зноў згінаецца над травінай, лісцінай — разглядае, дзівіцца. Яму цікавае не толькі слова Гейчанкі, але і тое, што расце тут, на зямлі Аляксандра Сяргеевіча — якая кветка, якая травіна. Па кветцы, травінцы, лісціне ён чытае зямлю паэта, яе пладаносную сілу.

Хто яшчэ з нас, аўтараў раманаў, аповесцей, апавяданняў, паэм і вершаў пра вёску, можа сказаць, не пакрывіўшы душою, што ён агроном, ведае зямлю не горш за селяніна?

Пра гэта я не цяпер падумаў. І не там, на Пскоўшчыне. Кожны раз, калі трымаю ў руках новую кнігу Дуброўскага, чытаю яго творы, шчыра названыя нарысамі, я радуюся не такой ужо і частай у літаратуры з'яве, калі пісьменнік піша пра тое, што ведае глыбока, да дробязей, беспамылкова, што яго хвалюе дзесяткі гадоў, усё жыццё, пра зямлю — як вучоны і селянін, нібы ад цямна і да цямна ён і арэ, і сее, і жне. Прыйшоўшы ў літаратуру ад хлебных палеткаў, акадэмічных бітваў за разумную меліярацыю зямлі, яе пераўтварэнне, стаўшы вядомым публіцыстам, ён не разлучыўся з агранамічным полем, не сышоў з селавых дарог і сцежак.

Пра ўсё гэта сведчыць і кніга нарысаў «На новыя кругі».

Дні агранома Кулінчыка, старшыні калгаса «Ленінскі шлях», што на Пскоўшчыне, Кляпца, сакратара райкома партыі Федарэнкі, брыгадзіраў і калгаснікаў — дні нялёгкія, з берагамі поўныя працаю на зямлі, змаганнем за яе разумнае выкарыстанне, за яе ўрадлівасць і прыгажосць. Шчыруючы на цяжкіх суглінках, залітых вадою, зарослых кустоўем, не выратаваных, яшчэ больш папсаваных мелія-

ратарамі, Кулінчык адчувае сябе адказным за гэтую зямлю. Зусім не меліяратар, аграном з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, ён рашуча паўстае супраць акадэмічных, непрыгодных для андронаўскіх суглінкаў метадаў меліяравання. Ведаючы свае палі, адчуваючы, як можна паразумецца з імі, ён самастойна знаходзіць нечаканыя шляхі практычнай меліярацыі. Паспрабаваў на малым палетку — атрымалася. А як раскінуць прыдуманыя латачыны на сотні гектараў? Хто зробіць праект? Хто дасць сродкі? Кляпец падтрымлівае, Федарэнка падтрымлівае, але іх падтрымкі мала. Вучоны свет не прымае праектаў Кулінчыка, яго меліярацыю называюць саматужнай, шкоднай. А Кулінчык змагаецца за сваю ідэю. І перамагае. Перамога — не толькі ў грамадскім прызнанні навуковай і практычнай ідэі, але ў хлебным коласе, які наліваецца нечаканай моцаю, у радасці калгаснікаў, якія з тых самых забалочаных суглінкаў пачалі нажынаць у тры разы больш, чым у мінулыя гады.

Кругі нялёгкага змагання Кулінчыка за ідэю выводзяць яго, учарашняга калгаснага агранома, на вышыню вучонага, буйнога арганізатара сучаснага земляробства, калгаснай гаспадаркі ва ўмовах НТР. І тут ужо ёсць дзе разгарнуцца пісьменніку-аналітыку. Гэты момант Дуброўскі адчувае і выкарыстоўвае выдатна. Яго публіцыстычнае слова карпатліва даследуе праблемы, якімі жыве сённяшняя вёска, уся сельская гаспадарка.

Нарыс Дуброўскага ёмісты і зместам, і псіхалагізмам, і багаты на самыя розныя жыццёвыя праблемы. Пра што б ні пісаў пісьменнік — пра меліярацыю ці забудову вёскі, НТР на вёсцы ці быт селяніна,— ён не звужае тэму размовы, нішто не спрашчае, аб усім хоча выказацца, паразважаць. Бо ўсё ў вёсцы бачыць, ды і вакол яе, усё тут ведае, да ўсяго, чым жыве селянін, прыкіпае сэрцам. Мяккі, спагадлівы, зычлівы душою і ў слове, ён, калі трэба, можа зрабіцца рашучым, рэзкім, даць бой бюракрату, невуку, перастрахоўшчыку, і кожны раз — дзеля чысціні і праўды жыцця, дзеля чалавека.

Ці быў бы, скажам, вобраз Кулінчыка гэтакі перакаўчы, калі б аўтар не заўважаў у яго на шляху Настырнаву, райупаўнаважаную з яе прывычкай пасцёбваць падначаленых казённай пугаю, павучаць, калі трэба сеяць, калі трэба жаць? А якая каларытная завала — інжынер-праекціроўшчык Відавенка з яго апломбам вучонасці?

Кулінчык іх не спалохаўся. І ў сваёй мужнасці выра-

стае як асоба. У змаганні з чалавекам-завалаю, з пастухом-упаўнаважанай.

Альбо возьмем раптоўны пераскок у 1918 год. Сяляне вёскі Андроны пішуць пісьмо Леніну — даюць клятву навесці парадак на сваёй андронаўскай зямлі. Вось, аказваецца, дзе глеба Кулінчыка, на якой караніцца яго патрыятызм.

І яшчэ адна істотная асаблівасць нарысаў Ігната Дуброўскага — адносіны аўтара і яго герояў да прыроды. Гэтыя адносіны — ад поўнай згоды аўтара з прыродай, ад яго глыбокага ведання законаў жыцця расліны, зямлі, жывёліны. Ён іх дзіця, сваяк, абаронца, і гэтакія ў яго Кулінчык, Кляпец.

Мы яшчэ чытаем як новую кнігу Дуброўскага «На новыя кругі», а на паліцах кнігарань ужо з'явілася яго яшчэ адна кніга «Час сеяць і час жаць», таксама, як і ўсе папярэднія, прывезеная з доўгіх, нялёгкіх, удзячных дарог па Беларусі. Ігнат Цімафеевіч сее адборным зернем, засявае свой літаратурны палетак дбайна, нястомна, без агрэхаў, як сумленны селянін засявае сваё поле, і таму жніво ў яго заўсёды багатае, людзям патрэбнае.

Вось мы зноў сустракаемся пасля сваіх падарожжаў. Гаворым пра вёску, восеньскі рэй на палетках. Ігнат Цімафеевіч вярнуўся з Палесся, піша новы нарыс для «Полымя» — і нечакана захварэў. Восень, халады ды дажджы не заўсёды прыяюць падарожніку. А ўсё ж трэба ехаць — шукаць, пісаць, працаваць.

Ды і чаму — нечакана? Узрост... На восьмым дзесятку можна і спакайней жыць. Мы, яго маладзейшыя сябры, проста не прывыклі бачыць, каб ён калі-небудзь прыпыніўся ў сваёй руплівай дарозе, ціха радуемся яго нястомнасці.

Я ведаю, колькі бед сыпалася на галаву гэтага працавітага і сумленнага чалавека. І ў апошнія гады таксама. Цяпер ён зноў, здаецца, угадвае мае думкі, бо раптам кажа:

— А чым большыя нягоды, тым большая патрэбна мужнасць. Іншага сродку пасіліць іх я не ведаю.

Ён гэтакі. Ён заўсёды кажа толькі тое, што добра ведае, што шмат разоў праверыць і сваім, і народным вопытам.

Ёсць край, дзе Сож лагодна шыецца між бароў, палёў, лугоў, нетаропка падмывае чэрыкаўскія стромы. Пабыць там заўжды ахвота. І калі Сож выліваецца з берагоў, а птушкі, яшчэ не сеўшы на гнёзды, шалеюць ад спеваў, і калі на свежых духмяных разорах піруюць гракі, крыклівым выраем ганяюцца за трактарамі, і калі ў лузе звіняць косы, і калі з аднаго боку ад палявой дарогі вецер будзіць даспелае жыта, яно аж трымціць, а з другога боку ўжо камбайн вядзе загон, прымае ад зямлі яе залаты дар. А калі не выдасца пабыць ні ўвесну, ні ўлетку? Што тады запоўніць у душы засек, які павінна была запоўніць сустрэча з родным кутам? Ці ёсць яно — тое штосьці?

Я трымаю ў руках кнігу — новую, свежую, толькі з друкарскай машыны. У ёй — радкі:

> Ёсць гарадок паміж бароў,
> А ў ім нябачны з берагоў
> І кручаў Сожа, быццам
> схоў,—
> Каханы Роў.

І ўжо зусім блізка бачу свой малы, драўляны, абсыпаны садамі, надзвычай ціхі Чэрыкаў, знаёмы роў — след карозіі прыродных сіл, як сказаў бы падручнік па геаграфіі,— адчуваю сябе на свежай яго глыбіні, дзе пятляе мяккенькая сцяжынка, заблытаная разгулам траў, кветак, кустоў калакалушы і бэзу, у якіх не змаўкаюць салаўі ды пчолы. І дзіўлюся, як здорава паэт апаэтызаваў твой роў, Каханы Роў, звычайны роў. Не дзіва? Ах, прыгадалі Ахматаву: «Когда б вы знали из какого сора растут стихи, не ведая стыда, как желтый одуванчик у забора, как лопухи и лебеда...»? Не, гэта — не той выпадак. Вось і маці кажа:

— Помню, як мы дзецьмі ганялі сюды, у Каханы, кароў. Тут жа травы-травы стаялі, адны кветачкі. А то, бывала, ідзеш ровам ад Сажа, утомішся, сядзеш пад вярбою, з крыніцы нап'ешся, якую птушачку паслухаеш. А то, як падраслі, ужо дзяўчатамі...

І здаецца, што не паэт, не кніжны радок, а голас маці вядзе далей: «З былых часоў, з былых вякоў таіў і шанаваў любоў, на шлюбны ложак юных вёў Каханы Роў...»

Вось як хораша ўсё тут легла ў адну песню: жыццё і верш, матчын успамін і прадчуванне сустрэчы з родным кутам, з Сажом. Нават страфа з Ахматавай, магчыма, не

лішняя, бо паглыбіла думку пра тое, што і лопух, і лебяда, як і бяда зямлі — звычайны роў, могуць стаць высокімі паэтычнымі вобразамі.

Як у Пысіна.

Тым летам я працаваў у чэрыкаўскай раённай газеце, а ён, зямляк, наязджаў да нас з абласной — «Магілёўскай праўды». Неяк мы з ім ускочылі ў кузаў старэнькага грузавічка і — за Сож, у лес. Знайшлі спелы бор, падсочку жывіцы, рабочага са стругам на падсочцы. Мне быў патрэбны матэрыял для раёнкі, тэрмінова ў нумар — тады кожны радок бралі тэрмінова ў нумар,— і я вёў размову з рабочым, а як скончыў, агледзеўся — дзе спадарожнік? Я — туды, я — сюды, а ён стаіць пад сасною амаль побач, нячутны і непрыкметны, курыць, звесіўшы чуб, разглядаючы купіну сівога моху. Тая ж ціхая засяроджанасць, што ў лесуна — збіральніка жывіцы. Абодва — лесуны? Ці абодва — паэты?

А можа, падумалася, чалавек, калі ён творца, паэт, і павінен жыць гэтак ціха, згубіўшыся для староннягa вока ў прыродзе? Можа, толькі цішыня і дорыць слова, адпаведнае высокаму і чыстаму пачуццю?

Як гэтае:

> Ёсць на свеце мой алень,
> Ёсць і гэткае маленне:
> Будзь заўсёды ў аленя
> Цёмны мох і светлы дзень!

Чаго тут болей — цішыні ці паэзіі? Хто скажа? Ці, можа, паэзіі роўна столькі, колькі цішыні?

Гэтакім паэтам у прыродзе бачу яшчэ аднаго свайго земляка — дзеда Ягора. Жыве ён у вёсцы Мірагошч пад Чэрыкавам, на самым беразе Сажа. Усё жыццё араў зямлю, даглядаў жывёлу, вырошчваў сады, лавіў рыбу, касіў, лаяўся і мірыўся з жонкай Хадорай. Не вывеў на паперы ніводнае рыфмы, але не аднаму мне даў урокі высокай паэзіі.

Лета. Ноч. Сож. Вогнішча на ўзлеску. Ціша-ціша — лісціна не шалохнецца на дрэве. І вада дзіўна ціхая. Грудзьмі і рукамі аблёгшыся на вясло, дзед Ягор стаіць як нежывы. Ці спіць, стоячы? Раптам пытаецца:

— Чуеш?..

— Што? — не разумею.

— Прыроду чуеш?

Прыслухоўваюся — нічога не чую. Ані гуку. Кажу:

— Ціша?..

Тады ён пакутліва ўздыхае:

— Эх, каб я мог знайсці словы і выказаць, як душа горнецца да прыроды, як адчувае яе!..

Такія ў нас на Сажы паэты.

## СПАЦЬ НЕ ДАЮЦЬ ВАЎКІ

Лісты ляжалі ў чамадане. Яны гналі на поўнач Урала, у тайгу, на суровую Вішару — самы паўночны прыток Камы. Дабрацца туды можна было толькі з Пермі малым самалёцікам.

Што за лісты? Іх пісаў Максім Ладошкін, настаўнік з вёскі Васькавічы Чавускага раёна, які ўзімку 1929 года не па сваёй волі апынуўся на Вішары, будаваў там, у глухой тайзе, пасёлак Сталінскі і папяровую фабрыку імя Сталіна, адтуль слаў лісты ў Беларусь браценіку, майму бацьку, ужо ў шасцідзесятыя гады, пасля смерці Сталіна і пасля, вядома, XX з'езда партыі, які сказаў праўду пра культ і вярнуў добрае імя мільёнам ахвяр.

Лісты балючыя і цікавыя. Асцярожны бацька мне іх не паказваў, нават не казаў, што яны ёсць. Яшчэ больш асцярожная маці шмат іх спаліла ў печы. А тыя, што засталіся, цяпер ляжалі ў мяне ў чамадане.

Але пра лісты — пазней. Цяпер — Перм: подступ да Вішары.

Я прыехаў туды ўначы. Горад спаў. Спалі адміністраторкі ў гасцініцах. Ды надта позні час надаваў сілы і злосці — дзверы гасцініцы «Турыст» адчыніліся на мой грукат.

І вось я таксама ў ложку. Тры гадзіны ночы — не спіцца. Спаць не даюць ваўкі. Не тыя, якіх можна прысніць, прымроіць, прыгадаць,— жывыя. Яны выюць за акном. Я ўсхопліваюся з ложка, але ў акне ні лесу, ні стэпу, ні якіх-небудзь ваўчыных нетраў — цэнтр горада з шырокай, добра асветленай вуліцай і купаламі вялікага, са званарняй, сабора.

Быццам пачуўшы маё хваляванне, ваўкі замаўкаюць. Я зноў кладуся, не разумеючы — адкуль яны? Але калі закрываю вочы з думкай, што выццё мне, мабыць, прымроілася, яны зноў пачынаюць выць. Выюць зусім блізка, працяжна, з падвывамі, на тры галасы, якія лёгка адрозні-

ваюцца: грубы голас мацёрага, высокі голас ваўчыцы і няўпэўнены падгалосак маладога.

Заціхлі, як пачало развідняць. Паляжаўшы яшчэ з гадзіну ў ложку, адчуўшы, што ўжо не засну, я ўстаў, памыўся, апрануўся і выйшаў на вуліцу.

Людзі спяшаліся на работу — аўтобусы ішлі перапоўненыя. Мне — куды спяшацца? Я перайшоў вуліцу, падняўся на ўзгорак да сабора. Ганак узвышаўся з велічна высокімі калонамі. Але што за сабор? Што за помнік архітэктуры? Нідзе — ні слова. Паспрабаваў абысці — з аднаго і з другога боку ў сабор уразаліся муры. Паспрабаваў зайсці з вуліцы — спыніўся здзіўлены: «ЗВЕРИНЕЦ»!

Было роўна восем раніцы, і я быў самым першым наведвальнікам звярынца. Дзень пачынаўся — дарожкі і клеткі са звярамі былі прыбраныя, яшчэ вільготныя, па раўчуках бегла вада, уздоўж клетак валяліся мокрыя шлангі. Я ішоў паўз клеткі з птушкамі і звярамі. Кукарэкалі дэкаратыўныя пеўнікі, а буйная жыўнасць маўчала, нібы яшчэ не прачнулася. Спаў, седзячы, зарыўшы ў густую поўсць на грудзях доўгі нос, чорны гімалайскі мядзведзь, сапраўды падобны, як у тых казках, на калоду; нячутна пахаджваў ад сцяны да сцяны ў клетцы яго буры сваяк; стаяў, заплюшчыўшы вочы і нават не боўтаючы абвялым хобатам, індыйскі слон; драпежнымі чырвонымі вачыма мяне праводзілі ўсурыйскі і бенгальскі тыгры; ляжалі ці сноўдалі па клетках рысі, леапарды, ільвы.

Я ішоў у бок сабора. Яго сцяна са званарняй стаяла як бы на тэрыторыі звярынца, над клеткамі. Амаль падышоў да яе, сцяны, як убачыў перад сабою ваўка. Грывасты мацёры глядзеў на мяне заспана-каравымі вачыма, і мне адразу ўспомніўся трохгалосы ваўчыны хор: дзе ж астатнія? Агледзеўся. У суседніх клетках сядзелі ваўчыца і малады. Я адышоў ад іх падалей, але так, каб бачыць, сеў на лаўку, і невядома чаму — найшло раптам — завыў па-ваўчынаму. Як вучыў мяне Пятрок Ерафееў, ліменскі егер, але ціха, напаўголаса, падвыў і замоўк. І адразу мне адгукнуўся мацёры. Выцягнуўшы шыю, узняўшы галаву, вачыма недзе высока-далёка знайшоўшы сваю зорку, ён наструніўся ў нейкай малітоўна-натхнёнай паставе, адчужаны ў гэтую хвіліну ад усяго зямнога. Мацёраму пасобіла ваўчыца, а следам — малады. Адзін аднаго не бачачы ў клетках, яны ўсе аднолькава маліліся небу, туды жудасна галасілі.

Прыбегла прыбіральшчыца са шлангам. Ваўкі, мабыць,

штодня дапякалі ёй выццём, яна была злосная, таксама падобная на раз'ятраную ваўчыцу,— пусціла па звярах ваду са шланга. Тыя адразу зашыліся ў куты і замоўклі, падцяўшы хвасты, усё роўна як уміг забыліся, што яны ваўкі. Супакоіла і пайшла, пакідаючы ля клетак звягу і лаянку.

Ваўкі атрэсліся і зноў падышлі да сетак. Я зноў падаў голас, падобны на іхні. Ледзь-ледзь. І зноў першым адгукнуўся мацёры. Зноў яго тугу падхапілі ваўчыца і малады.

Зноў прыбегла са шлангам прыбіральшчыца. Яна раптам заўважыла мяне. Спынілася, як разгубіўшыся, моўчкі стаяла са шлангам наперавес, нібы манумент пажарніка. Але рашучая думка, адбіўшыся на яе твары, штурхнула да мяне. Я ўскочыў з лаўкі. Стаяў не рухаючыся, ужо сам ці не падобны на манумент яе ахвяры, чакаў, што яна зараз выкіне супраць мяне. Яна зразумела, што я настройваў ваўкоў, і была гатовая ўжо мяне загнаць, як тых ваўкоў, у кут, зусім змыць. Але шланг ў яе руках маўчаў.

— Ну, гад! — раптам вымавіла яна.— Ну, бандзюк!.. Ты?.. Ваўкоў?..

Я хутчэй падаўся да выхаду са звярынца. Бегчы не дазваляў гонар, стараўся ісці спакойна, але самому здавалася, што бягу ад пагоні.

Ля варот спыніўся, яшчэ раз азірнуўся, яшчэ раз убачыў звярыныя клеткі на фоне сабора, пад саборнай сцяною, і захацелася ўжо не напаўголаса, на поўны голас завыць.

Праз дзён дзесяць я вяртаўся з Вішары — зноў праз Перм. У Пермі перасеў на цеплаход «Кампазітар Скрабін», які плыў да Астрахані. Апоўдні «Скрабін» адчаліў ад прыстані. Па высокім левым беразе Камы цягнулася панарама горада, і ў той панараме я адразу заўважыў высозную, над усім горадам, званарню сабора. Згадаў ваўкоў, прыбіральшчыцу са шлангам, свае ганебныя ўцёкі — зрабілася і смешна, і сумна.

Каюта была на двух. Маім суседам аказаўся вясковы ўрач з Чардынскага раёна, які назваўся Аркадзем Пятровічам, чалавек яшчэ, можна сказаць, малады, гаваркі, крыху іранічны. Аднойчы я паведаў яму пра сваю сустрэчу з ваўкамі ў Пермі. Ён зразумеў і маё здзіўленне, і маё абурэнне, і сказаў, як бы тое-сёе праясняючы:

— Сабораў у вобласці не засталося. Такія былі гады — чысценька вымяталі. Пакуль апамяталіся. А з гэтым спазніліся. Ну, час іншы прыйшоў. Ды і ў самым цэнтры гора-

да. Усё відаць. Куды з ім дзецца? З аднаго боку абгарадзілі, каб людзі не бачылі. З другога — звярамі абклалі. Звярынцу тут не месца, кажаце? Але затое сабор стаіць. Пад аховай ваўкоў.

На трэці дзень раніцай «Скрабін» падышоў да Ульянаўска. Прыплыўшы на гадзіну раней, выкінулі якар пасярод Волгі — порт не прымаў. Мы з Аркадзем Пятровічам сядзелі на палубе ля акна сваёй каюты і любаваліся высознай стромаю горада — Вянцом. Ля ног быў і чамадан: маё падарожжа па Вішары, Каме і Волзе заканчвалася на гэтым беразе.

— А ведаеце, што тут, на Вянцы, на пачатку нашага стагоддзя стаяла дваццаць сем ці дваццаць восем сабораў? Можаце ўявіць, як глядзеўся Вянец пад гэтакім россыпам пазалочаных купалоў? Пакаціліся залатыя галоўкі...

— Ніводнай не засталося?

— Чысценька-а!.. Ва ўсёй вобласці. А вы абураліся, што ў Пермі кафедральны ахоўваюць ваўкі. Тут — ні ваўкоў, ні сабораў. Ды ці вам, беларусу, такое ў навіну?..

Тут мы і замоўклі.

Яшчэ праз некалькі дзён, жывучы ва Ульянаўску, я паехаў у Прысланіху. Вёска вядомая ў свеце хатаю Аркадзя Аляксандравіча Пластава — мастака-акадэміка, класіка савецкага жывапісу. Тут, у вясковай хаце, ён жыў, працаваў. Тут — натура яго пейзажаў, партрэтаў. Тут — ягоны быт, ягоны дух. Тут — працяг яго жыцця і самабытнага таленту: сын — мастак, унук — мастак. У хату-майстэрню яны прыязджаюць з Масквы — пажыць, папрацаваць на дзедавай роднай натуры.

З Мікалаем Аркадзьевічам я пазнаёміўся ва Ульянаўску, і вось прыехаў у Прысланіху паглядзець вёску і хату Пластава, дзе ўсё як пры яго жыцці. Прыехаў, не папярэдзіўшы загадзя гаспадара, і якраз хата была на замку. Я падышоў да калодзежа, які насупраць хаты, сеў на лаўку. Прыйшлі з вёдрамі жанчыны:

— Каго чакаеце?

— Чакаю Пластавых.

— Мікалай тут. І сын яго тут, таксама Мікалай. На эцюды паехалі. Чакайце — вернуцца.

На эцюды?.. Гэтак гаварылі старыя бабулі. Не сакрэт, ад каго не сваё слоўка ўзялі. І прамовілі мякка, натуральна. Сваім стала.

Падышоў з вёдрамі мужчына, закурыў.

— Прыгожая ў нас вёска? — спытаў, уставіўшыся не-

куды ў неба, але ў мяне, безумоўна, бо, акрамя нас двух, тут не было нікога. А можа, сам у сябе, бо сам і прадоўжыў: — Прысланіха!.. Ад якіх сланоў? Ад афрыканскіх ці індыйскіх? Ці што прысланілася да ўзгоркаў? Ці што ўзгоркі да яе прысланіліся? Горы-ўзгоркі, быццам сланы. Абступілі Прысланіху.

Ён ці не быў з тых паэтаў, якія жывуць у кожнай вёсцы?

— А што гэта за слон? — пацікавіўся я, кіўнуўшы на дзіўную будыніну з чорнага пракурадымленага бярвення, якая стаяла за дваццаць крокаў ад калодзежа на зялёным гусіным лужку перад самымі вокнамі ў Пластавых.

— Царква!..

Падалося, што чалавек жартуе.

— Хата без даху? Ці хлеў? Ці свіран? Што б ні было — дах патрэбны. Вецер сарваў? Ці нячыстая сіла?

— Нячыстая сіла,— паўтарыў следам за мной чалавек і пайшоў ад мяне, панёс суды вады, як пакрыўдзіўшыся.

Падышлі маладзіцы. Гэтыя пасыпалі — ледзь зачапіў:

— Цэркаўка стаяла. І служба была. Не ўвесь час, праўда. То была, то не было. Але аказалася некаму косткай у горле. На крыжы ды на галоўкі трасы накінулі — паскідалі на зямлю. Патрушчылі і згнаілі. Абрыгалі і аплявалі. Ужо і сцены звезлі б, каб сэрца не балела, як на ўсё гэта глядзіш. Не, сцены пакінулі. Вось — гніюць, зарастаюць. А сюды ж і вялікія людзі едуць паглядзець, дзе тут жыў-працаваў наш Аркадзь Аляксандравіч Пластаў. Пасаромеліся б паказваць свету гэтакае разбурэнне...

І тут я ўспомніў: мне ж некалі і расказвалі пра гэтую цэркаўку, як зрывалі з яе купалы і крыжы, як перажываў бяду пад сваімі вокнамі Аркадзь Аляксандравіч, як прасіў ён не чапаць цэркаўку хоць пры яго жыцці. Не паслухалі. І каго? Выдатнага рускага жывапісца, лаўрэата Ленінскай прэміі, акадэміка. Мясцовыя чыноўнікі аказаліся мацнейшымі. А ён, стары мастак, сышоў тады ў лес, каб вочы не бачылі. Як вярнуўся ў хату — дык і злёг.

Мясцовыя чыноўнікі? Але адкуль іх столькі напладзілася, што куды вокам ні кінь — усюды...

Едучы ў Прысланіху, не абмінеш і Языкава. Гэта радавы маёнтак таго самага паэта, Мікалая Міхайлавіча Языкава, вершы якога і сёння спявае народ, пра якога Пушкін, яго сучаснік, пісаў у лісце да Вяземскага вунь як: «Тут знайшоў я вершы Языкава. Ты здзівішся, як ён

разгарнуўся і што з яго будзе. Калі ўжо зайздросціць, дык вось каму я павінен зайздросціць. Ён усіх нас, старых, за пояс запхне». Гэтак Пушкіна ўразіла «Трыгорскае» Языкава:

> Придут ли дни? Увижу ль снова
> Твои холмы, твои поля.
> О православная земля...

Зямля гіне, калі на ёй гінуць гістарычныя, культурныя, духоўныя каштоўнасці. І гіне тады народ. У Языкаве — гінуць паэтавы сажалкі, паэтаў парк з яго старымі ліпавымі і яловымі алеямі. Ад дома паэтавага не засталося ніводнай цаглінкі.

Глядзіш на ўсё гэта — бачыш яшчэ і свае нядаўнія сотні кіламетраў паветраных дарог над таежным паўночным Уралам. Цэлы дзень лётаў на верталёце: што там, унізе? Плылі вёрсты таежных пустак, пакінутых па волі чалавека лесам, забалочаных, закіданых валежнікам, макаўем, гніллём, у пашкуматанай і абдзёртай таежнай вопратцы, то шэрай, то бурай, то чорнай, дзе гуляў агонь. Бяда раскашавалася і на рэках — па волі таго самага чалавека, злачыннага і брахлівага, ішоў забаронены, калі верыць газетам ды ўрадавым пастановам, молевы сплаў: вады не відно за бярвеннем, а дзе яна, вада тайгі, і бліскала нечаканымі лапікамі, дык то, здавалася, і не вада цякла — рудая патака, змешаная з зямлёю і драўнянай карою, са смерцю ўсяго жывога, што было ў ёй. На малых рачулках, што беглі з гор у Вішару, працавалі алмазныя драгі, якія няшчадна пераварочвалі, перамывалі, перасейвалі рэчышча, пакідаючы пасля сябе звалку,— ні берагоў, ні дна рачнога, ні раслін, ні рыбы, ні самой ракі не заставалася. Цёк брудны селевы сток. Цякла смерць.

І як тут было не завыць тым падсаборным ваўком?

І як было не падумаць у адчаі: адкуль у нас гэтакая сіла разбурэння і вынішчэння? Ды свайго. Ды роднага. Адкуль?..

## І ДА ЯГО, І ДА СЯБЕ

На вышыню Тарасаву ніхто ніколі не ўзыдзе, як ніхто ніколі не пераЖыве ягонае драмы, драмы прыгону. Але людзі, якія хочуць звацца людзьмі, ідуць і ідуць, падымаюцца на яго гару, бо ён, Тарас Рыгоравіч, усіх сюды,

на Чарнечую, да сябе кліча, усіх збірае, каб паяднаць сваім болем і сваёй песняю. З яго вышыні па-новаму бачыш і свет, і самога сябе.

Гэтую думку я запісаў у кішэнны блакноцік, як сваё маленькае адкрыццё, ад жывога ўражання, на Чарнечай гары, узышоўшы на яе і аддыхаўшыся. Цяпер, праз колькі дзён, перачытаў і задумаўся: дзе і калі я рабіў свае першыя крокі да Кабзара?

Успамінаецца зіма сорак першага года: Татарыя, райцэнтр Старое Даржанова, двухпавярховая драўляная школа, школьны двор, у двары — стары драўляны дом, у ім — пакой з грубкаю пасярэдзіне, ложак за грубкаю, а пад ложкам — чорны драўляны куфэрак. Што за куфэрак? Чый ён? Што ў ім?

Бачу чарнявага настаўніка, татарына. Ён жыў у гэтым пакоі і пакідаў яго нам, ідучы на фронт. Бачу, як ён збірае на стале ў мяшок рэчы. Над сталом пад столлю, на кручку-драціне, падвешаны мех з сухарамі. Сухары настаўнік сушыў на чорны дзень, а падвешваў ад мышэй. Ідучы на фронт, пакідаў нам гэтае багацце, але і не толькі гэтае. Калі бацька, сястра і маці былі ў школе, і мы з ім, нашым нечаканым дабрахвотам, засталіся ўдвух у хаце, ён паклікаў мяне да сябе, дастаў з-пад ложка драўляны куфэрак, скінуў з яго маленькі замочак, адкінуў века і выклаў адтуль, з куфэрка, на стол дзіўныя рэчы: акварэльныя, у талерачках, фарбы, мякенькі пэндзлік, вялікі сшытак, яшчэ навенькі, для малявання, карабок каляровых алоўкаў і кнігі — Сланімскага «Чарнігаўцы», раман, і Шаўчэнкаў «Кабзар». Настаўнік пагладзіў мяне, малога, па галаве — мне было сем гадоў, і я ўжо чытаў — і сказаў: «Гэта я пакідаю табе. Гэта мой табе падарунак. Можа, калі-небудзь і ты мяне ўспомніш». І я помню яго да гэтага часу, бо куфэрак, які ён мне падарыў, шмат у чым вызначыў мае захапленні ў маленстве, маё развіццё, мае духоўныя пачаткі, берагі маёй патаемнай размовы з жыццём. Праз чатыры гады вайны той куфэрак я прывёз, вярнуўшыся з бежанства, у Крычаў, і ён яшчэ і цяпер — праз паўстагоддзе — стаіць, абгрызены мышамі і абдзёрты, недзе на гарышчы маёй крычаўскай хаты. На кніжнай паліцы стаіць той самы «Кабзар», побач з «Чарнігаўцамі»,— кнігі мне дарагія, бо адны з першых маіх кніг, па якіх я вучыўся разумець свет і самога сябе, якія шмат чаму мяне навучылі, шмат сцежак у жыцці мне паказалі. А тыя фарбы, той пэндзлік? Іх я ўжо не знайду, але

і яны тое-сёе ва мне абудзілі, выяснілі. Яшчэ можна знайсці ў той самай крычаўскай хаце і па суседзях ці мае акварэлі, ці карціны, напісаныя алеем на палатне, якім тады, у першыя пасляваенныя гады, былі нямецкія мяхі з арламі ды свастыкамі, якія я старанна загрунтоўваў, нацягнуўшы палатно на падрамнік. Сярод акварэлей з тых пасляваенных гадоў застаўся і партрэт Шаўчэнкі, копія з таго, якім адкрываўся «Кабзар» таго, з куфэрка, даваеннага выдання: густыя вусы, суровы пагляд на свет, на галаве папаха, кажух на плячах. Намаляваўшы, я прынёс яго, памятаю, у школу.

Быў урок літаратуры. Настаўніца Дар'я Маркаўна заўважыла яго ў мяне і павесіла на класную дошку — пачала чытаць на памяць:

> Нащо мені чорні брови.
> Нащо карі очі,
> Нащо літа молодії.
> Веселі дівочі?
> Літа мої молодії
> Марно пропадають.
> Очі плачуть, чорні брови
> Од вітру линяють.

Пасля гэтага Дар'я Маркаўна, адна з лепшых маіх настаўніц, часта казала мне: «Віця, намалюй партрэт Пушкіна к наступнаму ўроку». Ці: «...партрэт Лермантава». І я маляваў. І Пушкіна, і Лермантава, і Гогаля, і Някрасава. Яна вешала партрэт на класную дошку і вяла ўрок. Тады ў школе нагляднасці, як цяпер, не было, не было ні кніжак, ні партрэтаў пісьменнікаў. Мала ў каго былі падручнікі.

Чаму гэта ўспамінаю зараз? Ды таму, што адтуль, ад настаўніка-татарына, ад яго куфэрка, ад «Кабзара» і фарбаў з таго куфэрка, які знайшоў мяне ў далёкім сорак першым, пачалася мая сцяжына сюды, на гару Чарнечую. А яна і не можа быць лёгкая. Тут, у Каневе, мне расказалі, як пасля вайны на гару Чарнечую падымаўся салдат, вярнуўшыся з вайны без ног. Людзі хацелі падхапіць яго пад рукі, панесці на гару, да Тараса, але ён адмовіўся ад іх ласкі, сказаўшы: «Тарас не прыме мяне, калі я сам да яго не падымуся». І ён падняўся на Чарнечую гару да Кабзара — без ног. І калі б некалі мая любімая настаўніца не прачытала гэтае шаўчэнкаўскае: «Нащо мені чорні брови...», калі б гэта не засталося ў памяці з таго галоднага пасляваеннага года, можа б, я не пачуў «Ду-

мы» паэта з гэтакім неверагодным хваляванем, з якім пачуў іх цяпер, ледзь пераступіўшы парог доміка-музея Шаўчэнкі на былым Казіным балоце ў Кіеве ў адну з раніц сакавіка, прыехаўшы сюды на святкаванне ўгодкаў вялікага Кабзара.

Думи мої, думи мої,
Лихо мені з вами!

Наверсе, пад столлю мансарды, куды вяла лесвіца, спяваў, яднаючы тугу чалавечай душы з тугою струн бандуры, цудоўны ўкраінскі спявак Юрый Дзямчук, а здавалася, што там, угары, усё роўна як недзе пад небам, на сваё Чарнечай гары, са светам гаворыць сам Тарас Рыгоравіч. І гаворыць, і кліча да сябе на размову. І ты ідзеш — падымаешся лесвіцай, быццам на яго голас. Быццам падымаешся на Чарнечую гару. І да яго, і да самога сябе.

Гэта я заўважаў і раней: кожны крок да Кабзара — крок нібыта і да самога сябе. Там, на Чарнечай гары, пачуўшы пра таго бязногага салдата, я зразумеў, што гэта адчуванне — не толькі маё. І тут — адна з таямніц яго паэзіі.

Як спасцігнуць гэтую таямніцу?

Ёсць пытанне. Да самога сябе. Нечаканае:

«Калі б маё адкрыццё Кабзара супала з цёплымі, ціхімі, сытнымі, мірнымі, светлымі, проста шчаслівымі днямі майго жыцця, ці адгукнулася б душа на голас шматпакутніка Тараса Рыгоравіча так, як яна адгукнулася?..»

Куды дзенешся — жывуць таямніцы і загадкі паэзіі. Але гэта не толькі таямніцы і загадкі паэта. Яшчэ гэта таямніцы і загадкі душы, якая адкрывае душу паэта. І вось гэта, апошняе, магчыма, свет не менш хвалюючы, як свет самога паэта.

Аб гэтым думаеш і калі ўспамінаеш сваё, і калі бачыш, як ідуць і ідуць на Чарнечую гару да паэта людзі, калі ўяўляеш, што гэта ідзе народ і што ён, народ, ідзе да паэта вунь з якіх часоў!..

Так і яшчэ раз — так: і да яго, і да саміх сябе.

## «ХАЧУ ЧЫТАЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ...»

Быць ці не быць?
Жыць ці не жыць?
Гэтую, па форме — гамлетаўскую, трывогу за лёс бе-

ларускай мовы я чую кожны раз, калі выходжу да людзей на адкрыты, з вока на вока, дыялог аб жыцці і літаратуры. Яшчэ два-тры гады назад гэтае пытанне можна было пачуць ад настаўнікаў ці студэнтаў філфака, ад работнікаў культуры ці за сяброўскім сталом. Сёння яго задаюць табе, пісьменніку, усюды, куды б ты ні прыйшоў і ні прыехаў.

— Што будзе з беларускай моваю? Няўжо яна гіне?..

У апошні час, чуючы гэтае пытанне, я кожны раз успамінаю выпадак, які адбыўся год назад у Чавусах.

На сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі мясцовай школы-інтэрната я быў запрошаны разам з паэтам Алесем Пісьмянковым. У вялікай актавай зале сабраліся вучні і настаўнікі — колькі зала магла змясціць, з усіх класаў, ад першага да дзесятага. Быў позні вечар, заняткі ў школе скончыліся, і ніхто нікуды не спяшаўся — сустрэча зацягнулася. Алесь чытаў вершы, я расказваў, як і адкуль прыходзяць сюжэты і вобразы, пра свае вандроўкі па родным краі, па свеце. Нядаўна вярнуўшыся з падарожжа па Індыйскім акіяне, успамінаў жыццё і прыроду на Мадагаскары, Сейшэльскіх астравах, Маўрыкіі. Было шмат пытанняў, якія і накіроўвалі наш дыялог. Калі ж сустрэча закончылася, мы з Алесем яшчэ доўга сядзелі ў настаўніцкай. Выйшлі з яе — на калідорах ціха, у класах цёмна, нідзе ніводнага вучня. Выйшлі ў сад — цемень, дождж, напалам са снегам, хлюпата пад нагамі, вецер злосны, золкі, да касцей праймае. Дзе машына? Даўгавата шукалі яе ў цемені саду, але знайшлі. Хуценька схаваліся ў машыну, завялі, не столькі — каб хутчэй ехаць, колькі — каб хутчэй сагрэцца.

І раптам нешта нясмела зашоргала побач па дзверцах. Я зірнуў у бакавое шкло і там, за шклом, заўважыў размытыя цеменню і дажджом абрысы дзіцячага тварыка, з якога на мяне глядзелі прагныя, напоўненыя нейкай малітваю вочы.

Я адчыніў дзверцы:

— Ты... чаго тут стаіш? Лезь у машыну!..

Хлопчык быў маленькі, з першага ці з другога класа, худзенькі, пінжачок на ім быў мокры, на плячах ляжаў мокры снег, мокрая была галава, па галоўцы, па тварыку плыла макрата золкай восеньскай ночы. Але, увесь калоцячыся, ён не хацеў лезці ў машыну. Ён раптам сказаў жаласлівым, быццам усім светам пакрыўджаным голасам:

— Дзядзь!.. Навучыце мяне гаварыць так, як вы, па-беларуску?.. Я хачу чытаць па-беларуску...

О, дзіця беларускае!.. У самае сэрца!.. Як гэта ты?..

Я не хаваў сваіх мокрых вачэй.

Пасля, правёўшы хлопчыка ў цёплыя інтэрнатаўскія пакоі, дзе ўжо клаліся спаць яго сябры, мы з Алесем сядзелі ў цёмнай машыне, пагасіўшы агні, як дагэтуль іх пагасіла ноч, быццам не ведалі, куды цяпер ехаць. Штосьці гаварыў, уздыхаючы, Алесь. Ён, малады, мог і пагаварыць. Я маўчаў. Маўчаў і думаў: што прывяло хлопчыка да машыны? Што прымусіла яго гэтак доўга на лютым ветры, пад дажджом і снегам, чакаць нас? Ахвота навучыцца гаварыць і чытаць па-беларуску? — чаму не вучылі ў школе? Але што падказала яму, адарванаму ад роднага слова, што гэтаму трэба вучыцца? Сумленне? Памяць крыві? Значыць, і не чуючы тут, у школе, беларускага слова, душа да яго не аглухла? Значыць, сумуе па ім, прагне яго, моліць вярнуць яго да сябе?..

Вось ён — невынішчальны дух каранёў.

А што ж школа? Яна не чуе гэты голас? Няўжо настолькі аглухла і аслепла? І навошта яна тады — такая?

— Што будзе з моваю беларусаў? Ёй — жыць ці не жыць?

Цяпер, калі я зноў і зноў чую гэтае пытанне, мне кожны раз бачыцца той хлопчык у школьным начным садзе ў Чавусах, пад ветрам, дажджом і снегам, і я кажу — яму, таму закалеламу хлопчыку, і ўсім:

— Жыць! Яна будзе жыць!..

Бо не магу пакінуць яго, дзіця Беларусі, у непагоду без веры ў свае карані.

Кажу гэтак, але з болем і немалой трывогаю.

## УСЕ ЧАТЫРЫ НЕБАСХІЛЫ

Гэтую зіму я сустрэў у Парыжы; яе маразы, самы ледзяны агонь, перажыў на Ішыме, які сшывае лесастэп паўночнага Казахстана з Сібір'ю; а провады зімы спраўляю паміж Парыжам і Ішымам, можа, якраз пасярэдзіне стужкі, напятай паміж імі, на беразе Сажа ў цёплай мамінай хаце.

Тут, на Сажы, седзячы па вечарах каля грубачкі, у якой гараць сухія бярозавыя дровы, мне заўсёды хораша

Аўтар робіць гэта невыпадкова. Ён памятае закон мастацтва, выказаны Львом Талстым неаднойчы, аднойчы — у пісьме Файнерману: «В повествовании об Иосифе не нужно было описывать подробно, как это делают теперь (як, дарэчы, робяць і зараз, да чаго ўжо і крытыку прывучылі настолькі, што яна ў гэтых нудна зацягненых апісаннях бачыць вартасці мастацкага твора.— *В. К.*), окровавленную одежду Иосифа, и жилище, и одежду Иакова, и позу, и наряд Пантефриевой жены, как она, поправляя браслет на левой руке, сказала: «Войди ко мне», и т. п., потому что содержание чувства в этом рассказе так сильно, что все подробности, исключая самых необходимых, как, например, то, что Иосиф вышел в другую комнату, чтобы заплакать,— что все эти подробности излишни и только помешали бы передать чувство».

Вядома, каб чамусьці навучыцца ў такога настаўніка, трэба валодаць майстэрствам і інтуіцыяй. І, можа, «Сачыненнем на вольную тэму» Кудравец якраз найбольш моцна заявіў, што са словам і вобразам ён абыходзіцца як сапраўдны майстра.

Ён, апавядальнік, піша сцісла, у манеры і стылі малога жанру, на слова — скупа, хутчэй недавыкажа, як скажа лішняе, з поўным даверам да паводзін героя, да яго здольнасці самавыяўляць сябе, сваю асобу, калі не трэба староніх, хоць і аўтарскіх, разваг, ацэнак, удакладненняў. У абмежаванасці такой мастацкай пазіцыі ёсць рызыка. Але Кудравец рызыкуе свядома, упэўнены, што неабходнага эмацыянальнага эфекту даможацца. І гэта не самаўпэўненасць.

Адна з самых адказных сцэн — сцэна вяртання героя ў родную хату, да дзяцей і жонкі. Сустрэчу ўскладніла жонка, пад канец вайны ўзяўшы ў хату параненага партызана, жывучы з ім. І вось — вярнуўся жывы муж. Што ён скажа? І што яму адкажа яна?

«Ну во, і сустрэліся... І я тут, вапшчэткі, во... дома... Ну, не плачце... Усё будзе... неяк усё будзе».

Больш — ні слова. Не, яшчэ адно — убачыўшы швейную машыну:

«Уцалела?»

Такое свята і такая драма ў хаце — адразу. Як жа перадаць усю складанасць моманту, перажыванняў, калі герой, ад якога трэба шмат пачуць, маўчыць? Хай гавораць жонка, дзеці? Але яны таксама, разгубленыя, не вельмі знаходзяць патрэбныя словы.

Тут і адбываецца цуд: з усяго «не тое» атрымоўваецца якраз тое, што перадае і драму, і свята, і ўсю складанасць сустрэчы. Бо ў гэтым «не тое» — праўда моманту, жыццёвая псіхалагічная праўда, якая нідзе ні ў чым не парушана. Аўтар нібыта памятае, што слова не толькі стварае, але і разбурае, і тут галоўнае не даць яму хоць у малым разбурыць праўду моманту. Слова пазначае круг, межы эмацыянальнага поля, якое ў дадзеным выпадку дзейнічае на чытача мацней.

Кудравец, аднак, не баіцца і слова, якое нібыта разбурае.

Доўгія гады не бачыліся бацька з сынам. І вось нарэшце Лёнік вярнуўся са сваіх неразумных вандровак у бацькаву хату, вярнуўся цяжка хворы. І што яму кажа бацька?

«Позна ж ты вярнуўся, сынок...»

А яшчэ — што? Яшчэ — тое самае:

«Вапшчэткі, позна».

Нібы адсек сябе ад сына. Гэта палохае маці:

«Ты заўсёды знойдзеш, чым парадаваць роднае дзіця».

Яе голас быццам разумны, апраўданы.

Адразу прыгадаем і наступную сустрэчу бацькі з сынам, апошнюю сустрэчу — у бальніцы. Вось ён прыйшоў да сына і спытаў:

«Ну, дык як ты тут?»

«Анічога...»

«Вапшчэткі, яно так,— пагадзіўся Ігнат Сцяпанавіч і недыпламатычна спытаў: — Ты што гэта, сур'ёзна надумаў паміраць?»

Праз тыдзень сын памёр. Ні на хаўтурах, ні на могілках ніхто не ўбачыў слёз на вачах у бацькі. Каменны чалавек?

Можна зноў абурыцца. Можна за ўсё гэта назваць Ігната Сцяпанавіча чалавекам «сярэдніх духоўных магчымасцей». Ён нібыта дае падставы. І аўтар дае падставы, каб сказаць гэта, уклаўшы ў вусны героя словы, якія могуць разбурыць наша ўяўленне аб ім як аб духоўна нармальным чалавеку.

Але... што адбываецца далей?

«Назаўтра пасля пахавання Ігнат Сцяпанавіч узяў стрэльбу і з раніцы сышоў з дому. Вярнуўся позна вечарам, нікога не забіўшы. Так было і на наступны дзень. Марына пачала трывожыцца...»

І хвалюемся мы, цяпер толькі адчуўшы, разам з Марынаю, якую рану носіць Вапшчэткі ў той лес, якія слёзы.

Не тыя, што паказваюць на людзях. І гэта — глыбіня душы, якая не ў кожнага. Яна — на вяршыні піраміды людскіх пачуццяў.

І няма тут «дыстанцыі паміж пісьменнікам і персанажам», якую заўважыў той самы крытык. Ёсць пагроза іншай дыстанцыі: паміж героем і чытачом, калі чытач не мае духоўнага вопыту героя, а значыць, можа не зразумець яго на тых тонкіх збегах жыцця, дзе герой якраз і выяўляе без лішніх слоў і паказных эмоцый, непрамалінейна і мудра, ціха і сціпла свае чалавечыя глыбіні.

Аўтарская пазіцыя ў такіх сітуацыях даволі нейтральная. Ён не спяшаецца кінуць чытачу выратавальны круг. Ён верыць у чытача, у яго мудрасць і духоўны вопыт. Яго «нравственность» раўназначная «нравственности» героя.

Творчая манера Кудраўца, так выразна ўвасобленая ў вобразе Вапшчэткі, караніцца ў глебе народнай эстэтыкі, у чым пераконвае і мастацкая дэталь.

Вярнуўшыся з вайны, падышоўшы да роднае вёскі і дазнаўшыся, што жонка, пакуль ён быў на фронце, жыла з іншым, Вапшчэткі просіць у знаёмага селяніна новае тапарышча на тапор, які вёз з Германіі. (Хто што вёз, а ён — тапор!) Насадзіў тапор, абгарнуў анучай, сунуў у мяшок і пайшоў ад сяла да сяла — да людзей. І далей: «...з мяшка, зашморгнутае вяроўкай, як ствол вінтоўкі, вытыркалася новае бярозавае тапарышча. Ігнат аддаляўся, а тапарышча белай латкай доўга яшчэ віднелася на шэрым полі шыняля».

Калі б выдавалася энцыклапедыя лепшых мастацкіх дэталяў літаратуры, то, упэўнены, гэтая дэталь стала б у адзін рад з дэталлю Шолахава — калі Рыгор Мелехаў, адваяваўшыся, падышоўшы да роднага хутара, выкідае ў Дон вінтоўку і патроны.

Абараняючы Вапшчэткі, яго маральную і духоўную вышыню, я ў той жа час не магу поўнасцю пагадзіцца з нясучымі, калі пакарыстацца моваю будаўніка, канструкцыямі, камунікацыямі, на якіх трымаецца будынак рамана як жанру, яго камфорт. Кожны жанр мае сваю формулу трываласці, якой бы ўмоўнасцю нам не здаваўся сам жанр. Узводзіць шматпавярховую кладку на падмурку, разлічаным для аднапавярховага доміка,— рызыка, якую не заўсёды выратуе і майстэрства, з якім кладуцца сцены.

Ад сённяшняга слова Анатоля Кудраўца ў літаратуры цікава вярнуцца да яго першых апавяданняў. Ці ёсць там

вытокі яго сённяшняй мастацкай канцэпцыі жыцця і чалавека?

Здавалася б, што ідэйныя, філасофскія, маральна-этычныя пазіцыі, якія мы бачым у «Сачыненні на вольную тэму», выяўленыя ўпэўнена, арганічна з вобразна-жывапіснай манерай, павінны былі б з'явіцца як вынік сур'ёзных пошукаў пісьменніка, яго не толькі мастакоўскай, але і грамадзянскай сталасці. Аднак лепшыя з апавяданняў першай ужо кнігі «На зялёнай дарозе», такія, як «Іваніха», «Сяструха», «Марута і Зіна», «Цітаўкі», «На балоце скрыпелі драчы», «Такі дзень», сцвярджаюць той жа ідэал жыцця і чалавека, тыя самыя маральна-эстэтычныя каштоўнасці, што і твор, напісаны сёння. Яны маглі б стаць старонкамі рамана. Тая ж увага да гістарычна сінтэзаванага народнага характару, народнага эстэтычнага ідэалу. Тое ж захапленне жыццём — такім, якое яно ёсць. Зялёным — жывым.

Успомнім Гаўрылу з «Такога дня». Хіба яго сялянскае сумленне не ад таго самага кораня, што і сумленне Вапшчэткі?

Ці хіба Маруту і Зіну цяжка ўявіць духоўнымі сёстрамі Полі? Хіба ім, Маруце і Зіне, Вапшчэткі не мог пашыць тыя самыя боцікі, якія гэтак прыгожа паднёс Паліне?

І Максім з таго апавядання, дзе скрыпелі драчы, мог бы разам з Валерам бываць у Вапшчэткі, параіцца з ім наконт Мані і ўсяго таго, што раптам навалілася-накацілася.

Ды і Яніна з «Сяструхі», Іваніха са сваімі козамі, дзед Агей са светлай усмешкаю пад спелымі цітаўкамі адчыняюцца тым ключом, якім адчыняе навакольны свет Ігнат Сцяпанавіч.

Гэты ключ, як і характар, з двайным сакрэтам: адзін —на загадку, якая ў гістарычнай нацыянальнай традыцыі, другі — на загадку новай вёскі, сучаснага характару, якія трансфармаваліся з гістарычнай традыцыйнасці пад уплывам новых грамадска-палітычных, эканамічных, сацыяльных умоў жыцця.

Вядома, пісьменнік сёння той і не той, што быў. Стварыць вобраз Вапшчэткі ён мог толькі сёння, на сённяшнім узроўні свайго майстэрства і бачання свету. Тады, як пісаліся першыя апавяданні, гэтакі вобраз яму быў не па сілах. Але ўжо тады, адчуваецца, ён ведаў і разумеў свайго сённяшняга героя.

Мне ўспамінаецца вёска Аколіца на Клічаўшчыне. Ледзь не Ліпніца. Родная Толева вёска.

Яго хата.

Маці — Ксеня Іванаўна.

Тры дрэўцы: ліпа, вярба і бярозка.

Вечарэла. Стаяла ціша, якая бывае толькі ўвечары, у малой вёсачцы, дзе няма моладзі, адны старыя жывуць-дажываюць, ды калі вёска абнесена з усіх бакоў лесам, ды калі вечар на пачатку восені, ды калі дыхнула першым восеньскім холадам. Памерзлі і адсыпаліся камары. А то б, здаецца, ляцеў каторы ў другім канцы вёскі, а тут было б чуваць, як ён там звініць.

Мы стаялі пад тымі дрэвамі. Ціхім нетаропкім голасам, успамінаючы, Толя расказваў, як садзіў іх трыццаць гадоў назад. Была таксама восень. Ён, вясковы настаўнік, ішоў служыць у армію.

Адкуль найшло, каб пасадзіць, пакідаючы вёску, тры дрэўцы: ліпу, вярбу і бярозку? Каб праз тры гады вярнуцца да іх? Каб яны раслі, гукалі да сябе, у вёску? Была небяспека, што не вернецца? У тыя гады хлопцы, ідучы ў армію, загадзя ведалі, што не вернуцца, адслужыўшы, зачэпяцца недзе за горад.

Гэты матыў ёсць у «Раданіцы». Што адчувае, ідучы ў армію, герой аповесці Іван? «Было яшчэ адно, у чым ён баяўся прызнацца сабе, а не тое што маці: Іван быў упэўнены, што жыць у Буднеў ён не вернецца».

А Кудравец? Таксама адчуваў гэта? Вядома. Але мацней, як герой аповесці, як іншыя аднагодкі, баяўся, што не вернецца. І пасадзіў тры дрэўцы.

Гэтая боязь, мусіць, ад незвычайнай духоўнай перапоўненасці вёскаю, ад вельмі моцнага адчування сваіх сацыяльных і духоўных каранёў, ад прыроднага таленту прадчування, што духоўны набытак вёскі калі не выратуе ўвесь свет, то яго, свайго сына, сцвердзіць як чалавека. Ці не гэтым прыродным талентам трэба вытлумачыць той факт, што ў літаратуру Кудравец прыйшоў з ужо сфарміраванай канцэпцыяй чалавека і яго духоўнай сутнасці? Заяўленая ў першых апавяданнях, гэтая філасофская і мастацкая канцэпцыя не змянілася пазней, больш таго — творчасць, вышэйшая мастацкая задача, якую вырашаў пісьменнік усе гады, нават не патрабавалі канцэптуальных пераарыентацый ці ўдакладненняў. Ранні светапогляд аказаўся на ўзроўні сталага сённяшняга майстэрства.

Аб гэтым нам шэпчуць ліпа, вярба і бярозка ў Аколіцы.

У «Раданіцу» варта ўвайсці не толькі той сцежкаю, якой Іван пакідаў вёску, выпраўляючыся ў армію, але і

той, якой ён прыязджае з Мінска да бацькавай магілы, да маці, да Веры, да ўсіх і ўсяго, з кім і з чым вёска паяднала героя аповесці, якою ён прыехаў і ў «такі дзень, калі ўсё разам — і слёзы і радасць, і жывыя і мёртвыя, калі да кожнага чалавека прыходзяць думкі пра тое, хто ён і што ён, куды ідзе і адкуль ідзе, і ці ёсць у яго на гэтым свеце яшчэ што-небудзь акрамя яго самога...»

Бо ў тым Іванавым дні так многа ад дзён самога аўтара.

Але ўжо не дазваляе ліміт. Ён існуе на запчасткі, на хуткасць, на бензін, на ўсялякую трасцу, існуе і на радок, на меру прызнання ў прыхільнасці да таленту мастака і чалавека.

Мы, людзі, ахвотна захапляемся творамі з незвычайнымі, экстрэмальнымі, як цяпер кажуць, сітуацыямі, у якіх герой, апынуўшыся на вастрыі штыка, выяўляе свае магчымасці дабраты, сумлення, мужнасці, адданасці. Справядлівае захапленне, калі творы выдатныя, характары і канфлікты праўдзівыя, паўнакроўныя. Але чамусьці мы, тыя ж самыя людзі, часта з іншай, куды меншай, ахвотаю заўважаем і разумеем твор, а значыць — жыццё таксама, дзе чалавек выяўляе такую ж высокую ці больш высокую меру мудрасці, дабраты, мужнасці ў сітуацыях будзённых, звычайных, у нейкі ціхаплынны дзень нейкай ціхаплыннай вёскі, такой, як Ліпніца ці Буднева (нават назвы — сама будзённасць). Хоць і гэты твор напісаны майстрам, а сціплая тэма, разгорнутая ў сціплым часе, якраз і падкрэслівае чалавечнасць, дэмакратычнасць, мудрасць таленту, што само па сабе рэдкасць...

Пад акном — плот, за плотам — зеляніна садоў, раскінутых па крутых узгорках, дзядзінец старажытнага гарадка. Тут — Ганчароўка, гняздоўе самага, бадай, старога і славутага рамяства ў Крычаве — ганчарнага. Роўна год назад стаялі мы з Кудраўцом каля гэтага плота, разам дзівіліся дзівосным краявідам — танцам, з падскокамі, дамоў, платоў, дрэваў, шапак грачыных гнёздаў на дрэвах. Цяпер, стоячы тут адзін, як тады, бачу ў тым шалёным танцы Лёшку Зуева — старога славутага ганчара. Цяпер, як тады, шкадую, што яго ўжо няма — не пагаворыш.

І... цяпер, як тады, бачу старога.

Ён сядзіць за ганчарным станком, нетаропка круціць ганчарны круг, і звычайны камяк чырвонае гліны набывае ў яго руках бездакорна круглыя формы. Твар выпраменьвае цёплае сардэчнае святло, вочы адбіваюць чырвоны агонь горна, стары жмурыць вочы, усміхаецца, быццам у

яго руках нараджаецца не звычайны гаршчок, а цуд-сонца, якое павінна даць людзям цяпло, святло — жыццё. Заўтра кірмаш. Суседзі нарабілі сырцу яшчэ тыя дні, сёння па ўсёй Ганчароўцы дымяць печы, абпальваюцца гаршкі, гладышы, збаны, міскі, пеўнікі дзецям, а Лёшка Зуеў і сёння сядзіць за ганчарным кругам з сырой глінаю. Не спяшаецца, як забыўшы на кірмаш. Заўтра суседзі будуць вяртацца з кірмашу, прадаўшы тавар, будуць кпіць: «Лёша, рубля пазычыць?» А ён, ведаючы сабе цану, спуску не дасць: «Паглядзім, хто каму пазычыць заўтра!»

Тое заўтра прыйшло сёння. Пагаслі горны, трухлеюць ганчарныя калаўроты. Маці дастае з печы гаршчочак з бульбаю, ставіць на стол, здымае скавародку, якая за накрыўку, і гарачы бульбяны дух — на ўсю хату.

Я гляджу на яе, на гаршчочак:

— Лёшкаў?

Усміхаецца, як не пабыўшы ў дурнях:

— А цяпер у каго і застаўся які чарапочак, дык абавязкова Лёшкаў. Іншыя ўсе ў людзей пасыпаліся. Гэты гаршчочак зімою кошка з загнеткі скінула. Бразь — на падлогу. Сэрца ёкнула: усё — канец. Падняла — цэлы. І хоць бы скалачка адляцела. Ані!..

Я тут ужо быццам пра іншае — пра ганчара, пра гаршчочак. Але не толькі пра іх. Пра таго, хто сказаў: «Вапшчэткі... Смех — бяду качае, і весела таму, хто смяецца пасля».

Пра мастака, які працуе ў літаратуры побач з намі, працуе непаспешліва, але грунтоўна, не на рэкламу, а каб зробленае сёння жыло і заўтра, каб паслужыла яно не аднаму сабе, але і людзям.

Гэтак працаваў ганчар Лёшка Зуеў.

І ўся гэтая працоўная мудрасць адтуль — ад народнай эстэтыкі і маралі.

Ад сумлення Ігната Сцяпанавіча Вапшчэткі і Лёшкі Зуева.

*1986*



# ЯК СТЭП, ЯК ДОН, ЯК СВЕТ

## 1

Бязмежны стэп заворвае дывізіі і гады. А *цветок лазоревый* (Цюльпан? Не, усё ж — *лазоревый!*) — крапінка сонца, агню, казацкая бунтарная крывінка — гарыць, пячэ, гарчыць... з якога лета?..

Гэтак — памятаеце? — незвычайная ў сваёй гордай прыгажосці і непакоры кветка татарніку назаўсёды засталася ў нашай памяці лёсам Хаджы Мурата ды і самога Льва Талстога.

І ўсё ж — з якога лета ў вачах гарыць-разгараецца шолахаўскі *лазоревый цветок*?

Не лета — зіма ў памяці. З лютымі маразамі, галодная, на чорных, яшчэ не ачахлых з вайны галавешках.

Вярнуўшыся з бежанства, мы жылі ў Крычаве, на высокім беразе Сажа ў гнілой вялізнай хаце, абыдзенай ваенным пажарам. Гаспадарамі хаты былі старэйшы за мяне на тры гады Валодзя Маскалевіч і яго жаўтушная маці. Валодзя меў дзіўныя рэчы: нямецкае кавалерыйскае сядло, фінскія дубовыя лыжы, зуб маманта, штаны з чорным арлом і свастыкай, папытыя з нямецкага меха, а яшчэ — палатняную торбачку, у якой зімою прыносіў з зарэчных вёсак мёрзлы заечы хлеб, а ўлетку — шведскае шчаўе. Па шчаўе хадзіў аж на шведскія курганы і варыў не проста боршч, а шведскі боршч. Аднойчы, уляцеўшы ў хату без шапкі, расхрыстаны і рашучы, ён вытрас на стол з засвежанай торбачкі незвычайна вялізную кнігу і, балюча

шчоўкнуўшы мяне па носе задубелым на марозе пальцам, урачыста паведаміў:

— Во! Казацкі раман!..

Гэта было «огизовское» пасляваеннае выданне «Ціхага Дона» ў тоўстай і цвёрдай, як фанера, вокладцы.

Увечары прыйшоў са школы бацька. Ён узяў кнігу ў рукі і сказаў:

— Чытаць вам гэта яшчэ рана.

І панёс кнігу ў свой кут.

Праз колькі дзён кніга знікла з яго стала. Ён гэта заўважыў, але маўчаў. Урэшце, гаспадаром кнігі быў пятнаццацігадовы гаспадар дома.

Яна апынулася ў нас на печы, за комінам.

Калі мы з Валодзем прыходзілі са школы, а бацькоў яшчэ не было з работы, чаго-небудзь пасёрбаўшы, мы лезлі на печ і разгортвалі «Ціхі Дон». Там, у цёплым паўзмроку, мы патаемна, як штосьці забароненае, адкрывалі свет, які стагнаў і мільгацеў пад конскімі капытамі, крывавіў пад казацкімі шашкамі і кулакамі-свінчаткамі, ледзяным варам набухаў у берагах разгайданага гістарычнымі вятрамі Дона і кожнага кураня, цвіў *лазоревым цветком*, *дурнопьяном*, а то і *бесилой собачьей* у сэрцах Аксінні Астахавай і Грыгорыя Мелехава, хаваў у сваіх нетрах-глыбінях адвечныя таямніцы плоці і духу. Мы п'янелі і губляліся: жыццё, якое зацягвала нас у свае крутыя віры, не магло, здавалася, змясціцца ў вялізных вокладках «огиза» — ягонымі вокладкамі ўяўляліся зямля і неба, сшытыя караньком скрывянела-чырвонага далягляду, да якога не дайсці, не даехаць, не даскакаць на казацкім кані.

Цяпер, за далеччу гадоў, я намагаюся вярнуць сабе тыя дзіцячыя адчуванні, адшукаць лагічную сувязь паміж імі і адчуваннямі сённяшнімі, каб зразумець: хто ж быў мудрэйшы — мы, дзеці, якія патаемна ад бацькоў і таму, можа, з неверагоднай прагнасцю спасцігалі таямніцы «Ціхага Дона», ці бацька з ягонай бояззю нашага нечакана ранняга пасталення?

І пры ўсёй любові да бацькі я не магу пагадзіцца з ім, з яго школьнай педагогікай.

Не забароненыя дзецям словы з языка раз'ятранага ў фізіялагічным інстынкце мужыка, не сцэны яго плоцкай апантанасці, напаўнялі тады, на печы, нашы душы, а неймаверная прага святла, міру, кахання, жыцця, якое нельга забіць ніякай бядою, нават смерцю. Над самымі жорст-

кімі праявамі засталася апошняя сцяжына Грыгорыя Мелехава ад Дона да роднага кураня, ад вады ў расколіне лёду, куды Грыгорый кідае вінтоўку, наган, высыпае патроны, да сына, да свету і сусвету, якія збегліся ў адным:

— Мішенька!.. Сынок!..

Хоць ведаў Грыгорый, што сцежка да сына вядзе да смерці.

Вось што — вышэй за ўсё іншае, над усім. І ў рамане, і ў яго ўладзе над чалавечым сэрцам.

## 2

Станіца Вёшанская была засыпана сонечнай майскай квеценню. Адцвітаў і малады яблыневы сад, пасаджаны Міхаілам Аляксандравічам незадоўга да смерці. Бель яшчэ тры гады назад запарушвала зямлю, траву ў майскім садзе, а ўжо апошнія гады, як цяпер,— яшчэ і магілу, курганок, светла-шэры, з Данскога стэпу, камень-валун, на якім нібыта сама прырода слова, адно-адзінае, высекла: ШОЛОХОВ.

Белыя пялёсткі не маглі прыглушыць сінізну донніку, дробнай журботнай кветачкі, і пасівелую шэрань такога самага нізкарослага кучаравенькага палынку, які рос тут, на магіле, з таго самага стэпу. Яблыневая квецень рабіла святлейшай і сінізну донніку, і палыновую шэрань.

Тут не ставала чырвонай лазоравай кветачкі. Яе не запаліў яшчэ стэп. Але як без яе? Зірні на казака — ён увесь з чырвоных ды сініх колераў. На сіняй фуражцы — чырвоны аколыш, на сініх шараварах — чырвоныя лампасы. Два самыя-самыя казацкія колеры. Яны і ў рамане, як у жыцці. І мы кладзём на магілу чырвоныя ружы, гваздзікі, цюльпаны: хай падпаляць-сагрэюць і сівы палынок, і сіні доннік.

Усе кветкі Данскога стэпу, Абдоння, як кажуць казакі, ляжалі тут, на магіле Шолахава і каля мармуровай калоны, з якой ён, бронзавы, як жывы, глядзеў пранізлівым прыжмурам вачэй з высокага Вёшанскага яра на Дон, на Задоншчыну, на апеты ім стэп. Ён глядзеў на ўсіх нас, хто прыйшоў пакланіцца яму, і мы ўсе слухалі, што хоча сказаць ён нам. І гаварылі таксама. Як мы яго любім.

З высознага яра я таксама глядзеў на Дон і дзівіўся, як падобны ён у сваіх краявідах на мой родны Сож, хіба крыху шырэйшы за Сож, а то і ціха-павольны, як ён, і гэ-

такі велічна нетаропкі, і берагі такія самыя ласкавыя, з пясчана-жаўтлявымі плёсамі, з кручамі ля правага боку, з навіслымі над ціхай вадою кучаравымі лозамі каля левага. А ў цэнтры Вёшак, дзе, дугою выгнуўшыся, Дон заварочвае за салаўіныя лозы, таксама самавіты характар не траціць: выгінаецца не порстка, як іншыя рэкі, а спакваля, роздумна, мудра, любуючыся і ўлоннем з абодвух бакоў, і нібыта сабою, такую дугу выпісвае, што вачэй не адвядзеш. Веліч! І так нагадвае мне гэты краявід Сож недзе пад Чэрыкавам, ля Манастырка ці Міраготча, ці пад Крычавам ля Пакладоў. І ўсё гэта, убачанае першы раз з высокага шолахаўскага яра, усе гэтыя думкі, адчуванні, хваляванні, гэтыя — у далучэнне да іншых, з гэтымі ўсімі сугучных, прымусіла згадаць нашы, над Сажом, валошкі ў жыце, яны падаліся такімі патрэбнымі ў букетах з чырвоных кветак, што ў наступную хвіліну, калі і мне выпаў гонар сказаць слова ля помніка Шолахаву, сказаць казакам ды казачкам, якія тут сышліся-з'ехаліся, Дону і стэпу, дык ужо і нельга было ў тым слове не далучыць да чырвоных букетаў Шолахаву свае сінія з панад Сажа валошкі, нагадаўшы і Максіма Багдановіча, і яго знакамітыя радкі пра «цвяток радзімы васілька». І ўсё гэта данцы зразумелі як след, як натуральную блізасць валошкі-васілька да данскога *цветка лазоревого*.

Але чаму казацкае — чырвонае ды сіняе? Яшчэ — хіба Дон не ў зялёных уборах? Хіба не бывае і ў белых?

— Зімушка белая кароткая, лета зялёнае таксама не вечнае. Белае ды зялёнае — здрадлівае. А чырвань казаку ніколі не здраджвала. Казак колькі жыў, столькі і паліваў зямліцу са сваіх жылачак. А што ж сінька? Яна таксама ўсё жыццё і над галовушкаю казацкай, і ў Доне. Сіняе ды чырвонае нам, казакам, не здрадлівае.

Гэтак разважае старая казачка на беразе Дона. Пра кветкі, колеры, здраду, вернасць. Дзіўна, як туга завязана ўсё ў яе адным вузлом.

А хіба не гэтак і ў Шолахава? Не толькі ў «Ціхім Доне», нават у самым, здавалася б, звычайным апавяданні «Лазоравы стэп», дзе гінуць, не сагнуўшыся перад панам, Сямён і Анікушка, унукі старога пастуха Захара, дзе цудам уваскрасае Анікей, прабіты трыма кулямі, пакінуўшы ногі свае пад коламі панскай гарматы. Вось і на апошняй старонцы апавядання. Не на нагах, як усе людзі, на руках, бо без ног, пакутліва сунецца Анікей у стэп, узараны першым трактарным плугам. Азірнуўся, убачыў, што

людзей блізка няма, і тады «прыпаў да зямлі тварам, глыбу, лемяхамі адкінутую, схапіў, да сябе прыціскае, рукамі гладзіць, цалуе...».

Дзед Захар непадалёк авечак пасвіў — бачыў. І расказаў. І мы скаланаемся, уражаныя. Як перад смерцю Сямёна з Аніссяй.

А маглі жыць?.. Калі б пану пакаяліся. Гордыя — не сагнуліся перад панам. Каб увесь стэп бачыў? Не маглі.

Усё тут — буйна, складана, не голлейкам, а каранямі жыцця спавіта-звязана. На шолахаўскіх старонках — як у тым самым стэпе.

Як і ў жыцці самога пісьменніка.

Мае рацыю, вядома, Анатоль Калінін: якое сэрца доўга вытрымае, каб роднае тваё дзіця ўсё жыццё, ад самага нараджэння, злыдні рвалі з тваіх рук і крычалі на ўвесь свет, што яно не тваё, што ты яго ўкраў? Як тут было працаваць далей?

А мы, адданыя яго чытачы, чакалі новага рамана. Думалі, што там, у Вёшках, ціха — толькі пісаць. Такі ён, Дон, быў там ціхі для Шолахава, як і для Грыгорыя Мелехава.

Вось — 24 мая. Вокны яго дома ў Вёшанскай расчынены ў цёплы вечар. Светлы і ўтульны пакой напоўнены водарам яблыневай квецені, стэпавых, з-за Дона, траў. Адсюль чуваць, як па-над Донам заходзяцца салаўі. Цяпер самая іх пара. Цёпла —самыя спевы. А мы, гаспадары і госці, гаворым пра яго, Міхаіла Аляксандравіча, пра тое, што ён мог цяпер сядзець сярод нас, разам з намі, побач з гаспадыняю дома Марыяй Пятроўнай, ды вось... успамінаем, які ён быў.

— Была ў бацькі цяжкая дружба з Фадзеевым,— кажа Святлана Міхайлаўна, дачка Шолахава.— Быў выпадак, калі Фадзееў выступіў супраць таго, каб бацьку далі за раман Сталінскую прэмію. Я, помню, пытаюся: вось бачыш, Фадзееў супраць цябе, а ты лічыш яго сваім блізкім другам? Што мне адказаў бацька? Ён адказаў так: калі Фадзееў супраць, значыць, ён гэтак шчыра думае, кажа тое, што думае, і гэта самае дарагое, калі сябра перад табою не лжэ, тады ён табе сапраўды сябра.

Іван Якаўлевіч Ракачоў карэнны вёшанец. Цяпер ён жыве ў станіцы Аксай, пад Растовам, але тут, у Вёшках, па-ранейшаму свой чалавек, не чужы і ў доме Шолахавых.

— Які ён быў? — успамінае стары казак.— Помню

восень, трыццаць трэці год. Першы раз асмеліўся зайсці на двор Міхаіла Аляксандравіча. А там — сабакі. Ён выйшаў на ганак: «Не бойся, казак». Завёў мяне ў курэнь. Стаю ля стала, за якім ён працаваў, пісаў раман. Тут — акно, тут — кнігі. «З чым прыйшоў?» — пытаецца. «Ды вось... вершы». Пачытаў ён мой спытак і кажа: «Вершы слабыя. Што табе параіць? Паболей чытай, паменей пішы. Што чытаеш?» Кажу: «Мапасана». Міхаіл Аляксандравіч засмяяўся і кажа: «Мапасан рускага падданства не прыняў, таму я табе дам Гогаля». І даў мне кнігу Гогаля. І яшчэ сказаў: «Збірай, казак, свае данскія песні. Добрыя ў нас песні. У іх — наш лёс. І ўся паэзія». І пачаў я тады збіраць данскія песні. Назбіраў тысячы тры, ды пяць тысяч казацкіх анекдотаў. Сабраў кнігу песень. Назваў: «Песні над Донам». А следам — яшчэ адну: «Песні станіцы Вёшанскай»...

Выйшлі з шолахаўскага дома апаўночы. Пад ясным цёплым месяцам блішчэў шырокі Дон.

Пасярэдзіне ракі спаў паром. Увесь дзень ад раніцы ён ледзь спраўляўся перавозіць з таго берага ў Вёшанскую казакоў ды казачак, грымеў пад зухаватымі абцасамі танцораў і спевакоў. Назад усіх не перавёз ні ў канцы дня, ні на пачатку ночы, змогся і прыціх, слухаючы, як яшчэ і цяпер спяваў салаўіны вёшанскі бераг.

Хораша думалася на гэтым беразе пра край, пра яго песенную душу. І яшчэ — услых:

— Песні плывуць... усё роўна як у рачных берагах. І гэтак, можа, у літаратуры — патрэбны трывалыя берагі. Былі берагі — Шолахаў і Твардоўскі. Дзякуючы ім, можа, ва ўсякім выпадку ім у першую чаргу, наша літаратура больш-менш утрымалася ад маральнага распаду ў апошнія дзесяцігоддзі...

Берагам Дона мы ішлі ўдвух з Міхаілам Міхайлавічам, сынам Шолахава, і я чакаў, што ён, чалавек высокаадукаваны і інтэлігентны, вельмі падобны на бацьку і тварам, і душою, на гэта адкажа. Ён сказаў у адказ зусім нечаканае:

— Бацька вельмі не любіў гаварыць пра сябе. Гэтакіх размоў ён, здавалася, проста баяўся. Ён не дапускаў думкі, што некалі яго творчасцю будуць гэтак цікавіцца. Ён у гэтым быў падобны на дзіця... Проста жыў, працаваў...

Ці не тут — найпершы ўрок Шолахава ўсім нам?

**3**

Бачу Шолахава побач з Талстым.

Гэтым я не хачу давесці, што яны роўныя ў сваёй мастацкай значнасці, ці, тым больш, як мысліцелі, філосафы, ці ў сваім уплыве на чалавека, на чалавецтва. Кажу адно ў сэнсе: «Ціхі Дон» уяўляецца мне раманам, пра які марыў Леў Талстой.

Талстой паставіў селяніна ў аснову ўсёй сваёй мастацкай і філасофскай канцэпцыі, над усім і ўсімі, пакутаваў ім, пільна ўглядаўся ў яго душу, псіхалогію, свядомасць, усё жыццё ішоў да яго, на гэтым шляху парваў з царквою, з сваім саслоўем, нарэшце — з Яснай Палянай, адцураўся самога сябе як графа, і ўсё ж не змог на сацыяльным і духоўным мацерыку сялянства рэалізаваць свой эпічны мастацкі геній.

Не асмеліўся?.. Магчыма.

У Ляскова, у яго «Аўтабіяграфічнай нататцы», ёсць прызнанне: «...публіцыстычных рацэй аб тым, што народ трэба вывучаць, я зусім не разумеў і цяпер не разумею. Народ проста трэба ведаць, як само сваё жыццё, не штудзіруючы яго, а жывучы ім». Талстой любіў Ляскова, яго талент, розум, і такую бясспрэчную думку не мог не прыняць. А значыць, не мог не адчуць, што паміж ім, мастацкім геніем, і ім жа, аўтарам магчымай і, вядома, жаданай, неабходнай народу мужыцкай эпапеі, стаіць — ад гэтага нікуды не дзенешся — граф Леў Мікалаевіч Талстой.

Ён, напэўна, адчуваў, што мужыцкую эпапею можа напісаць толькі мужык. І гэтак сталася — яе напісаў данскі казак.

Вялікая драма Талстога. Можа, самая вялікая ў гісторыі рускай літаратуры. Перад ёю драбнеюць драмы і Дастаеўскага, і таго ж Ляскова. Але затое як яна, талстоўская, высвечвае Міхаіла Шолахава і яго ні з чым не параўнаны сялянскі эпас.

А з чым параўнаеш?

Хіба з самім данскім стэпам?..

З самім Донам?..

З усім светам?..

*1987*



# КАЛІНАВА СІЛА

За акном валіць снег, мяце нізавы, пад ялінамі, вецер — дуйка,— там, у лесе, цяпер ані следу, звяры ўсе на лёжках, пад снегам, след паказаць баяцца, пакуль не галодныя, і мы таксама не вылазім з цёплай лесавой егерскай хаткі — вячэраем. Нас трое: Пятрок Кірылавіч Ерафееў — егер, Васільевіч — Аляксандр Васільевіч Карпенка, былы ляснічы, выдатны ляснічы, цяпер на пенсіі, мой даўні сябар, і я.

У Петрака бяда: учора, на пачатку зімы, самай паляўнічай парою, трагічна загінуў, счапіўшыся з дзікамі, лепшы ў нашых лясах сабака. Пятрок плакаў.

Падняўшы на мяне пачырванелыя вочы, пытаўся:

— А табе майго Тарзана шкада?

Вядома. Хоць я і разумею, што мой боль па Тарзану іншы, як Петракоў. Не тое што меншы — хоць і меншы, вядома,— проста іншы. І я кажу:

— Шкада. Але... я рады, што бачыў яго апошні дзень, яго смерць, што ўсё гэта... на маіх вачах.

Пятрок глядзіць, не разумеючы:

— Вось напішы пра смерць Тарзана,— іначай, як Пятрок, разумее мае словы Васільевіч.

І тут ён прыгадвае старонку з рамана Леаніда Ляонава, дзе два хлапчукі, Ваня Віхроў і Дзямідка Залатухін, прадаюць барчукам Сапегіным ваверку. Прадае, дакладней, Дзямідка, а Ваня на торг толькі пазірае, разгублены. Ваверка як быццам адна, яе лёс пэўны — немінучая

смерць у ласкавых да жорсткасці руках барчукоў, а якімі неаднолькавымі вачыма на яе глядзяць: Дзямідка — як на нажыву, барчукі — як на яшчэ адну сляпую гульню, а ў Вані — сэрца баліць, што жывую істоту пазбаўляюць волі і жыцця,— хлопчык ужо ведаў, што жыццё і воля неразлучныя.

— Не плач, Пятрок. Няма той смерці, якая б не дала ход жывому,— суцяшае Васільевіч.

А і сапраўды...

Хто ведае, можа, тым болем дзіцячай душы пазней таксама пісалася выдатная лекцыя прафесара Івана Віхрова, горача скіраваная на абарону рускага лесу, усёй нашай прыроды.

Вочы ў Петрака яснеюць. Ён пачынае разумець штосьці большае, як толькі свой боль.

Хоць боль не меншае.

Я ведаю, што не ва ўсім раман «Рускі лес» па сэрцы майму строгаму лесавому сябру. Ён неяк казаў мне, што месцамі аўтарскі пафас як бы адслойваецца ад плыні жыцця ў рамане, што публіцыстычная ўзнёсласць не заўсёды паспявае растварыцца ў жывой рэальнасці, так, як, скажам, гэта адбылося ў лекцыі Віхрова. Тым не менш «Рускі лес» для яго — гэта тое, што называюць настольнай кнігаю чалавека. Я не бачыў яе на стале ў Васільевіча, але ведаю, што яе думкі, вобразы, ідэі суправаджаюць майго сябра ў жыцці, і ўжо гэта адно — вельмі высокая ацэнка рамана, бо абы-каго ў спадарожнікі Васільевіч не возьме. А што да крытычных заўваг, дык яны, здаецца, таксама і на раман працуюць. Бо за імі бачыцца вышыня ляонаўскага чытача, яго разуменне літаратуры як самога жыцця.

Неяк ён сказаў, гэты ляонаўскі чытач:

— Тое-сёе тут не па мне, але ж яно, тое-сёе, не заўсёды ад слабасці мастака. Бывае ад тэмпераменту, ад сэрца, якое спяшаецца апярэдзіць думку...

Хто жыве ў прыродзе, прыродаю, як Васільевіч, той ведае мяжу на зялёнай ніве айчыны: *да* «Рускага лесу» і *пасля* «Рускага лесу». Хоць спрэчку паміж Віхровым і Грацыянскім аб пастаянстве лесакарыстання жыццё і час вырашылі на карысць Віхрова — дакладней, на карысць усяго нашага лесу,— уплыў рамана Леаніда Ляонава на лёс роднай прыроды мае куды большыя межы. Гэта паказвае час. З якога б боку ні кацілiся па нашы лясы, рэкі, азёры

беды, навальніцы ці сухавеі, чыя б рука і воля іх ні бласлаўляла, на якi б абсяг яны ні кваціліся, амаль заўсёды аказваецца, што раман Ляонава мае дастаткова моцныя, непарушныя аргументы і духоўныя скарбы, каб стаць на шляху і навальніц, і сухавеяў, як на шляху татарскай конніцы стаялі гістарычныя тульскія засекі.

Прыгадваецца восеньскае.

На пятай вярсце ад Мінска — як ехаць на Брэст — у знакамітай Прылуцкай дачы, не так даўно, дарэчы, адоранай статутам і ахоўнай граматаю заказніка, густой кіпеннай чырванню палалі дубы. Яны стаялі густа, адзін пры адным, праз паўвекавыя шаты не было відаць ані латкі шэрага неба — дуброўным небам зрабілася яе густа разлітая чырвань. Імклівай, нібы дыханне, парою бабінага лета дубам не пасавала іх назва — Паўночныя, затое вельмі падыходзіла іх другая назва — Чырвоныя: не холадам — апошняй гарачынёю лета веяла ад іх.

Зрэшты, яна не здавалася апошняй — цяплынь чырвонай дубровы. Здавалася вечнай.

А сярод ночы туды ўварваўся моцны паўночны вецер. Шалеў, шалеў і аціх... адно пад раніцу.

Калі развіднела і людзі ўвайшлі ў дуброву, яны жахнуліся: чырвоная вопратка з дубоў была скінута долу, пад бок жорсткаму начлежніку, ляжала ўпрасаваная.

Яшчэ ўчора такія магутныя ў вечнай, здавалася, чырвані паўночныя рэтрадуцэнты стаялі шэрыя, голыя, пакурчана-азяблыя, самі чакалі абароны. Адно зямля пад імі была чырвоная ад густога, да калена, лісця.

Пэўна, мала што яшчэ ў прыродзе робіць такое гнятліва-сумнае ўражанне, як лісцвяны, знянацку распрануты позняй восенню лес. І асабліва — распранутая дуброва.

Такая ж, пад уражаннем, была і размова леснікоў:

— Абы дубы стаялі.

— А быў праект. Чырвоныя дубы — пад сякеру. І пенсільванскі арэх, і сасну Вебера... усю Прылуцкую дачу. Надумаліся будаваць тут гасцініцу, кемпінг. Пісалі, даказвалі...

— Даказалі?.. Значыць, не так лёгка зваліць дрэва?..

— Пасля «Рускага лесу» лягчэй стала абараняць...

І гэта — так. Дваццаць пяць гадоў жыве з намі раман Ляонава, жывуць яго героі, і ўсе мы бачым, як, прынамсі, у гэты час вырастае актыўная, нябачаная дагэтуль, народная сіла ў абароны жывога дрэва, мудра і надоўга, мабыць, ахрышчонага Ляонавым у «зялёнага друга» ўсіх

добрых людзей, як ужо не асобныя светлыя галовы, а народ, масавы ляонаўскі чытач, вядзе змаганне за зялёную вопратку Карпат, за лясы і воды Байкала, за сібірскі кедр і далёкаўсходнюю лістоўніцу, за тое, каб рубкі лесу рабіліся ў межах яго гадавога прыросту, за выжыванне маладога падлеску на леспрамгасаўскіх лесасеках, за непадманную, рэальную запаведнасць у нашых лясах. Ствараюцца дзяржаўныя камітэты і добраахвотныя таварыствы па ахове прыроды, пішуцца і прымаюцца новыя, адпаведныя сённяшняму і заўтрашняму дням, лясныя законы.

Вядома, усё гэта — патрабаванні часу. Але супадзенне гэтых зрухаў, іх пачатку, з пачаткам жыцця рамана «Рускі лес» невыпадковае. Тут — і вялікі ўплыў рамана на жыццё, на ўсіх нас.

Ён уплывае не толькі на людзей, якія яго чыталі, але, здаецца, і на тых, хто не чытаў. Якім чынам?

Ніякага парадокса. Гэта я бачу па Петраку Кірылавічу. Старонку з рамана ўспомніў Аляксандр Васільевіч і расказаў, думаючы пра Петрака і Тарзана, а Пятрок не застаўся глухі да яго расказу пра торг з ваверкаю, зразумеў і адчуў новае для сябе. І гэтае новае — з рамана, якога Пятрок не чытаў.

Не кожная мастацкая рэч мае гэтакую нітачку да чалавека. Толькі тая, пэўна, якую чалавек можа здалёк, інтуітыўна адчуць як сваю, духоўна блізкую.

Раніца. За акном світае, але снягі яшчэ сінія.

У моцна, не шкадуючы дроў, напаленай лесавушцы на сцяне ляніва гарыць газавая лямпа, на стале дымяць крута заварыным чаем кубкі. Паляўнічыя п'юць чай, перад тым як выйсці на мароз, усе ў кажухах, валёнках, п'ючы, чакаюць каманды ўставаць, ісці да машын. Але чаёўніцтва зацягваецца, бо чакаем Івана Лесечку, магілёўскага доктара, а сярод нас, у нашым лясным жыцці,— паляўнічага, вышчырага вясёлага хлопца. Гадзіны дзве, як ён пайшоў абыходзіць вальеру, па свежай начной парошы глядзець ваўчыныя сляды — калі яны ёсць — і вось-вось павінен вярнуцца. Калі ваўкі не пахадзілі ноччу ля вальеры, дзе цяпер, у зімовыя халады, з усяго лесу сабраліся алені, і Лесечка не возьме следу, то сцяжкі на аблаву павязём вёрст за трыццаць, за Лабанаўку. Адтуль ужо званілі: на лёжцы шэсць сытых ваўкоў, тых самых, што дзень назад забралі ў саўгасе дзвюх цялушак.

Гляджу на Петрака Кірылавіча. Ён сядзіць на лаўцы, трымаючы паміж ног стрэльбу, сумуючы па сваім Тарзане. Чымсьці ён нагадвае мне ляонаўскага Каліну. Але — чым? Не асілак, як Каліна, нічога як быццам загадкава-казачнага ў ім няма, даўно босы не ходзіць, пажыццёвую царскую салдатчыну не адбываў. Але...

Штосьці ёсць.

Вось ён устае, выходзіць з хаты. З двума вёдрамі ідзе па ваду да крыніцы. А з ельнікаў, яго мігам пачуўшы, выходзяць алені, брыдуць за ім следам — цэлым табуном.

Гэтак за Калінам ляцелі яго пчолы.

А былое?

«Пра сябе Каліна расказваў скупа, але паміж слоў можна было зразумець, што чарку свайго жыцця выпіў ён — не паморшчыўся...»

А Пятрок? Яго чарка не была саладзейшая. Неяк у лесе ён сказаў: «Вось тут мая пупавіна закапана. Змалку — ляснік». Пайшоў на вайну — тры гады паміраў, ваеннапалонны, у фашысцкіх лагерах смерці, зведаў і «славуты» жахамі Майданак. Выжыў. Вярнуўся. Пэўна, што была ў целе Калінава сіла.

«Каліна ішоў наперадзе, а ў лысіне ягонай... зіхацела зорнае святло».

Такі самы і Пятрок. Ведаю, гэта на яго высокае зорнае святло (яно жыве ў ім пасля ўсіх майданакаў) ідуць і алені, і людзі. Я сам — колькі гадоў.

Вось ён які, лесавы чалавек. Яго, такога, з радасцю, з захапленнем спаткаў у жыцці Леанід Ляонаў і зразумеў як тып, як вельмі рэальны, трывалы ў лясным жыцці тып. І, пэўна, ад вялікага захаплення гэтай чалавечай сілаю надзяліў ёю не аднаго Каліну. Такія — кожны ў сваёй меры — і Іван Віхроў, і яго бацька ляснік-катаржнік Мацвей, і Таіска, душу якой да старасці не прыглушыла цяжкое прыроднае калецтва, ды і Поля, дачка Івана Віхрова, рамантычная нават у сваім небяспечным лёсе партызанскай сувязной. І гэтакае самае, амаль як у чалавека, аблічча мае ляонаўскі лес — Аблог, Пусташы, Склань: цяжкі, часам трагічны лёс не вынішчае, нават не збядняе яго духоўнай моцы, яго паэзіі.

І тут, думаю, не прыўкраса жыцця, тым больш не яго ідэалізацыя, у чым неаднойчы папракалі пісьменніка,— пісьменніцкі тэмперамент, душа даюць кірунак. І яшчэ — само жыццё.

Не баючыся, што мяне пачуе і скептык, прызнаюся:

свет Ляонава, ягоны лес маюць, здаецца, шмат ад майго роднага лесу, ад маёй Лімені, Ліменшчыны. А таму мне і радасна, што ад Пусташы ў жыццё пайшло гэтакае шчодрае святло праз Мацвея і Івана Віхровых, Каліну, Таіску, Полю, бо гэта як бы падказвае, што і ад Лімені ў жыцці светла.

Светла ад Петрака Кірылавіча, ад Васільевіча...

Марозны, звонкі, чысты пасля начное парошы пачынаецца дзень. Ужо далёка і Пятрок, і алені, а снег усё парыпвае.

І яшчэ чуваць, як нехта недзе сячэ дрэва...

«Спачатку сякера адлятала ад прамёрзлае абалоны, але раптам жалеза асатанела, і ў паветры замільгацелі дробныя, колерам як косць, трэскі. Усё навокал замоўкла, нават лес. Ніпто пакуль не магло пабудзіць у зімовай спячцы старую... але вось ужо ветрык смерці крануў яе лапкі, і пунсовы снегавы пыл пасыпаўся на змакрэлую спіну Кнышава».

Не, тут «ветрык смерці» кранае не толькі сасну, але і тваё чалавечае сэрца. Бо ён знаёмы кожнаму, гэты «ветрык». І не толькі таму. Яшчэ таму, што сасна ў Ляонава адчувае яго як чалавек, і ты, чалавек, нібыта становішся з ёю побач, пад адну сякеру.

І далей:

«...Па сутнасці, адбывалася звычайная валка, але мучыла лесарубаў адчуванне віны, што прысутнічаюць пры вельмі грэшным, бо са смяротным канцом і да ўсяго яшчэ фарсістым, свавольстве. І хоць Кнышаў махаў сякераю без пярэдыху, усе разумелі: ён знарок зацягвае сваю асалоду, чаго простыя людзі ніколі не даравалі нават заўзятым катам...»

Такім раптам становіцца наш аўтар — бязлітасным да ляснога забойцы.

Але тут жа — па-чалавечы цёплы сум:

«Сасна стаяла па-ранейшаму, уся ў марозным ззянні. Яна яшчэ не ведала, што памерла».

Ніводнае слова майстра не адскоквае рыкашэтам ад сэрца, кожнае застаецца ў ім. І пячэ. Таму, пэўна, што ўсё гэта нібы з тае лясной глыбіні, у якую падаліся Пятрок і алені. І рэальна-празаічная моц, і паэтычная захмяленасць карціны.

Тады адкуль раптоўная трывога — не твая, чытацкая, а яго, трывога майстра: «Ці дойдзе сцэна з рубкай сасны?»

Трывога, роўная сумненню ў сіле свайго мастацкага слова.

Няўжо і тут тое самае сумненне:

«Ледзь прыкметны рух нарадзіўся ў голлі, штосьці дзе-лавіта хруснула ўнізе і дробнымі дрыжыкамі адгукнулася ў вершаліне. Сасна пахіснулася...»

Ці далей — наступная фраза:

«І раптам цэлая бура ўзнялася ў яе абуджанай кароне, ламала голле, змятала снег,— сумёты валіліся долу, апярэджваючы яе падзенне...»

Як дакладна і ёміста, да фізічнага адчування кожнага руху і гуку моцна выпісана, скульптурна вылеплена з гарачых, нібы вуголле, слоў карціна смерці маці Аблога. І гэта ўсё праз сумненні — «Ці дойдзе сцэна з рубкаю сасны? Ці паўплывае раман на становішча спраў з лесам?» — усё ад прагі і паўнаты думкі, фразы, адчування, зноў ад сумнення, якое не давала спакою: ці дастатковыя гэтыя паўната і дакладнасць, каб авалодаць сэрцам чалавека, які ўсё пабачыў і зведаў.

Факт з біяграфіі пісьменніка — навука для маладзейшай літаратуры.

Навука грамадзянскай адказнасці становіцца навукай пісьменніцкага майстэрства.

Нядаўна вядомы лясны акадэмік Анучын сказаў пра Ляонава так: «...не без падстаў людзі ляснoй прафесіі прызнаюць яго карыфеем навукі пра лес».

Цікавае прызнанне.

Але ці даўно людзі той самай ляснoй навукі казалі інакш — калі раман Ляонава толькі з'явіўся ў друку? «Аўтар не змог даць у сваім рамане сапраўднай тэматыкі лесу... і раман не мае права называцца «Рускі лес». Навука, жыццё вышэйшых навучальных устаноў паказаны Ляонавым у карыкатурным выглядзе...»; «Аўтар не разабраўся ў прабледзе лесу...»; Віхроў — сумленны маньяк, які застыў на старых палажэннях навукі»; «Асабліва неабходна сказаць аб надзвычай непажаданых выніках выхаду гэтага рамана для справы падрыхтоўкі нашых маладых спецыялістаў па лесу. Ці варта даказваць, што ў такім выглядзе раман «Рускі лес» наносіць вялікія страты справе выхавання маладых лясных кадраў?»

І гэта — не толькі заявы асобных вучоных. З гэтых думак была выткана рэзалюцыя агульнага сходу ў Ленінградскай лесатэхнічнай акадэміі, прынятая амаль адна-

душна. І гэтаксама, амаль аднадушна, раман быў асуджаны ў другім буйнейшым навуковым лясным цэнтры краіны — у Інстытуце лесу Акадэміі навук СССР у Маскве.

Такое карысна памятаць. Як урок, які жыццё часамі дае літаратуры і пісьменніку.

Ды і дзеля таго памятаць, каб зразумець урок Леаніда Ляонава, які ўжо ён даў, думаецца, не адным толькі пісьменнікам, калі на дыскусіі ў Інстытуце лесу сказаў:

«...Я, вядома, падумаю над усім, што было сказана. Аднаго я не выпраўлю — гэта ўсяго таго, што датычыць у мяне пытання пра рускі лес. Я адданы рускаму лесу да канца майго жыцця і ўпэўнены, што ў гэтым пытанні мы ўсё ж пераможам».

Узор пісьменніцкай мужнасці.

І дальнабачнасці.

Бо сёння, праз дваццаць пяць гадоў пасля ўсіх тых гучных дыскусій, рэзалюцый, патрабаванняў адвярнуць студэнтаў ад рамана, заняткі ў многіх лясных навучальных установах краіны пачынаюцца ўсё ж з лекцыі Віхрова. Герой рамана Леаніда Ляонава першым узыходзіць на прафесарскую кафедру і першым звяртаецца да моладзі лясных аўдыторый — першакурснікаў:

«З гэтага часу адзінай абаронаю лесу становяцца нашы розум і сумленне...»

Яго, Віхрова, а не Грацыянскага, Ляонава, а не тых вучоных аўтараў рэзалюцый асуджэння пісьменніка, рускі лес прызнаў сваім сумленнем і сваёй высокаю праўдай.

А ці не сустракаемся мы тут са з'явою, якая мае даволі рэдкія аналогіі?..

Возьмем Кіжы.

Быў майстра, выдатны мастак, які ўзвёў іх над чыстым азёрным люстрам. Але ёсць і думка, што Кіжы ўзвёў не адзін чалавек, а народ, што час і народ стварылі ідэал прыгажосці, адшліфавалі яго доўгім жыццёвым вопытам, а ўжо той невядомы майстра толькі выконваў волю народа і часу.

Можа, у пэўнай меры гэтакае атрымалася з «Рускім лесам»? Яго ідэі, вобразы, праблемы, ідэалы нарадзіліся, безумоўна, у самім лесе, у народзе. Такі раман павінен быў з'явіцца як вынік народнага ляснога вопыту, як выяўленне народнага ідэалу, высокай народнай думы пра лес. І, прынамсі, у наш час, калі гэтак востра, як пытанне жыц-

ця і смерці ўсяго чалавецтва, паўстае праблема разумнага абыходжання з прыродаю, з усёй зялёнай сарочкай планеты. У народзе выспела энергія рамана, яе хтосьці павінен быў заўважыць і выказаць. Абы-хто такое зрабіць не мог. Такое мог зрабіць толькі выдатны майстра.

Гэта зрабіў Леанід Ляонаў.

І, можа, усё гэта дае падставы сказаць, што раман «Рускі лес» — з'ява гістарычная.

Вядома, свет твораў Леаніда Ляонава куды шырэйшы за свет аднаго рамана. Але, па шчырасці кажучы, мне ляонаўскі лес пакідаць няма ахвоты, як, можа, іншаму няма ахвоты развітвацца з мастацкім светам «Соці», ці «Барсукоў», ці «Залатой карэты», ці «Яўгеніі Іванаўны». Ды і шырыні свету ў ягоным лесе даволі. Пісьменнік прызнаваўся, што свой лясны раман ён пачаў пісаць яшчэ першым апавяданнем «Барыга» і пісаў ледзь не ўсё жыццё.

Ціша.

І зімовая, і вечаровая, і лясная.

Мы з Васільевічам, два лясныя хадакі, расклалі на квартальнай прасецы цяпельца, чакаем Петрака Кірылавіча з апошняга загону. Васільевіч трымае ў руцэ мёрзлую бярозавую галінку і кажа:

— Мёртвая?.. А вось... глядзі...

Ён падносіць галінку да агню, і на ёй у адзін міг ажываюць дробныя чорныя, нібы жвірынкі, пупышачкі: разрываюць на сабе закачанелыя ад халадоў зімовыя сарочкі і, усё роўна як вясною, як на вясновую цяплынь, разяўляюць даверлівыя цёплыя роцікі.

Васільевіч ведае, што на гэта сказаць, але маўчыць, адно глядзіць мне ў вочы і, нібы які чарадзей, усміхаецца.

І я маўчу, зачараваны.

Маўчу, а сам думаю, што гэта — тая ж Калінава сіла. Яна і ў бярозавай закачанелай галінцы, і ўсюды-ўсюды вакол нас, па ўсім лесе насеяна.

Жыве. Не памірае. Не вымярзае.

*1979*



# ЗЯМЛЯ КАЛЕВА

**(Народ і эпас)**

Поўнач засталася там, у белым ззянні, а я зноў у Мінску, ад яе — далёка на поўдні, хоць тут цяпер таксама ледзяны дождж і мокры снег. Учора, імглістым ранкам, калі садзіўся ў «ІЛ», мне здавалася, што еду дадому на пабыўку і хутка вярнуся — не верылася, што расстаёмся надоўга. А сёння бачу, што гэтакі наш лёс — расстацца: у кожнага свае шыроты і мерыдыяны. Вось зноў сяджу за сваім рабочым сталом, і сонечныя руны, бясконцыя паўночныя лясы, вятры, воды, ружовыя і блакітныя скалы, чысты водар і нават хлюпкая перадзімовая слата Поўначы, яе людзі, твары і галасы, ажываюць у маёй усхваляванай памяці...

### «ЛАЎЛА ЛАЎЛУ...»

Ляскаюць па камянях боты.

Мае боты. Мае першыя на Поўначы крокі. Берагам Куйтыярві — да Іванан Улы і Васелэйн Мары.

Я стаю на беразе возера і дзіву даюся — што за вечар! Умудрыўся ж гэтак раптам сабраць на сваіх загонах незвычайныя мне фарбы неба, зямлі і вады: шэрыя да чорных, ружовыя да белых, блакітныя да сініх. Зверху, да палавіны неба, навісла глухая чарната; далей, да самае вады, гарбатым белым мядзведзем апусцілася халодна-бе-

лая заслона, вада пад ёю ссінела, як ад стыні ці злосці. Белыя і чорныя фарбы не змешваліся, паміж імі жыла свая варагавітасць, адасобленасць.

Суседства белага і чорнага — ноччу. Такая дзіўная нечаканасць для нетутэйшага вока.

Рыпнулі нарэшце ўключыны.

Лодка?!

Чорная і выгнутая, быццам стружка з неба, яна зачапіла высокім носам хмару-мядзведзя і павалакла з сабою — на мой бераг.

Вёслы нетаропка падымаліся і апускаліся. Падымаючыся, яны злівалі ў ваду белыя мядзведжыя касмылі.

Дзве галавы над бортам лодкі. Гэта — Улы і Мары. Хлапчук, прабягаючы берагам, казаў, што ўранні яны ставілі за астравамі заколы на харыўса і сёмгу, а надвечар — яшчэ сонца не села — павеславалі з сеткаю на сяляву.

Улы і Мары прывязалі пад гарой лодку, непаспешліва перабралі сець, выкінулі сяляву з лодкі ў кош, раскінулі снасць на вешалах, каб сохла, і вось падымаюцца на гару — бухаюць па дашчаных кладках ботамі-гірамі. Адна жанчына злева, другая справа — нясуць вялізны кош з сяляваю.

Ідучы, гамоняць на сваёй пявучай мове. Я ўсё чую, ды нічога не разумею.

Спыніліся, паставілі кош на зямлю, глядзяць на мяне і дзівяцца: хто такі і адкуль?

— Да вас прыехаў,— кажу.

— Лаўла лаўлу? — пытаецца адна з іх.

— Па песні? — перакладае другая.

— Я па руны да вас...

Улы і Мары вядуць мяне да хаты, пашчапаныя вуглы якой нагадваюць гірлянды павучыных сетак.

На вялізным стале, застаўленым кубкамі, сподачкамі, шыпіць самавар. Тут таксама сялява — мочаная, смажаная, вяленая. Нават пірог з сяляваю.

Улы — чарнявая, без адзінага сівога валасочка, рухавая, з вясёлым хударлявым тварам, усмешлівымі вачыма. А Мары — мажная, спакойная, белатварая, зусім сівенькая. Яны не сёстры, проста даўнія сяброўкі, хоць прозвішчы ў іх аднолькавыя — Малінен. Абедзвюм недзе пад семдзесят, а магчыма, што Мары старэйшая. Усё жыццё, кажуць, разам ды разам. Парыбачаць, павячэраюць, паспяваюць, на адной печы і заснуць. Калгасам, хоць і малым, жыць весялей і лягчэй.

— Значыць, па руны? — перапытвае за сталом Улы, смачна кусаючы пірог з сяляваю.— А што? Яны яшчэ не ўсе пазбіраныя. І дай табе бог лёгкія ногі, вострыя вочы, чуйныя вушы.

Мары не разумее іншае мовы, акрамя сваёй, і Улы вымушана гаварыць то па-руску, то па-карэльску. Мары згодна ківае галавою, а Улы як бы знахарыць:

— Будзеш ісці-ехаць — глядзі на два бакі. У нашым доме чатыры сцяны. Адна сцяна драўляная. Яна цябе накорміць і напоіць. Пусцішся далей — убачыш сцяну каменную. Высокая, мохам аброслая. Дурні яе баяцца. Ты не бойся. Разводзь пад ёю цяпельца і заначуй. Трэцяя сцяна — вадзяная. Яна табе сыграе на кантэле. Што ні струна — то новая песня. Адна грае голасам векавечнага мудраца Вяйнямёйнена, другая — голасам прыгажуні Айно. А чацвёртая сцяна — вятры несуцішныя. Мне ўжо семдзесят зімак. Вось яшчэ адна ляжа-пасцелецца. А як была маладая, гадоў дваццаць назад, стану, бывала, на лыжы — паляцела, як птушка, паперадзе любога ветру ў раён, кіламетраў трыццаць. Атрымаю грошы і той жа дзень назад, супраць ветру. Ён мяне ні разу не дагнаў, не спыніў.

— Не спынілі цябе бандыты — весела рагоча Мары.

— А не было лыжніка, які б нагнаў маю спадніцу ў лесе,— рагоча і Улы.

— Ну... А руны, цётка Улы?.. Цётка Мары?..

— Рун мы табе наспяваем мех і яшчэ паўмеха. Але як абыдзеш дом наш, убачыш сцяну драўляную, другую — каменную, трэцюю — вадзяную, чацвёртую — вятры несуцішныя. Усё ўбачыш, адчуеш — вяртайся па руны.

— Далёка зайду — ці вярнуся?

— Не бойся дарог, сынок. Пагрэйся чайком, падмацуйся сяляваю ды ідзі сабе з богам. Цяпер машыны па ўсіх дарогах бегаюць. А каб сілы не пакідалі, слухай струны мудрага Вяйнямёйнена і песні прыгажуні Айно.

Васелэйн Мары паставіла сподачак з моцна завараным чаем на стол, міла ўсміхнулася сяброўцы круглым белым тварам, кінула ёй нешта кароценькае па-карэльску, тая адказала ўсмешкаю на ўсмешку, адмахнулася сухой лёгкай рукою і таксама слоўцы карэльскія сыпанула. Не ведаеш мовы — быццам вушэй і языка не маеш.

Улы мяне разумее:

— Сказала Мары, што я вельмі многа званю.

— А вы — ёй?

— А я — ёй? Чалавек, кажу, негаваркі — што карова без званочка.

Не пачуўшы ў той вечар карэльскіх рунаў, я ўранні пакінуў высокі бераг Куйтыярві, вёску Войніцу ў Калевальскім раёне, хату Улы Малінен, сагрэты чаем і вясёлымі шчырымі жартамі. Хай будзе, як сказала Улы. Яна чалавек мудры. Пашукаю спачатку сцяну драўляную, потым каменную, потым вадзяную і ветраную, агледжуся ў прасторным, ад мора да мора, доме, дзе жывуць і песні Іванан Улы, і песні Васелэйн Мары, і ўсе руны зямлі Калева.

Я пайшоў.

Справа і злева густа стаялі сосны, елкі, бярозы — лес без канца і краю, рэдка дзе — па зямлі, часцей — па каменні: круталобым, стракатым ад разнаколерных лішайнікаў — зялёных і сіне-сінюшных, ружовых і шэрых, сівых і чорных. Не абы-як ляжала каменне, узвышалася крушнямі, крушні туліліся адна да адной, адна за адной, выкладаючы паміж дрэў звілістыя каменныя ручаіны. Гэтымі сцежкамі-ручаінамі іх гнала калісьці вада, потым яна змаглася іх гнаць на поўдзень, пакінула каменне тут, а сама ўлегцы панеслася далей. Кожны камень, вялікі ці малы, глядзеў з-за дрэва ці большага камення жывой істотаю, ля кожнага падбівала спыніцца і доўга разглядаць на ім малюнкі прыроды. Аднак я мусіў спяшацца. Пад нагамі хлюпала рудая лясная вада, трашчала сухое галлё, звінеў камень...

Праз два дні я стаяў на беразе Анежскага возера.

Ля маіх ног і прыбярэжных валуноў зноў гайдалася вада, але ўжо не тая рудая, што ў лесе, чысцюткая, пра якую ў мясцовых даведніках пішуць, што яна ў два разы чысцейшая за дыстыляваную. Сонца выглядала на яе з-за хмар варожа, не жадаючы прылашчыць, супакоіць, сагрэць.

Пачынаў церусіць дождж.

— Праз пяць мінут ад першага прычала адпраўляецца цеплаход «Ладага»,— нечакана прагучаў над галавою жаночы голас.

Я падаўся да трапа.

Густой белай параю у тоўстую трубу дыхаў двухпалубны цеплаход, і чайкі кружыліся над ім, пабліскваючы белым крыллем. Разам з чайкамі над цеплаходам гуляў лёгкі белы вецер, і ці то ён у іхніх крылах, ці то іхнія крылы ў ветры апускалі да зямлі, да людзей, да мяне лагодную

мелодыю, якая вельмі нагадвала пявучае — «Лаўла лаўлу...».

Яшчэ паэт-дзекабрыст Фёдар Глінка, адбываючы тут палітычную высылку, заўважаў:

> Салодкая ў лясной Карэлы
> Пявучая адвеку мова...

Далей:

> Была ахвота паўтарaць
> Іх гукі — сэрца ў захапленні
> Гульнёю звонкай гука «л».

Лаўла лаўлу, Улы...

Вось і першая песня з берагоў Куйтыярві: першыя тры словы — пявучыя, чыстыя, з «гульнёю звонкай гука «л».

Белыя: лаўла лаўлу...

## І СНЫ, І ЯВА

Тут ходзяць менш па зямлі, а больш — па дрэве. Калі я вярнуўся з Кемі ў Петразаводск, некалькі начэй мне чуліся ў сне чыесьці гулкія крокі па дашчаных дарогах.

Не так даўно паміж Кем'ю і Рабочым Вострававам разабралі дзесяцікіламетровую драўляную дарогу, высыпалі гравійку, збіраліся класці асфальт.

На Рабочым Востраве я не бачыў зямлі з-за драўлянага насцілу: вуліцы і плошчы замошчаны дошкамі спрэс, нібы палуба карабля — ад борта да борта. Ідзе чалавек у адным канцы вуліцы, а ў другім чуваць яго гулкія крокі — драўляны насціл рэзаніруе туга напятай струной.

Нават марская затока — замошчана дрэвам: вады не відаць пад кругляком, сабраным ў запані.

На сарціровачным рэйдзе, прыгнанае молевым сплавам, бярвенне цалуецца адно з адным у шырокім галоўным калідоры, клацае-перагаворваецца, а потым, баграмі адагнанае ад агульнай шчэці, у вузкіх дашчаных рукавах звініць, гудзе, уздыхае — рудстойка, палубнік, дзелавое, дрывяное. І толькі ў калідорчыку з рэзанансавым дрэвам пакуль што ціха. Два-тры бервяны за дзень сюды заплыве — ім не цесна. Хоць кожнае — цэлы аркестр: заўтрашнія скрыпкі, гітары, балалайкі, беларускія цымбалы і карэльскія кантэле жывуць у ім, чакаюць сваіх песень.

Драўляныя масты і тратуары ў Кемі падымаюць мяне

на Лепас-Востраў да шатровага Успенскага сабора — песні дрэва і мужыцкай сякеры.

Хатка вартаўніцы Аўдоцці Булыгінай — насупраць сабора. Заўважыўшы мяне, яна падышла да акна. Я паказаў паперку з гарсавета на права наведаць сабор, і старая ў адказ кіўнула галавою: зараз, маўляў, іду.

Прыйшла.

Забрала паперку і павяла да шатроў.

Шатры ўзносіліся пад неба стромыя, аздоба на іх ляжала строгая, немудрагелістая. Там-сям была прышыта новая цясіна, шалёвіна ў паддашку жаўцела — нехта даваў паднову.

Старая з сякераю на плячы абышла сабор, зноў вярнулася да мяне, уздыхнула:

— Хацела аканічкі адчыніць, сонейка ў алтар пусціць, ды не змагла. Вокны ў саборы высокія, а ён кожную аканічку прышыў... Чорт гэты!

— Вы пра каго?

— Ды-ы... Далі п'яніцу рэстафра-атара. Жлукціць гарэлку, а мне яго шукай. Знайду, прывяду, а ён зноў збяжыць. Во, работнічак! Мне без яго хапае. Аднаму адчыні, пакажы, потым другому. Сюды цяпер тышчы плывуць. З іншых гасударстваў.

Ля плота спыніўся маладзенькі міліцыянер.

— Бабка, пусці паглядзець!

— Дай спрафку!

— Якую табе спрафку? Не бачыш?..

Але бабку ён не спалохаў:

— Ыйш! Думае, як красна шапка, дык і ўласць. А мне семдзесят тры гадкі, сокал ясны. Во мая ўласць! На што пастаўлена, тое і раблю.

З-пад ганка тырчалі ногі «рэстафратара»: адна ў боце, другая босая. Ён хроп. Але бабка не чула — была глуховатая.

Пакідаючы Лепас-Востраў, я спыніўся на драўляным мосце цераз раку Кем, каб яшчэ раз, ужо на адлегласці, падзівіцца на сабор. Тры драўляныя шатры, тры рослыя браты, адзін прыгажэйшы за другога, узвышаліся над горадам, надаючы яму, усяму гораду, лёгкасць і крылы, на якіх ён нібыта марыў узняцца ў неба. Я ўспомніў маленькага Сампса Пелервайнена:

> Пачаў сеяць Пелервайнен,
> землі засяваць, балоты,
> камяністыя раўніны

і пясчаныя паляны.
На гарах пасеяў хвоі,
елі на ўзгорках, ніжай.
на пясках пасеяў верас,
маладый лясок — у нізінах.

У маленькага хлопчыка была мудрая галава, калі нават

Мудры, стары Вяйнямёйнен
выправіўся ў лес аднойчы
паглядзець пасевы Сампса...

Мне сказалі аб гэтым драўляныя шатры Лепас-Вострава. Яны і паказалі дарогу ў лес, з якога некалі прыйшлі самі.

## МУРЫ МУРАМШЧЫНЫ І РЫМША. ЭПАС І РОЗДУМ

Я не прызнаўся Улы і Мары, што руны зямлі Калева былі са мною ўжо тады, калі я чакаў іх, старых, на беразе Куйтыярві. У чамаданчыку ляжалі ручнік, хлеб, сала, мыла, блакноты, алоўкі, а яшчэ — толькі што выдадзены карэла-фінскі эпас. Яго, «Калевалу», мне падарыў Марат Тарасаў, петразаводскі паэт, адзін з перакладчыкаў «Калевалы» на рускую мову ў кампазіцыі Куусінена. І мала сказаць, што ў маіх руках была кніга. Было свята, якое адчуваеш адразу, з першага позірку. Выдатна выдадзеная, кніга адразу, ужо з супервокладкі, уладна павяла не толькі ў багацце рун, з якіх складаўся эпас, не толькі ў высокае мастацтва Тамары Юфы, ад каляровых ілюстрацый якой нельга было адвесці вачэй, але і ў дарогу па зямлі Калева.

Развітаўшыся з Улы і Мары, нікога іншага яшчэ не сустрэўшы, пакінуўшы іх бераг і пакуль што не прыбіўшыся да нейкага іншага, такога, каб ён абнадзеіў, як абнадзеіў бераг Улы і Мары, я быў разгубіўся: навошта тут апынуўся, навошта мне руны, мала з мяне сваёй зямлі і сваіх песень?

Дзень цьмянеў. Сонца не паказвалася на вочы ад раніцы. Неба над галавою раскінулася шэрае, нізкае, цяжкое. Я чакаў малы рэйсавы самалёцік, каб пераляцець на процілеглы бераг Анежскага возера. Самалёцік недзе адсыпаўся, спазняўся.

І раптам з вакзала на пасадку выйшаў высокі шыракаплечы дзяцюк. Цяжкі брызентавы плашч на ім шастаў,

як марскі вецер на абледзянелай палубе карабля, незвычайна вялізныя боты прабухалі міма мяне цяжарам ляс-ных валуноў, а круглая, без шапкі, рыжая зарослая галава падалася калматым ад нізкай вільготнай смугі сонцам, якое кацілася на ўзлётнае поле.

Яго заўважылі ўсе, хто чакаў каля поля самалёта на Пудаж, бо ўсе рушылі за ім следам.

Там, куды рашучым размашлівым крокам вёў дзяцюк, стаяў доўгачаканы самалёцік, і я рушыў у той бок з усімі разам, адчуўшы, што гэта і мой самалёцік. Але вачыма, ідучы, я шукаў таго чалавека, хоць яго і шукаць не трэба было, ён узвышаўся над усімі, яго галаву, як сонца, ніхто не мог засланіць. Я проста спяшаўся, каб нагнаць яго. Мне падалося, што ён сышоў на поле са старонак паэтычнага эпасу. Хто ж ён? Мо —

...каваль? Сам Ілмарынен,<br>майстра кузні векавечны?

Той самы, што —

жалезную кашулю<br>сталлю тонкай падпеdo разаў.<br>З каменю зрабіў вязёнкі,<br>а з жалеза рукавіцы.<br>Выкаваў каня з агню ён<br>і запрог яго ў вупраж —<br>выехаў араць палетак,<br>поле ўсіх гадзюк узварушыць.

Але каля яго ног віліся тры вялізныя белыя лайкі. Навошта кавалю лайкі? Ці не паляўнічы? Можа —

Смелы хлопец Лемінкяйнен,<br>што памчаўся ўслед за лосем?

Схапіў за каўнер адну лайку — кінуў у самалёт, другую і трэцюю — таксама. І сам за імі ўскочыў.

У Пудажы першых з самалёта выпусцілі лаек, а за імі — гаспадара. Калі я выйшаў з самалёта, яго доўгі плашч матляўся на ветры ўжо далёка ў полі і тры белыя лайкі таялі ў шэрай смузе каля яго ног.

Назаўтра я раніцай, паснедаўшы, выйшаў з гасцініцы і паўдня хадзіў па гарадку, прыглядаючыся да людзей, спадзеючыся сустрэць паміж іх дзецюка, які мяне гэтак уразіў. Пудаж — гарадок маленькі, усё роўна як вялікая вёска, на адным драўляным паверсе, людзей у ім небага-

та, але свайго Лемінкяйнена я не сустрэў. Можа, сапраўды памчаўся ўслед за лосем?

Я сустрэў яго пазней, праз колькі дзён. За гэтыя дні разам з галоўным інжынерам Пудажскага леспрамгаса Дзмітрыем Станіслававічам Рынкевічам мы аб'ездзілі нямала лясоў на ўсходнім узбярэжжы Анежскага возера, неаднойчы мяняючы «казла» на бензавоз, бензавоз — на звычайную лодку, лодку — на буксірны кацер, а дзе ўжо ніякі транспарт не мог пасобіць — прабіраліся пеша. Канчаўся трэці квартал, блізка быў канец года, наперадзе чакала няласкавая паўночная зіма з лютымі маразамі і бясконцым снегам, кожны нумар цэнтральнай карэльскай газеты «Ленинская правда» пачынаўся зводкаю лесавывазак, і ўвесь Пудажскі раён — адзін з асноўных плацдармаў лесанарыхтовак у Карэліі — дзень за днём пачынаў і заканчваў цяжкімі думкамі аб лесавозах, тралёвачніках, кубатуры, хлыстах — аб вывазцы дрэва.

На молевым сплаве падцягвалі «хвасты», апошняе бярвенне білася ў цяснінах парогаў і неслася далей, спяшаючыся; на прыазёрных рэках пачыналі разбіраць сарціровачныя рэйды, рэчышчы ачышчалі ад аварыйніку і тапляку, падымалі на берагі драўляныя шнуры абаноўкі; сплытчыкі пераключаліся на берагавыя работы, а жанчыны незадаволена пагаворвалі, што замест трох-чатырох соцень у месяц будуць цяпер зарабляць усяго па сто-паўтараста рублёў; заяц ужо мяняў шэрую поўсць на белую, а лясныя дарогі трымалі на сабе ўсё тую самую ношку — лесавозы лес як вазілі, так і вазілі, не болей і не меней, чымся па летніх дарогах. Адна была розніпа, што ўлетку каляіна пад імі сухая, а цяпер мясілі ґразь, плавалі па вадзе, нясцерпна чакаючы зімнікаў.

Мы заехалі на прыстань Падпарожжа. Тут быў сарціровачны рэйд. У гэты дзень разбіраўся апошні молевы сплаў.

Рынкевіч, адарваўшыся ад руля, першым выскачыў з «казла». Усю дарогу, едучы ў Падпарожжа, ён хваляваўся, нічога не кажучы, нешта яго тут непакоіла, і толькі цяпер, з высокага берага хуткімі вачыма агледзеўшы раку, рэйд, пачаў супакойвацца.

— Мільён кубікаў за лета! Міль-ён! — не адрываючы вачэй ад рэйдавых парадкаў, нібыта сам здзіўлены, сказаў ён мне.— З аднаго рэйда мільён! — і пашыбаваў да рабочых.

Я хацеў нагнаць яго, але гэта было не проста. Мне не

хапала спрыту, каб лёгка, нібы па зямлі, хадзіць над вадою па вузкіх дашчаных бонах. Ён зусім знік з маіх вачэй, і я адзін снаваў паміж сарціровачнымі калідорамі, дзівіўся, як разумныя машыны аграмаднымі жалезнымі рукамі бралі са штабялёў бярвенні, трасамі мацавалі яго ў пукі і падавалі далей, дзе вязалі грабёнкі, з грабёнак — плыты, з плытоў — караваны.

Мінаючы кантору дзесятніка, пачуў аднекуль, як з неба, знаёмы голас:

— Ало!.. Дрозд?!

Я адчыніў дзверы канторы — Рынкевіч сядзеў за сталом, крычаў у тэлефонную трубку:

— Калі зацягнеш з зімнікам, я з цябе адбіўную зраблю! Зразумеў?.. Машыны будуць вазіць лес, не дам ніводнай. А дарога каб была! Ясна? Дзяржаўны план! Ясна?..

Мы зноў селі ў машыну, калі над рэйдам пракаціўся густы бас:

— Галоўны-ы!.. Стой, галоўны-ы!..

Цераз раку па бярвенні, тоўстым і тонкім, што ляжала на плыву не сартаванае і не вязанае, сігаў на даўжэзных нагах дзе праз два бервяны, дзе праз тры здаравенны дзяцюк. Бярвенне пад ім то давала нырца, танула, то зноў вынырвала, ужо за яго спіною, то круцілася, разбягалася, адкрываючы чорныя вадзяныя ямы, а ён бег, і боты, здавалася, нават вады не краналі.

— За Водлу, галоўны?.. Падкіньце!..

Гэта быў ён, рыжы... Я ўзрадаваўся.

Ён сядзеў побач са мною, вялізны і прыгожы, засланяючы ад мяне ўвесь свет, што быў за вокнамі машыны, я адразу і забыўся на ўсё астатняе, з захапленнем разглядаючы яго густую рыжую бараду, вясёлы малады твар, густую рыжую чупрыну і... боты, тыя самыя, у якіх ён, як вецер, прайшоў міма мяне да самалёціка. Зроду не бачыў гэтакіх вялізных ботаў: няйначай як шыліся па слановай назе, спецыяльным заказам.

— Дзе ж ты цяпер працуеш? — спытаў Рынкевіч.

— На фарміровачным.

— Дурань, што кінуў завочны інстытут, з'ехаў. Што знайшоў на іншых рэйдах?

— А фігу з маслам.— Зарагатаў, разгладжваючы вялізнай рукою сваю бараду.

— А ў мяне б ужо інжынерыў. Калі б не збег.

— Пляваў я на інжынерства. Грошы маю не меншыя, а чыны не грэюць. Грэюць бабы і грошы. Жыць трэба так,

як душа падказвае. Волю трэба цаніць. Я не люблю людзьмі камандаваць. І крый божа, каб мною хто пакамандаваў. Не люблю. Не дазволю.

Рынкевіч замоўк, усё роўна як думкі яго разышліся з думкамі чалавека, якога ён — па голасе, па жывых вачах нельга было не заўважыць — не то цаніў, не то любіў. Але і маўчаць не хацеў:

— Куды падвезці?

— Кацер чакаю з Кандапогі.

— Зноў чарняўка плыве?

— Плыве...

— Жаніцца думаеш?

— Як моцна захаладае.

— А чаму — як захаладае?.. Дый моцна.

— Печка спатрэбіцца.

Рынкевіч замоўк, а рыжы доўга і весела рагатаў. З гэтым рогатам ён і выскачыў на дарогу, як толькі машына спынілася, выехаўшы да прыстані.

Мы паехалі далей. Я азірнуўся. Праз задняе запыленае акенца мне відаць было, як ён стаяў у пыле пасярод дарогі, аддаляючыся ад нас, стаяў іківаўся ўзад-уперад, хапаючыся за жывот — рагатаў. І мне падалося, што я яго даўно ведаю. Але чаму гэтак падалося? Не, я нідзе яго не сустракаў раней. Толькі тады, у Кандапозе, чакаючы самалёта, ды вось цяпер. Але чаму было гэтакае адчуванне, што ведаю чалавека даўно? Ці не таму, што зноў на памяць прыйшлі ў гэты момант руны:

Зноў вясёлы Лемінкяйнен
ходзіць па лясах дрымучых,
у ельніках спявае песні,
у глыбіні хваёвых дзебраў.
Спадабаўся гаспадыні
і гаспадару Тапіо,
песнямі ўсхваляваў сваімі,
дочак лесу пакарыў ён.

І я не развітваўся з ім. Я ведаў, што мы яшчэ недзе сустрэнемся.

Рынкевіч маўчаў, і мне здавалася, што ён ужо выкінуў з галавы гэтага вясёлага хлопца, не ён сам, можа, выкінуў, выкінуў той самы клопат пра лесавывазкі, зімнік, машыны. Але раптам засмяяўся, усё роўна як пра яго толькі і думаў:

— Чулі? Печку яму трэба. Цяплынь любіць. Ёсць у яго тры здаровыя сібірскія лайкі. Зімою на снег кладзец-

ца і спіць. Адна лайка згорнецца, ён на яе галаву пакладзе. А тыя дзве кладуцца з бакоў, грэюць гаспадара. Прывучыў.

— Паляўнічы?

— Яшчэ які! Я ж кажу: яму зімой выспацца ў лесе — як мне на ложку.

Я расказаў, як ляцеў з ім у Пудаж, як ён ляцеў з лайкамі. Рынкевіч зноў рагатаў:

— Лётаў да свае чарняўкі на спатканне. А дзяўчына прыгожая. Бачыў яе тут. Кажу яму: ты, Васіль, не сабак вязі да дзяўчыны, а падарункі. Сам прыкавалерыўся б. Касцюмчык, чаравічкі. А ён што мне кажа? Я, кажа, магу ў ёй памыліцца, а сабачкі мае не памыляцца, я, кажа, па іхніх нюхаўках бачу, што яна за баба. Я ж, кажа, можа, у разведку езджу. Але вось табе і разведка: толькі вярнуўся, як яна — за ім следам. Ужо ён яе сустракае.

Рынкевіч дастаў з кішэні чырванабокі яблык, працягнуў яго мне, а другі дастаў — падаў шаферу:

— Прыслалі бацькі. З Дзятлаўшчыны. У нас там, на Беларусі, сады-сады! Не як тут. Любата-а!..

— Зямляк? — здзівіўся я.

— Выходзіць, што так. З Дзятлаўскага раёна. Закончыў у Мінску лесатэхнічны інстытут. Адтуль — сюды, у Карэлію. Нічога. Прыжыўся. А дзе беларус не прыжывецца?

Машына спынілася. Справа ад дарогі, за рэдкімі хвоямі, віднеўся раскапаны экскаватарамі кар'ер, і адтуль, з кар'ера, цяжка, пад грузам, адна за адной выпаўзалі машыны. Яны вазілі гравій на той самы зімнік, за які галоўны інжынер гразіўся нядаўна нейкаму Дразду. Мы падышлі бліжэй. Экскаватар, то падбіраючы пад сябе чарпак, то пасылаючы яго на доўгай руцэ ўперад, сыпаў пароду ў кузавы «МАЗаў» і «ЗІЛаў», і машыны, прысядаючы на рысорах, адна за адной пакідалі кар'ер. Было відаць, што тэлефонная размова сваё зрабіла. Рынкевіч быў задаволены.

За кар'ерам гула бензапіла, падалі, стогнучы на ўвесь лес, дрэвы. Мы абышлі балотца, перасеклі разбітую машынамі ляжнёўку, цераз эстакаду прабраліся ў яловы падлесак. Па песні пілы, па елцы, што гайдалася зялёнай макушкай сярод падросту, выглядала, куды, на які бок, лёгчы, зразумелі, дзе працуюць вальшчыкі.

Елка гахнула на зямлю блізка і мякка, як на пярыну.

З таго боку насустрач нам ужо ішоў у жоўтых пексах з абвіслымі халявамі рабочы.

— Чаму без каскі, брыгадзір? — адразу выгаварыў Рынкевіч.— Не ведаеш тэхнікі бяспекі? Прыклад людзям падаеш?

Але і той быў настроены ваяўніча:

— Якая тут тэхніка бяспекі? Адно жэрдзе кругом.

— Ты мне... Каб апошні раз!

— Няма тут чаго валіць. Чаго берагчыся? Дзе тое дрэва?

— Знаёмцеся. Бельскі, Васіль Іванавіч. Беларус. Адзін з лепшых вальшчыкаў,— прадставіў галоўны інжынер.

— Які лепшы? — усё роўна як пакрыўдзіўся ад гэтакай атэстацыі вальшчык. Ён быў яшчэ малады, жылісты, па моцнай сухаватай руцэ відаць, што не гультай.— За першую дэкаду заробіў сорак пяць рублёў. Калі такое было? Жонка сотню, а мужык — сорак пяць. Ды яна ж з такімі заробкамі на парог не пусціць.

Але і галоўны не ўсё тое слухаў, што ён казаў са злом:

— Адкуль родам?

— Ды... з Ушач. Што з таго?

— Вось бачыш?.. А я з Дзятлаўскага раёна. Чуў пра такі?.. А госць наш з Мінска. Землякі. Сваякі, можна сказаць. А ты расплакаўся. Сарамата...

— Ды я...

— Што ты-ы? Абедню ты мне сапсаваў.

Бельскі вінавата таптаўся на зялёным лапніку, відаць, шкадуючы, што гэтак нядобра ўсё атрымалася, пазіраў то на мяне, то на галоўнага інжынера, не ведаючы, ад каго чакаць падтрымкі, намагаўся нешта сказаць прымірэнчае, але не знаходзіў слоў.

— Ладна, працуй,— нібыта палагаднеў галоўны.— Падумаю, куды цябе перакінуць. Тут лесу сапраўды няма. Але ж нехта і тут павінен рабіць? Пойдзеш у суседні квартал?

— Глядзеў і там. Таксама жэрдзе.

— Ну дык!..— Рынкевіч зноў быў узарваўся.— Дзе я табе добры лес знайду? Быў добры, а застаўся... Ідзі працуй!

Так і развіталіся з земляком, не пагаварыўшы палюдску.

Мы селі ў машыну. І не ехалі, быццам не ведалі, куды цяпер ехаць. Думалі — кожны пра сваё. Ці — пра адно?

— Бачыш, што робіцца? — першым загаварыў галоў-

ны.— Людзі сюды едуць. І з Беларусі. Думаюць, тут лясам няма канца і краю. Ка-рэ-лі-я!..

— Гэтак і мне ўяўлялася,— прызнаўся я.

На твары Рынкевіча заблукала ўсмешка:

— А што?.. Карэлія лесам яшчэ багатая. Яшчэ нарыхтоўваем па дваццаць мільёнаў кубікаў за год. Тут, дзе стаім, лесу ўжо няма. Але ён і ёсць. Далей. А колькі? І колькі можна яго тут валіць? Што будзе праз дзесяць гадоў? Нават калі яго адсюль вывозіць не болей, як сёння, а што пачнуць вывозіць меней — не спадзявайся, то праз дзесяць гадоў не вывозіць яго адсюль трэба будзе, а завозіць. Каб працавалі тыя камбінаты, якія тут панабудаваны. Робяць цэлюлозу, паперу, кардон. Адкуль мы сюды лес прывязём? Можа, з Беларусі?..

Мы зразумелі адзін аднаго. І ў тым, што паспелі адзін аднаму сказаць, і ў тым, чаго сказаць яшчэ не паспелі. Абодвум зрабілася сумна. Замоўклі і паехалі далей, да Рымшы, караля, як сказаў Рынкевіч, у Гакугсу — ляснное каралеўства.

Пасёлак лесарубаў Гакугса — гэта Мурамшчына. Яе гаспадара Віктара Іванавіча Рымшу мы знайшлі ў канторы лесапункта. Ён сядзеў за сталом у вайсковым бушлаце, старэнькай зімовай аблавушцы, на стале перад ім ляжалі пальчаткі і лічыльнікі, рука — на лічыльніках, пальцы яшчэ намацвалі круглыя абслізганыя косткі, якія для начальніка лесапункта, вядома, былі не косткамі, а кубаметрамі, дзесяткамі, сотнямі, тысячамі кубаметраў. З-пад стала тырчэлі ногі ў керзачах.

Ён быў рады, што мы прыйшлі. Гэта нельга было не заўважыць па яго маладым і прыязным твары, вельмі, як мне падалося, шчырым. Адразу расказаўшы паляўнічы анекдот, ён не хацеў гаварыць пра работу, да чаго, здавалася, абавязваў прыезд галоўнага інжынера, прапанаваў сплаваць, пакуль не зайшло сонца, да былога Мурамскага манастыра. Я зразумеў, што гэтаю прапановаю ён выказвае ўвагу да мяне, і адразу адчуў да яго ўдзячнасць.

Мы выйшлі на рэчку Гакугсу.

Кацераў ля прычала не было — яшчэ не вярнуліся з работы. Рымша прывалок з блізкага гаража матор, паставіў яго на лодку, заправіў бензінам, і мы паплылі ў Мурамскае возера.

Захад сонца выдаўся надзіва чысты, сакавіта-чырвоны.

Вада здавалася чорнай, але была разам з тым празрыстай, у ёй прыгожа калыхаліся на хвалях адбіткі пахілых прыбярэжных бяроз і чароту.

Сустрэлі «Мурамца» — кацер, які вяртаўся з жанчынамі ў вёску. На вадзе прышвартаваліся бортам да борта, перайшлі на кацер, и жанчыны пераселі ў лодку — пажадалі адны другім ціхай вады і паплылі. Яшчэ хвілін праз пяць мы ўжо ўваходзілі ў шырознае, акаймаванае чырвоным лапушыстым чаротам Мурамскае возера.

Да самага далягляду вада ляжала ружовая, зіхаткая, фарбы ў фарватэры «Мурамца» збягаліся да густа-чырвоных, быццам кроў старажытных падзей усплыла на паверхню.

Водар даўніны, некранутасці сённяшнім часам панаваў і на востраве. Векавыя, ажно сінія, сосны вартавалі ззелянелыя старыя муры і скасабочаныя драўляныя будынкі, старадаўнюю цэркаўку, глухую і нямую званіцу без звона, магутны крыж на магіле самаўладнай ігуменні Неанілы. Калісьці яна жыла ў Кіжах, а Мурамскі манастыр быў мужчынскі. Дачуўшыся, што ў манастыры няма ігумена, пануе анархія, Неаніла села ў лодку-кіжанку, пераплыла Анежскае возера і насуперак волі Сінода прымусіла мужчын прызнаць сябе за ігуменню. Потым яна сабрала жанчын, падняла іх супраць мужчын. Жанчыны мужчын прагналі, і Неаніла заснавала тут жаночы манастыр. Ды якіх мужчын прагналі? Былых салдат, інвалідаў вайны. Яны паскардзіліся на самаўпраўніцу ў Сінод. Адтуль выехалі служкі Сінода, каб супакоіць Неанілу. Аднак не даехалі, як яна памерла. Манастыр зноў адышоў мужчынам, якія і паставілі на магіле Неанілы ў 1780 годзе высозны дубовы крыж. Сабе на супакаенне.

На камяністым высозным беразе хліпаў чырвоны маяк, калі «Мурамец» адчаліў ад вострава.

Цямнела вельмі хутка.

Мы спусціліся ў кубрык. Некалькі разоў я пачынаў размову пра мясцовыя лясы, але Рымша зводзіў усё на жарт. Ён быццам знарок не жадаў выглядаць у маіх вачах начальнікам лесапункта, усё роўна як пераконваў, што перада мною бесклапотны лясун, неўтаймоўна вясёлая, наіўная душа. Ён сыпаў паляўнічымі анекдотамі, зусім не выдаючы іх за анекдоты, падносячы як быль, бывальшчыну, чыстую праўду, усіх заражаў сваім рогатам, настроем. Тады я не мог прадбачыць, што па тых

анекдотах, мастацкіх мініяцюрах якраз і буду памятаць Рымшу, яго вясёлыя светлыя вочы.

— А я са стрэльбаю нарадзіўся...

Гаварыў— і ўвесь час:

— Ах!.. Ха-а, ф'ю-у, бах!..

Але — па парадку.

— Мядзведзяў цьма распладзілася. У лес зойдзеш — адразу касалапаму лапу пацісненш.

Выбраўся я па журавіны. Узяў пад настрой кабялькоў, Рэкса і Рэпса. Сука таксама ўвязалася, хлопчыкаў адных са мной не пусціла. Ідзём, балота раўнуем. Хрась — сучок, чвяк — вадзічка. Не агледзеліся, як вядзерца і кашэль поўныя. Дадому б павярнуць, ды чую: Каця, сука, спявае. Скончыць песню — чую: гр-р-ры! Зноў заспявае і заціхне — зноў тое рыканне. Уга! — думаю.— Ці не мядзведзь там? І раптам: ай-яй-яй! Якоча Кацька. Сціхла. А душа мая напалам адразу, братцы. Бягу, праз кожныя тры крокі спыняюся — слухаю. Ціха. Я далей, паміж дрэў. А хлопчыкі заліваюцца, дуралейчыкі. Зір з-за дрэваў: ляжыць Каця на баку — яна і не яна. Уся чырвоная, шубка чорная з рыжымі падпаламі — ад галавы да хваста здзёртая. А хлопчыкі мордамі ў матку тыцкаюць, не пазнаюць, а па духу чуюць, што матка. І касалапая побач стаіць. Ніхто нікога не чапае. І я стаю, рукі апусціўшы. Бабахнуць? А чым? Пушку не ўзяў? Па журавіны ішоў. І рукамі не задушыш скурадзёрку. Гляджу ёй у вочы, а яна на мяне глядзіць, галаву скрывіла набок, соплі звесіла. Пастаяла, на заднія лапы села, пярэдняй лапаю слязу выцірае. Паплакала і сваім ходам — у лес, у гушчар. А мае сіроткі скавычуць. І я перад імі стаю сіратою казанскаю. Што плакаць, убівацца? Шкада Кацю, верная была. Але ж мядзведзіца сама, бачу, шкадуе, што гэтак зрабіла. Не падумала, што ў Каці хлопчыкі. Дзяцей мядзведзіца любіць. Сваіх і чужых.

Там мы Кацю і пахавалі. У журавінах.

— Э-ге!.. З мядзведзямі ў мяне былі сустрэчы. З абдымкамі і без абдымкаў. Якія хочаш. Крывалапы на мяне: р-р-ры-ы! Вочы жахам налье. І я на яго: р-р-ры-ы! І разыдземся. Бачыць: на такога ж нарваўся, як сам.

Аднойчы мае хлопчыкі абгаўкалі мядзведзіцу. А ў яе малое. Загнала яна медзведзяня на дуб, хлопчыкаў да дрэва не падпускае. У мяне стрэльба. Але хіба ты будзеш страляць у матку ці дзіця? Божа барані. Я за хлопчыкаў

ды ад таго дуба, у лес. А яна скавыча, як заве мяне назад. Вярнуўся. Хлопчыкаў трымаю паміж ног, сам гляджу: што гэта будзе? Мядзведзіца стане на заднія лапы, пярэднімі — на дрэва, увапрэцца — пагойдае дрэва. А медзведзяня на ім не чуваць, затаілася. Тады мядзведзіца адышла ад дуба, на мяне глядзіць, усё роўна як просіць аб нечым. Скінуў я з пляча стрэльбу, паставіў ля дрэва, сам палез. Яна задрала морду, за мною сочыць, а стрэльбы не чапае. Злавіў я медзведзяня, узяў пад паху — спускаюся. А яно — круць з-пад рукі і палезла ўгару. Я зноў па яго вярнуўся. Другі раз ужо каля камля мяне абдурыла. Змучыўся я, думаю: гары ты гарам, каб я з табою тут валаводзіўся. Але глянуў на мядзведзіцу: стаіць унізе, галаву задраўшы, ледзь не плача. Пашкадаваў матку — трэці раз палез. Злавіў на самай верхавіне, рэмень расперазаў, накінуў ашыйнік — павалок. Сам думаю: на зямлю як спусцімся, дык я табе, нягледзячы што матка побач, гэтым рамянём усыплю. Хай матка палюбуецца, калі гэтакага натурыстага выгадавала. А ён, зараза, зноў мяне абдурыў. На зямлю саскочыў раней за мяне, павалок мой рэмень у лес. Фу ты! Ішоў — да самага дому штаны ў руках трымаў.

— Яшчэ адно дзіва аднойчы здарылася. Скажу — не паверыце. Ніхто не верыць. А было.

Па першым снезе выбраўся я ў лес з рукзаком і стрэльбаю. Не так ішоў страляць, як сляды паглядзець. Дзень цягаўся — ногі збіў, прагаладаўся. На вываратні расклаўся з хлебам, каўбасою — абедаю. Чую: хрась-хруп, храсьхруп. Выходзіць да мяне ласіха, малы каля бока. І падышла яна зусім блізка, носам да носа. А стрэльба мая ў старане засталася. Што рабіць? Ускочыў з вываратня, бо дзе тут уседзіш? Ласіха, нахаба, морду ў рукзак, губою ў ім плямкае. Газетку на губе выцягнула, скуб-скуб, як чытае. Не спадабалася, што ў газетцы пішуць, адкінула, наздрою чмыхнула — хлеб зляцеў. Думаю: дакуль гэтае кіно глядзець? Замахнуўся — не адыходзіць. Во дзіва! Аж чую ўбаку: лоп-лоп-лоп. Нехта цяжкі ельнік ломіць. Мядзведзь? Нішто сабе, пашанцавала з гэтакімі звярамі абедаць! Дый прэ Міхась на мяне. Я да стрэльбы падскочыў, мігам ускінуў — уклаў на месцы. А што? Жартачкі? І што яшчэ дзіўна? Ласіха ну хоць бы здрыганулася ад майго стрэлу. Ані! Зваліў мядзведзя, тады яна мне галавою хітнула, падзякавала і павяла малое ў лес. Дарогу ёй, бачыце, расчысціў.

— А прыехаў я сюды ў пяцьдзесят пятым годзе. Першы раз сабраўся на дзіка з мужыкамі. Дамовіліся выходзіць у чатыры гадзіны, а яны мяне не чакалі, падманулі — пайшлі раней. Што такое? Не захацелі браць? Падумалі, што я ў іх буду блытацца пад нагамі, які з мяне паляўнічы? Пайшоў я адзін: трасца з вамі!

Іду паціху — зайчыка падняў, узяў. Далей — другога. Раптам зусім побач — ба-бах! Чужы стрэл. Бачу з-за дрэваў: стаіць адзін мой таварыш, што ад мяне ўцёк, белы, як ліпіна. Пальцы пад курком трымкаюць, калупаюць, каб гільзу са ствала выкінуць, перазарадзіць. А на яго прэ ласіха. Вось, думаю, уліп таварыш! Што мне рабіць? Бараніць трэба? Ніколі не страляў гэтакае дзіва, а тут — куды дзенешся? Забіў. Падышоў да таварыша, а ён на мяне і не глядзіць — сорам вочы есць.

А што такое брыдкае зрабіў? Першым стрэлам, які я чуў, зваліў ласяня малое. І паднялася ж рука!..

Пасля колькі разоў да мяне прыходзіў: «Пойдзем, Іванавіч, паганяем зайца?» — «Не,— кажу.— З табою я не хадок. У мяне іншыя правілы...»

Кацер збавіў ход, заглушыў рухавік, чуфыкнуў раз-другі і глыбей сеў у ваду. З цёплага кубрыка мы выйшлі на палубу.

Неба завалакло хмарамі: ні зорак, ні месяца. Пачынала імжыць. На беразе нас чакалі два чорныя, з мышастымі падпаламі, паджарыя ганчакі.

— Што, сіроткі? Засумавалі? І хто вам падказаў, з якога боку мяне чакаць? Ну, пайшлі вячэраць,— не то ім, сваім хлопчыкам, не то нам, гасцям, а можа, усім разам сказаў Рымша і павёў да бліжэйшых агнёў.

Глыбокай ноччу мы вярнуліся ад Рымшы ў Пудаж.

Прачнуўся я позна.

Дзень выдаўся ясны, сонца стаяла высока над абсыпанымі залацізною бярозамі, якія густа, нібы ў лесе, раслі за акном. Трэба было, як устаў з ложка, званіць Рынкевічу. Аб гэтым мы дамаўляліся ноччу, развітваючыся. Але званіць я не спяшаўся. Мне хацелася пабыць аднаму. Я ўзяў падораны Маратам томік з ілюстрацыямі Тамары Юфы і падаўся на бераг Водлы.

Па дарозе завітаў у сталоўку. Сняданак быў ужо і абедам.

9 Зак. 1634

На беразе Водлы я знайшоў, здавалася, тое, чаго ў гэты дзень хацела душа. Бераг быў высокі, чырвоны ад брусніц і дробных кусточкаў, акаваны залатым пасам бяроз, рака пад берагам плыла шырокая, магутная, нечакана цёмная, аж чорная, у акантоўцы лісцвянай светлыні, за ракою далёка, як кінуць вокам, цягнуліся жаўтлявыя і шэравата-блакітныя лясы, а нада мною ўзвышаўся той самы бераг, круча, на ёй — зноў лес і камяні, крушні валуноў, абчасаных сотнямі і тысячамі гадоў, аброслых каляровым мохам, лішайнікамі, расквечанымі, нібы вясновыя купіны. Я ўзлез яшчэ вышэй, знайшоў нешта накшталт абгароджанага камянямі дворыка з уз'ездам на яго, абазначаным часанымі камянямі-шуламі, сеў пад вялізным, нібы сцяна, каменем і з вышыні глядзеў на раку, берагі, лясы за ракою, якія цягнуліся далёка-далёка, да неба.

Стыхія, што акружала, жыла па законах амаль нерэальных кантрастаў. Пад блакітным небам, у вянку чыстае восеньскае пазалоты чорнай жалобаю цякла рака, нібы ў чужы свет.

Сонца сціпла хавалася ў блакітна-жаўтлявай смузе. Калі яно змывала з сябе палон смугі, зырчэла, рака пад ім не святлела, што было б натуральным,— яшчэ больш чарнела.

Дзе раней бачыў я гэтыя неверагодныя кантрасты колераў?

Незвычайна белыя чайкі кружылі над вадою Анежскага возера, разганяючы бялюткімі крыламі шэрую кудзелю імглы.

А яшчэ — ноч на беразе Куйтыярві: чорная вада, чорнае неба, а паміж імі белы, нібы льняны ручнік, край неба. І бялюткія кроплі вады, нібы кроплі вадкага срэбра. Яны зрываліся ў чорную ваду з вёсел Улы і Мары.

Усё гэта суседства Калевалы і Пах'ёлы. Вяйнямёйнена і Лоўхі. Песень славутага калевальца і заклёнаў рэдказубай ведзьмы. Вось тут:

> Мудры, стары Вяйнямёйнен
> усё на кантэле іграе...
> Месяц чуе тую песню.
> а таксама чуе сонца.
> З хаты выйшаў ясны месяц
> і ўсеўся на бярозе,
> з замка выкаціла сонца,
> верх сасны аблюбавала —
> толькі б кантэле паслухаць,
> асалоду гукаў зведаць.

Тут жа —

> Лоўхі, Пох'і гаспадыня,
> рэдказубая вядзьмарка,
> сонейка ўміг злавіла,
> месяц торапка схапіла,
> зняўшы яго з той бярозы,
> а з сасны высокай — сонца,
> і панесла іх дадому,
> у змрочныя куты Пах'ёлы.

Настае вечная ноч. Гінуць травы, жыта, птушкі, жывёла, рыба. Вяйнямёйнен выпраўляецца ў шэрую Пах'ёлу, каб вызваліць месяц і сонца «з пячоры горнай, з глыбіні вяршыні меднай», куды іх схавала вядзьмарка.

Неверагодныя цяжкасці адольвае герой, каб вярнуць на неба ўсім на радасць месяц і сонца. Але сродкі і мэта ўраўнаважаны. Сюжэт казачны, гратэск надта смелы, метафары фантастычныя, а героі такія рэальныя, такія блізкія.

Блізкія? Каму? Мне, чытачу? Штосьці я тут, магчыма, перабольшваю? Ці можа гэтакае быць?

Але перада мною зноў з'яўляецца Рымша і рыжы дзяцюк з Падпарожжа. Цяпер я адчуваю, што яны не проста перада мною, а паміж мною і героямі паэтычнага эпасу. Паміж — не для таго, каб нас раз'яднаць, мяне і Вяйнямёйнена, Ілмарынена, Лемінкяйнена. Наадварот — каб звесці. Яны — мае масткі да эпасу і яго герояў. Масткі злучаюць дзве рэальнасці, два берагі: мой, сённяшні, і бераг жыцця ў эпасе, старадаўні, часоў родавага грамадства, які Маркс і Энгельс называлі «першабытным камунізмам». Масткі пралеглі над казкаю, міфам, над усімі метафарамі і алегорыямі твора. Як гэта здарылася?..

Бачу Рыжага. На жаль, я ні ў кога не спытаў, як яго зваць. Не здагадаўся, што, за нейкія хвіліны прамільгнуўшы перада мною, ён застанецца ў памяці надоўга. Хай будзе — Рыжы. Неяк жа трэба назваць.

Бачу, як ён бяжыць па вадзе ў ботах. Бярвёнаў, якія на плыву, пад ім не відаць. Яны пад ім хаваюцца пад вадою, і здаецца, што ён бяжыць па чорнай блішчастай вадзе. Ды хутка бяжыць. Не шукаючы сцежкі. Рака — сцежка. Жахліва глядзець. І дзіўна. І вачэй не адвесці. Ён зараз падобны на Вяйнямёйнена, сына Ілматар, маці вады, які на вадзе нарадзіўся, на вадзе здзейсніў не адзін свой подзвіг. Тут яны нібы сваякі, браты. І гэтае нібыта сваяцтва робіць Вяйнямёйнена такім жа блізкім для мяне,

як блізкі і Рыжы. А яго подзвігі — амаль рэальнымі. Ва ўсякім выпадку — зразумелымі.

Бачу Рымшу: вясёлага, жывога, са сваімі сабачкамі. Мяжа паміж рэальным і нерэальным, паміж праўдай і казкаю ў яго жыцці ледзь не тая самая, што і ў жыцці Ілмарынена ці Лемінкяйнена. Што яму, Рымшу, лось Хійсі, за якім ганяецца Лемінкяйнеп? Рымша прывязаў бы яго да дрэва хутчэй і лягчэй, калі нават лясны абед дзеліць з ім напалам. І за мядзведзем не ганяўся б, як Вяйнямёйнен. Ідучы на яго, не прасіў бы Ілмарынена выкаваць яму рагаціну. У Рымшы пад пахаю медзведзяня, а значыць, і мядзведзіца ў руках.

Праўда, і Вяйнямёйнену рагаціна без патрэбы — ёсць песня, мацнейшая за рагаціну. Ілмарынену без патрэбы лук і стрэлы — ёсць маладая прыгажосць, якая прымушае лясных прыгажунь выгнаць да яго з гушчару лася Хійсі. Навошта зброя, калі ты, чалавеча, дзіця прыроды, калі ў цябе ёсць песня і твая песня — яе песня.

Тут разгадка і Рымшы. Яго душы і яго песні.

Усё гэта прыходзіць як узнагарода: чытаць мастацкі твор у тым кутку зямлі, дзе ён напісаны, пра які напісаны, сярод людзей, якія натхнілі мастака ці продкі якіх, хоць і далёкія, яго натхнілі. Узнагарода ў спасціжэнні таямніцы, якая жыве ў кожным па-сапраўднаму мастацкім творы.

Таямніц у эпасе «Калевала» нямала. Яны ў кожнай руне. І ўсе — таямніцы зямлі Калева, яе лясоў, вады, камянёў, дарог, звяроў, птушак, неба. Яе людзей.

Сяджу на высозным беразе Водлы, дыхаю гаркавым восеньскім водарам пажухлых траў, пажоўкла-зялёнага лісцвяна-хваёвага лесу, разлітым у агромністай прасторы дня, і бачу таксама Улы і Мары. Яны ўсміхаюцца, але не як тады. Весялей. Усё роўна як убачыўшы, што я зразумеў іх мудрую хітрасць.

Мы з імі паразумеліся.

Дык што ж сядзець? Трэба ісці-ехаць далей.

## КІЖЫ

На сцяне пакоя «Карбасы» добрага паўночнага мастака Стронка. Карбасы — на пярэднім плане, ля берага, стаяць на якарах, а на заднім плане, ахутаныя шэрай смугою вечара, пасак зямлі, востраў сярод вады, і на вос-

траве — саборы, цыбулінамі ў хмары. Бачыў я іх не толькі ў рамцы пад шклом, але і там, на востраве. Бачыў пад сонцам, імжою, вятрамі, замглёнымі ўранні, колькі дзён жывучы каля іх і любуючыся імі, але наймацней яны ўразілі мяне ўначы.

Востраў спаў.

Не ўключыўшы святла, каб не пабудзіць сваіх выпадковых спадарожнікаў геолагаў, вясёлых дзяўчат і хлопцаў, я намацаў на спінцы крэсла, прыстаўленага да напаленай жалезнай грубкі, штаны і світэр, апрануўся, усцягнуў на ногі падсохлыя гумовыя боты, накінуў на плечы вайсковую плашч-палатку і ціха выйшаў на ганак музея, у якім усе мы жылі.

З-за вугла выскачылі Дар'ял і Дора — вялізныя рудыя лайкі. Гультаяваты Дар'ял, крутнуўшыся каля ног, вярнуўся — ліха з ім — у зацішак двара, але затое верная нашаму ранішняму знаёмству Дора вывела мяне на мокрую сцежку, заслужана атрымала акрайчык хлеба, які заваляўся ў кішэні, і ахвотна патрухала наперадзе, нібы ведаючы, куды мне ахвота ісці.

Парывісты вецер і цемень заблыталі ў свае цянёты востраў разам з усёй яго драўлянай аздобаю. Злева і справа, па абодва бакі вузкай палосы зямлі, у яе камяністыя бакі-берагі не заціхаючы біла вада, бакавы вецер штурхаў да вады мяне і Дору, аднак мы не паддаваліся яго сіле і волі, рушылі наперад, і сабор набліжаўся да нас. Па небе плылі нізкія і цяжкія, нібы мокрыя анучы, хмары. Паміж імі ў разрывах запальваліся зоркі, і тады белым падсіненым бляскам ззялі купалы сабора і Анега, вада ападала ўніз, купалы завастраліся і ўзляталі. Адчуванне было такое, быццам не хмары ляцелі па небе, а сабор пад імі мчаў у нейкую бездань разам з востравам.

Над крыжам самага высокага купала мільгануў і схаваўся драбнюсенькі Міцар. Старажытныя рымляне правяралі па ім зрок сваіх воінаў. Можа, па гэтай самай зорцы кіжане правяралі зрок майстра, які збудаваў над востравам Прэабражэнскі сабор? Па ёй, можа, вывяраўся кожны з дваццаці двух купалоў?

Хто ён, той майстра? Легенда расказвае, быццам, узвёўшы апошні купал, паклаўшы на яго апошні серабрысты лемех, паставіўшы самы буйны на саборы крыж, ён шпурнуў з саракаметровай вышыні сякеру ў возера і крыкнуў: «Другога такога цуду не было, няма і не будзе!»

— Майстра не шукайце,— кажа Сяргей Мікалаевіч Горшын.— Ён вядомы. Яго дойліды — час, прырода і народ. Яны вынайшлі формы, прапорцыі, дэкор...

Пачыналася нібыта маленькая лекцыя, па-хатняму шчырая, нетаропкая, сатканая з арыгінальных, выверaных уласным вопытам думак, узнёслая імправізацыя пра дрэва, народнае дойлідства Карэліі, іх гарманічнае жыццё ў прыродзе. Усё гэта было надзвычай цікава, бо Горшын сядзеў насупраць мяне не толькі вучоным, глыбока дасведчаным у паўночным драўляным дойлідстве чалавекам, ён быў для Кіжаў, можа, самы патрэбны чалавек. Саборам надышоў час вяртацца ў зямлю, яны ішлі ў яе пад цяжарам дзесяткаў хвароб, нажытых за доўгі суровы век, і вось на Сяргея Мікалаевіча, спецыяліста ў лячэнні дрэва ад хвароб, у падоўжанні яго веку, на яго лабараторыю, якая належала аднаму з маскоўскіх інстытутаў, выпала задача адшукаць тыя хімічныя сродкі, якія захавалі б Кіжы яшчэ на многія гады. На астраўку, з усіх бакоў абкружаным раз'юшанай восеньскай вадою Анегі, ён разгарнуў даследчыцкі палігон, уставіў яго сотнямі шкляных пасудзін, працаваў тут усё лета, і цяпер, стомлены, але шчаслівы, што саборы вось-вось удасца адваяваць ад смерці, апавядаў:

— Доўга жыве высокае мастацтва. Прэабражэнскаму сабору 250 гадоў. Ставіўся яшчэ ў гонар перамогі Расіі ў Паўночнай вайне. Канкурэнтаў яму ў свеце няма. Неяк завітаў сюды Ігар Грабар з групай архітэктараў, мастакоў. Спыніліся перад саборам, спыталі адзін аднаго: ці можна дзе-нідзе ўдасканаліць лініі, прапорцыі, выцягнуць або асадзіць купалы, змяніць форму лемеха, недзе нешта падоўжыць, пакараціць, патаніць? І нічога не прыдумалі. Асобную дэталь можна змяніць, сама па сабе яна, можа, будзе прыгажэйшай, але адразу парушыцца гармонія ансамбля. Тут нішто не паўтараецца, не спрачаецца адно з адным. Падумаеце: ага, значыць, мужык з сякерaю меў больш дасканалы густ, чым кансіліум сучасных аўтарытэтаў? Не думайце гэтак. Сабор — помнік унікальнаму народнаму мастацкаму вопыту, ідэальнаму ўмельству мужыцкай сякеры. Майстра быў, вядома, геній. Але ён толькі выконваў волю народа, яго калектыўнага мастацкага генія, увасабляў гістарычна выпрацаваны ідэал прыгажосці. Народ — творца Кіжскага крамля. Так, я называю ансамбль крамлём. Яго гісторыю ведаеце? Кіжскае паўстанне 1769 года, расстрэл мужыкоў пад купаламі? Заў-

важылі: сабор мацаваў не столькі веру ў бога, колькі веру ў чалавека, непакорнасць, вольны дух. Тут быў паўстанцкі цэнтр. Сабор то адзявалі ў дашчаныя футаралы, абшывалі, то распранаді, збівалі абшыўку. Адзявалі не толькі дзеля таго, каб захаваць ад дажджоў і вятроў. За абшыўкаю ад мужыка хавалі яго прыгажосць. Яна вольны дух уздымала, клікала чалавека на змаганне за прыгожую долю. І калі трэба было ўзняць чалавека, даць яму крылы, сілу, сам народ тады і збіваў абшыўку...

Сяргей Мікалаевіч кладзе рукі на стол, доўгімі інтэлігентна танклявымі пальцамі выстуквае нейкія рытмы. І раптам у нейкі момант яго пальцы застываюць у паветры:

— Можна доўга гаварыць пра Кіжы. Яны дапамагаюць зразумець цікавыя працэсы ў прыродзе і ў мастацтве. Карэлія — незвычайная лабараторыя гніення і нараджэння. А ў гніенні адна з першаасноў жыцця, энергія будучыні. Прырода геніяльна прыдумала. Дрэва вяртаецца ў зямлю, каб даць месца маладому дрэўцу. Камень растварaецца, каб радзіла зямля. Усё жывое і нежывое забірае зямля. Незвычайны акумулятар. Яе энергія — энергія абнаўлення. Але саборы Кіжаў мы не можам аддаць зямлі. Іх трэба зрабіць выключэннем з законаў прыроды...

На мяне падымаюцца стомленыя разумныя вочы. Але і скрозь стому бачу, як у іх разгараецца штосьці жывое, прагнае.

— Чалавеку здаўна падабалася мадэліраваць прыроду. Цяпер маладая навука біёніка мадэліруе механічныя апараты казюрак. Цікава? І разумна. У мясцовых жывапісцаў пераважаюць шэра-зялёныя гамы. А ў паўднёвых — светлыя, сонечныя, блакіт і чырвань. Як проста, рацыянальна на поўначы будуюць дамы, нават саборы. Чаму? А хіба мог чалавек, вечна змагаючыся з каменем і дрэвам, упрыгожваць дом ці сабор завітушкамі? Не мог. І тут ёсць разьба. Нават даволі складаная. Але ў ёй нічога лішняга. І гэта высакародна. Карані паўночнага драўлянага дойлідства ў прыродзе...

За акном, у цемені і халадэчы, стогне вецер, вада б'ецца аб берагі, камяні, дастае нават глухую сцяну хаціны, у якой мы сядзім. А ў вокны сячэ дождж. Слухаючы Сяргея Мікалаевіча, я ўспамінаю прыпухлы твар свайго земляка Грышы Мураля. Яшчэ зусім нядаўна ён быў у нашым Крычаве ці не самы вядомы цясляр і сталяр, і ўсе, хто будаваўся, шукалі-чакалі Грышу. Недзе на два-

наццатай вясне пасля вайны мы з бацькам таксама ўзяліся ставіць прыруб да невялічкай старой хаткі — нам удалося прывесці Мураля. Той спакойна і проста, з добрым падгонам, без балды, як у нас кажуць, клаў вянцы, рабіў асады, крыў дах. Калі ж бацька заікнуўся вытачыць на вільчык пеўніка, Грыша адмахнуўся: «Навошта? Забыліся, як па чужых вуглах клункі цягалі? Што за людзі!.. На ногі ледзь стануць, ужо ім ахвота жыць пад пеўнікамі!» — «Дык я заплачу за пеўніка»,— не адступаў бацька. «Не хачу вашай платы,— упёрся Грыша.— Не вучыў мяне тата попусту рукі біць».

І не зрабіў.

Карцела мне расказаць пра свайго земляка і пра гэтую спрэчку Сяргею Мікалаевічу, ды не асмеліўся — ці да месца? Перавёў гаворку на тое, як цётка Улы і цётка Мары адмовіліся спяваць мне руны, пакуль я не абыду, не аб'еду лясы, камяні, азёры Карэліі.

Сяргей Мікалаевіч павесялеў:

— Народ мудры...

Ён зноў хадзіў туды-сюды па маленькім пакойчыку, заваленым кнігамі, газетамі, драўлянымі калодкамі, паціраў рукі, нечым задаволены, пастукваў па стале пальцамі, як бы намацваў нейкі акорд.

— Вам лёгка зразумець Карэлію. Вы беларус. У вас таксама лясы, камяні, азёры...

Вечар быў позні. Я ўстаў, каб ісці.

Горшын праводзіў мяне на ганак. Дождж перасціх.

— Кладку ці знойдзеце? Можа, ліхтарык вынесці?..

Цемень была жахлівая. Мы стаялі побач, але адзін аднаго ледзь бачылі. Ліхтарык, вядома, быў вельмі патрэбны. Але я падумаў пра Горшына: як жа ён застанецца без ліхтарыка? І адмовіўся.

Вузкая кладка, дзве дошчыны, з астраўка Горшына вяла метраў сотню над вадою, азёрная вада пад ёю шалёна раўла, уздымалася ветрам, дошкі былі мокрыя, коўзкія, але гэта неяк і ратавала, яны хоць блішчэлі, паказвалі, куды ступіць, каб не міма, каб не зваліцца ў несусветнай цемені. Не, гэта, здавалася, было не сёння, не са мною на Кіжах, а недзе ў моры з Вяйнямёйіненам, калі ён плыў у Пах'ёлу вызваляць цудоўнае Сампа, а Ука, бог нябесны, буру разгайдаў на моры, каб не даплыў да Сампа калевалец.

Усё мацнеюць злыя ветры,
Ашалела непагода...

Але даплыў Вяйнямёйнен. Даплыў разам з Лемінкяйненам. Вызвалілі мужныя калевальцы цудоўнае Сампа.

Мінаецца бяда. Мінаюцца страхі.

Дабраўся і я да свайго цёплага запечка.

Назаўтра раніцай мяне пабудзіў дырэктар музея Вілха Арвідавіч Ніемі. Ён прапанаваў абагнуць на кацеры востраў, падзівіцца на Кіжы збоку, з прасторы вады, якая ўжо ціха, змогшыся за ноч, пагойдвалася ў камяністых берагах, наведаць суседнія астравы.

Матарыстам МРБ (малога рыбалоўнага бота) аказаўся зноў беларус — вясёлы Міша Зеньчык з Ракава. Ён хоць і жыў на востраве ўсяго два гады, але нечакана зрабіўся нашым дасведчаным і вельмі гаваркім гідам, з якім мы і не заўважылі, як даплылі да вёскі, зусім для мяне тут нечаканай.

На высокім беразе, па выспах, было раскідана з дзесятак дамоў, а жыла тут толькі адна душа — Ганна Рыгораўна Іюдзіна. Яна паклікала ўвесь наш «дэсант» у чысцюткую, нібы да свята прыбраную, надзіва ўтульную хату, рассадзіла па доўгіх, як у якім клубе, лавах і завяла гаворку пра сваё селішча, пра тое, як і чаму людзі пакінулі гэты прыгожы бераг:

— Вёска называецца Корба. Вайна з ёю расправілася. То з белафінамі, то з немцамі. Мужыкі нашы ўсе як адзін галовы паклалі. Асталося мокрае бабскае царства. Ад слёз мокрае. У кожнай хаце дзяцей — што гароху ў стручку. Куды дзенешся з лузгунцамі? Гадавалі без мужыкоў. Ад вянца да вянца дзеткі цягнуліся, падрасталі. І ўсе — у горад ды ў горад. А куды ім яшчэ? Там — навука, магазіны, кіно. А тут? Нават буханку хлеба не купіш. Дзеткі нас папакідалі. А мы, трупехлыя бабы, што такое без іх? Вось і мы за імі следам. Як захаладае — тут жывой душы не знойдзеце. Вятры ды снягі паўзучыя.

— А вы куды дзенецеся?

— І я паплыву. Скапаю бульбачку ды і махну ў Петразаводск да сына. Там і сын, і дачка.

Ганна Рыгораўна вывела нас на сваю прыстань, дзе стаялі тры кіжанкі пад вёсламі, маторка, некалькі старых чоўнаў — нішто сабе флатылія.

— Гэта мой транспарт. З суседніх астравоў цягаю на ім траву, дровы. Сплаваю ў Кіжы да цеплахода, прывязу хлеб, соль, павідла. І піва. Люблю, дзеткі, піва.

Ужо з размовы жанчыны можна было адчуць, што міграцыя мясцовых астравіцян натуральная, хоць адразу

і цяжка было здагадацца, наколькі яна масавая. Пазней, пабачыўшы гэтакія самыя іншыя вёскі (Усцяндома, Падліпаўцы, Жарнікі — пад Кіжамі, Бесаў Нос, селішчы на ўзбярэжжы Ільменскага возера), я зразумеў, што тутэйшая міграцыя мае мала агульнага з рухам некаторых маладых людзей з вёскі ў горад у нас на Беларусі. Не тыя прычыны. Глыбінныя астраўныя селішчы не давалі чалавеку тое, што яму трэба. У век электрычнасці, аўтамагістраляў, усялякіх тэхнічных, культурных навін хіба мог чалавек жыць на купіне, быццам чапля? Ды яшчэ з дзеткамі, якіх трэба расціць-гадаваць? На дзесяць — дваццаць, а хоць і на сотню, двароў хіба ўзаб'ешся на добрую сучасную школу ці бальніцу? Ці на краму, дзе было б усё, што чалавеку трэба і на свята, і на кожны дзень? Той электрычны ці тэлефонны провад нават сюды, праз прастору вады, не зацягнеш. Некалі, вядома, чалавек жыўмірыўся. Некалі — не цяпер. Сёння ён тут жыць не хацеў. І гэта натуральна. Іншы час — іншы чалавек.

Апоўдні, ідучы з Вялікай Губы, каля сабораў прышвартавалася знаёмая «Ладага». Пара навігацыі канчалася, і вярнуцца ў Петразаводск можна было альбо цяпер, альбо невядома калі.

Я падняўся на палубу.

Над прыціхлым абшарам вады нечакана з'явілася сонца, і гэта было, мабыць, самай большай радасцю: за столькі дзён, нарэшце.

За бортам «Ладагі» Кіжы развярнуліся, заплылі ў кільватэр, і купалы, прыгрэтыя сонцам, увачавідкі чысцелі, яснелі — белая пара падымалася ад купалоў угару. Здалося, што сам сабор ажывае, варушыцца, сагрэты рухомай параю, велічна ўзносіцца ў неба.

Прыземісты дашчаны дах блішчэў пад сонцам. Учора мы хораша пасядзелі пад ім з Сяргеем Мікалаевічам, а цяпер я вёз з сабою яго шчырую, нібы клятва, упэўненасць: «Мы абаронім Кіжы...», і гэтая ўпэўненасць прарастала ўпэўненасцю маёй душы, што гэтак і будзе, будзе ўсюды, не толькі тут, не толькі з Кіжамі, але і з іншымі дарагімі народу шэдэўрамі драўлянага дойлідства — людзі іх абароняць, не дадуць ім памерці. У памяці ўсплылі старадаўнія муры Мсціслава, яго пакуль што занядбаныя саборы, Княжыцы пад Магілёвам — таксама. Муры яшчэ стаяць мацней, а вось драўляная Георгіеўская царква ў Давыд-Гарадку, амаль аднаго веку з Прэабражэнскім саборам у Кіжах, дыхае ўжо на ладан. Ці царкаўка ў Здзі-

таве Жабінкаўскага раёна, помнік XV стагоддзя, ці Чэрская званіца, якой каля 400 год, ці цудоўная курная хатка на Кобрыншчыне, якая нейкім цудам дажыла да нашага часу, з XVIII стагоддзя, нават старадаўнюю студню захавала каля свайго боку — яны калі дачакаюцца свайго Сяргея Мікалаевіча? Пра іх, вядома, мала хто ведае, яны — не Кіжы. Але ж і яны непаўторныя сваёй сціплай пластыкай, кампактнасцю аб'ёмаў, дэкорам. І хіба не змаглі б мы, беларусы, таксама сабраць з усяго гэтага, з яшчэ дзе-нідзе захаваных ветракоў ды капліц, жылых дамоў ды калодзежаў, свой запаведнік драўлянага дойлідства? Былі ж у нас свае Нестары. Жылі і жывуць іх нашчадкі, такія, як мой зямляк — Грыгорый Мураль.

Востраў знікаў у бухматай сонечнай смузе.

## ДЗЕЦІ ПРЫРОДЫ

Гранітныя скалы ўразаюцца ў Анежскае возера з яго ўсходняга краю, трымаючы на сабе адзіны тут знак цывілізацыі — чырвоны агонь маяка. Абапал маяка і каменных ілбоў Бесавага Носа зацішныя бухты. Унізе — белы, нібыта цукар, пясок, уверсе — зялёныя густыя хвоі. На пяску — бліпчастыя, гладкія, падобныя на абветраныя косці аграмадных старажытных жывёлін, дрэвы. Вада адпаліравала іх і выкінула на бераг.

У зацішна-маўклівай бухце лёгка ўявіць сабе стойбішча першабытных людзей, іх жыццё ля агню. Іх валасатыя постаці. Дзікія рухі і крыкі. Паганскія абрады. Тут, у гэтакім кутку зямлі, чалавек, напэўна, не толькі выкрасаў агонь і смажыў мяса, але і марыў, кахаў, мастачыў. Што гэта так — сведчыць граніт Бесавага Носа, яго фантастычны іканастас. У цэнтры іканастаса — двухметровая постаць д'ябла; у чэраве — шчыліна, у роце — дзірка; праз шчыліну і дзірку нашы продкі кармілі і паілі д'ябла.

Абапал д'ябла — меншыя іконы: сом і выдра. А вакол гэтай тройцы — лебедзі, алені, рыбы, ласяняты, мядзведзі, качкі.

Сюды, на Бесаў Нос, мы прыйшлі з Яўгенам Нілавым, парторгам Пудажскага леспрамгаса. Шчаслівы выпадак звёў мяне з ім. Нілаў добра ведаў гісторыю і прыроду краю, тутэйшых людзей, іх характары, норавы, побыт,

гадамі даследаваў мінулае Мурамскага манастыра, з сякерою ды багром працаваў тут з маладых гадоў — на лесанарыхтоўках, сплаве, сартыроўцы дрэва.

Цяпер мы стаялі перад іканастасам homo primigenius, дзівіліся, як ён то хаваў ад нас свае вобразы-малюнкі, калі за хмарамі хавалася сонца, то зноў паказваў, калі сонца выплывала з-за хмараў. Дзівіліся і здзіўляліся.

Яшчэ нас здзіўлялі малюнкі лебедзяў. Іх было вельмі многа. І шыі ў іх былі незвычайна доўгія, танклявыя.

— Можа, у той час вадзіліся іншыя лебедзі? — выказаў здагадку Яўген.

— А потым перарадзіліся? Зблыталіся з качкамі?

— Ну... не з качкамі, але... Тысячы гадоў канула. Перарадзіліся людзі, расліны. Маглі і лебедзі...

Здзіўляла, што чалавек, ледзьве асвоіўшы каменную сякеру, той самы homo primigenius, з якога ці паспела спаўзці звярыная поўсць, адчуў патрэбу ў творах мастацтва. Гэтае мастацтва перажыло стагоддзі, тысячагоддзі, дайшло да нас, хвалюе нас, хоць мы даўным-даўно не homo primigenius, хоць мы ўжо homo sapiens.

І вось тут — самае моцнае дзіва: як ён, наш далёкі продак, змог адчуць, што прырода, зямля, яе жывёльныя і раслінныя вобразы, больш за ўсё іншае вартыя ўвагі і любові чалавека, яго мастацтва, што яны дадуць яго мастацкаму таленту візу ў вечнасць?

Наш продак быў геніем з геніяў. Ісціну з ісцін ён зразумеў з геніяльным прадбачаннем. Першы.

Пасля пачаліся паўторы гэтае ісціны. Калі мастацтва ад яе адыходзіла, з ёю не лічылася, яно знікала.

Вось навука. І нам, і тым, хто прыйдзе пасля нас.

Нават паўторы гэтае ісціны, безумоўна, самыя таленавітыя, заставаліся і застаюцца ў гісторыі. Адзін з самых красамоўных яе паўтораў — эпас «Калевала».

Ён увесь, разам з усімі сваімі героямі і сюжэтамі, вырастае з прыроды, з яе спаконвечных асноў: зямлі, лесу, вады, ветру, каменя. І таму, пэўна, век яго роўны веку самой прыроды.

Вечарэла, калі мы пакінулі бераг, наскальныя малюнкі, падышлі да хаткі наглядчыка маяка. На ашалёванай, над блакітнай фарбай, сцяне ляжалі шэрыя сілуэты таго самага, што на скале, д'ябла з дзіркай у роце, выдры і сома. Тут, побач са скаламі, з натуральнымі малюнкамі, копіі не ўспрымаліся сур'ёзна — смяшылі.

Дзверы былі адчыненыя, але ў хаце ніхто не адгукаўся.

— Ці не рыбаліць гаспадар? — прыкінуў Яўген.
— Замок не павесіў?
— Навошта замок? Хіба мядзведзь заваліцца? Нікога іншага тут не бывае.

Цемень гусцела. Мы выйшлі з лесу да возера, спыніліся на высознай кручы. Наглядчык маяка прывязваў лодку да карча. У лодцы сапраўды бліШчэлі мокрыя сеці, рыба. Позні час прыспешваў, і мы не сталі гукаць ці чакаць занятага сваім клопатам чалавека, выбраліся паміж камянёў на сцяжыну, і праз нейкія паўгадзіны яна вывела нас да Дальняе Чорнае рэчкі. Адсюль можна было выбрацца леспрамгасаўскім бензавозам, які не вельмі прызнаваў ноч і бездараж — тры вядучыя восі і шасцю коламі выцягвалі з любой багны. Але машына недзе пазнілася, і Яўген кіўнуў на хату ў два акны — на той бераг.

— Заскочым? — спытаў.— Там жыве капітан кацера. А шафёр нас знойдзе.

Мы выбраліся на вузкія дашчаныя кладзі, перабраліся па іх на другі бераг. Дзверы адчыніў сам гаспадар:

— Яўген Рыгоравіч?! Ды не разувайцеся, праходзьце. Не дужа ў нас чыста.

Але ў вочы адразу кінуліся свежыя дарожкі, дыванкі, як учора сатканыя, бліШчастая фарбаваная падлога. Мы з Яўгенам паскідалі з ног боты, павыкідалі іх за дзверы ў сенцы і толькі тады селі на канапу.

— Якім ветрам? — пацікавіўся гаспадар.
— Не чакаў? А дзе Еўдакія? — Яўген быў тут не першы раз і адчуваў сябе проста, як дома.
— Тавар у краму прывезлі. Пайшла з бабамі выбіраць на сукенку.
— Маці яшчэ тут?
— І мама тут, і Ваня, братуха меншы. Вунь ля тэлевізара сядзяць.

Старая рыпнула крэслам і выйшла да нас з-за паркалёвай, у буйныя ружовыя кветкі шырмы.

— Вечар добры! — неспадзявана для мяне беларускімі словамі і нізкім паклонам прывеціла яна нас.— Во хвутбол гляджу, а чую, як там, дома, Мальва рыкае. Трэба збірацца. У вас тут па-свойму добра, але ў нас па-свойму пяблага.

— Зноў землякі? — здзівіўся я.
— А вы наш, з Беларусі? — больш за мяне, напэўна, здзівілася Марыя Яфімаўна.— Я думала, што адна ў гэ-

такую далеч сарвалася. Мы тут усе з Чачэрскага раёна. Ёсць там вёсачка Валасовічы, на Сажы.

— Еўдакія таксама з Валасовіч,— чуючы нашу размову, падаў голас з суседняга пакоя гаспадар. Ён там ужо чахкаў сякераю, нібы сек мяса.

— Вокны ў вокны жылі,— разгаварылася старая, забыўшы на тэлевізар і на футбол.— Разам у школу хадзілі. А немцы прыйшлі ў Валасовічы, дык у адным лесе хаваліся, за балотам. Пасля маладыя пажаніліся. Далёка адно аднаго не шукалі.

Прыйшла Еўдакія. Па голасе, рухах, заклапочанасці нельга было не заўважыць шмат агульнага паміж ёю і мужам. Давалі, мабыць, знаць даўняя сумесная жытка, адна вёска, адно дзяцінства.

На стале з'явіліся салёныя грузды, гарачая, толькі з печы, бульба, брусніцы пад цукрам, шырокі ў спіне чырвоны, з белай прошваю, маласольны ласось. Застолле было вясёлае, кожнаму хацелася нешта сказаць і паслухаць суседа. Аляксей успамінаў вайну, свае лясныя сцежкі да партызан, калі хлапчуком насіў ім харч. Цяжкія часы прыгадваў пакрысе, асцярожна, баючыся чапаць усё адразу, і на лбе спакваля, спаўзаючы на скронь і шчаку, пунсавеў не загоены гадамі рубец.

Сюды, у Карэлію, ён прыехаў у пяцьдзесят трэцім годзе. А як — успамінаў:

— Вербавалі на лясныя работы.

— Назад ужо не вернецеся? — пацікавіўся я.

— Той-сёй пачынае вярнуць аглоблі. Я пакуль не думаю. Няма ахвоты бегаць.

— І маці не цягне назад?

Марыя Яфімаўна падняла вочы на сына, рукой падаткнула пад хусцінку рэдкую сівую пасмачку.

— А я на жыццё гляджу, як маладыя,— разважыла.— Не на чужыне і тут. Такія самыя лясы, вада, зямля.

— Лясному чалавеку тут добра,— пагадзіўся Аляксей.

У гэтай дружнай сям'і ўсе да яго, гаспадара, ставіліся паважліва. Гэта было відаць па вачах маці, па цёплым жончыным паглядзе, па слухмянасці дзяцей. Сам Аляксей, безумоўна, гэта цаніў, але выгляду не падаваў, стараўся ўсіх выцягнуць на ўспаміны. Калі разгаварыліся, сам адышоў, уступіў іншым права камандаваць застоллем, весці бяседу. І ўсё ішло ягонаю сцежкаю. Гаварылі на мове, якую з Валасовіч прывезла сюды, на Поўнач, Марыя Яфімаўна, якою яна нейк неўпрыкмет асвяжыла сынаву

хату, напоўніла яе родным паветрам. І Аляксей, і Еўдакія не адцураліся матчынай мовы. Маці была радая, усё глядзела на сына, як даўно не бачыла, глядзела на яго чырвоны рубец, быццам самой балела яшчэ і цяпер, праз столькі гадоў пасля вайны.

— Ну-ка, Дуся, зацягні нашу, вясковую,— падказаў Аляксей.

— Дай паесці,— была схітравала жонка, але адразу і выдала сваю непрыхаваную хітрасць: — Хай мама спачатку.

Твар Марыі Яфімаўны расцвіў ад дарагой увагі дзяцей, яна паклала на стол відэлец і скарыначку хлеба, паправіла на галаве чырвоную з сінімі кветачкамі хусцінку, зноў падаткнула пад яе сівенькую пасмачку, што ўсё выбівалася на лоб ды лезла ў вочы, урачыста склала на грудзях рукі — на свой валасовіцкі лад завяла:

Што за месяц, што за ясны.
Уночы свеціць, а ўдзень не,
Што за міленькі дружочак,
Калі прыйдзе, калі не...

— Што ж вы не пасабляеце? — сама і абарвала раптам сваю трапяткую нітачку, радасна-ўсмешлівымі вачамі абводзячы застолле.— Ці не ведаеце? Забыліся?

— Чаму ж гэта мы не ведаем? — усё роўна як пакрыўдзіўся Аляксей.— Не твае хіба дзеці? — І разам з маці, разам з жонкаю падхапіў:

Што за міленькі дружочак,
Калі прыйдзе, калі не.

Я зірнуў на Яўгена. Ён сядзеў як зачараваны, употай, але ўважліва пазіраў на Марыю Яфімаўну, як адну яе слухаючы, і таксама спяваў: нясмела, асцярожна варушыў вуснамі, першы раз, мабыць, чуючы незнаёмую песню і баючыся, каб не збіць яе з ладу. Нават дзеці адчынялі і зачынялі ў лад песні роцікі.

Не пачулі, як да ганка пад'ехаў бензавоз, як адчыніліся ў пярэднім пакойчыку дзверы, як у хату ўвайшоў шафёр. Еўдакія падхапілася, прымусіла распрануцца, сесці да вячэры. Ад чаркі ён адмовіўся — служба шафёрская,— і ніхто не ўгаворваў. Зноў пачалі спяваць, і, пакуль спявалі, Толя — гэтак усе звалі шафёра — вячэраў. Выпіўшы не адну шклянку гарачага чаю, ён заварушыўся, нагадаў, што пара збірацца ў дарогу, дарога доўгая і гразкая — нялёгкая.

На ганак Аляксей вывеў усю сям'ю. Нават старэнькая Марыя Яфімаўна, накінуўшы на плечы сынаву куртку, выйшла, каб правесці нас у дарогу.

Толя даў працяглы развітальны сігнал.

Ноч была чорная, але зорная. Пачынала падмарожваць, ды і добра, ужо каляіну схапіў тонкі храбусткі лядок, і, калі машына ішла ціха, калі матор не дужа надрываўся, было чуваць хрупаценне пад скатамі. Усю дарогу справа ад нас блішчэла Дальняя Чорная рэчка, мы то набліжаліся да яе, то аддаляліся, потым зноў наблізіліся і доўга ехалі па самым беразе, адхонным і голым. Толя ўсё прыглядаўся да рэчкі, пакуль не заўважыў, мабыць, даўно знаёмую мясціну са светлым пясчаным берагам: спыніўся, завярнуў заднімі коламі ў ваду — надумаў мыць машыну.

— Яшчэ трыццаць кіламетраў начную гразь мясіць. Па вушы ў гразі будзеш,— прабурчаў Яўген.

— І дома памыемся. Мурзаю ехаць — ваўкоў пужаць.

Толя выключыў матор, вылез з кабіны.

Злева, над дарогай, і справа, над ракою, спалі высозныя густыя хвоі. Лісцвяных дрэў тут не было, таму не было і жоўтага лісця, якое ўначы, пад месяцам, звычайна адбівае хоць кволае святло і хоць крыху свеціць у душу. Дарога аказалася заціснутай паміж высокімі чорнымі сценамі, і нават рака, нават неба здаваліся чарнейшымі, як маглі быць. Ціша яшчэ больш згушчала цемень. Яе парушаў адно Толя, які стаяў па костачкі ў вадзе, з ракі чэрпаў старым вядром чорную ваду, ліў на бампер, на капот, на крылле машыны, мокрай анучаю праціраў фары.

Мне падалося, што Яўген спіць. Але ён раптам, як пачуўшы мае думкі, варухнуўся каля майго пляча, спытаў:

— Расказаць пра штармавыя Аляксеевы ночы?

Ягоны голас мяне абрадаваў:

— Ну, раскажы.

І ён пачаў:

— Калі Аляксей прыйшоў капітанам на Дальнюю Чорную рэчку, я тут кіраваў лесапунктам. Ён мне спадабаўся з першых дзён. Шмат не гаварыў, але што на душы ці ў галаве — выкладзе, не ўтоіць. Неяк паплылі за Мурамскае па марошку. Дзве-тры гадзіны пазбіраўшы марошку, сабраліся абедаць. Распалілі вогнішча. Не заўважылі, як села сонца. Пабралі свае шалгашы, а ўжо і вецер узняўся. Глядзім — па возеры на нас коціцца высозны вал. Карпенкаў — гэта Аляксеева прозвішча — адразу

зразумеў абстаноўку, камандуе: «Стойце ўсе тут!» А сам — на кацер, каб адплысці ад берага. І я з ім, і механік. Не паспелі якар падняць, як хваля ўдарыла ў корпус — лопасць вінта як нажом абрэзала. Усё ж Аляксей вывеў кацер у возера, а тут яшчэ большы вал падкаціў — падхапіў нас і выкінуў, нібы шкарлупіну, на бераг. Ад нашай марошкі на паўкіламетра чырвоная паласа ляжала. За ноч кацер пяском замыла. А назаўтра прыгналі трактар. Адкапалі кацер, сцягнулі ў ваду, а ён без цягі мёртвы. Скінуў Аляксей з сябе плашч, яшчэ адзін узяў у механіка, нацягнуў іх на багры, зрабіў клівер і — сваім ходам. Я на трактары еду берагам, бачу, як хлопцы то мчаць поўны наперад, пакуль іх ветрам не заверне, то ўлукаткі манеўруюць. І што думаеце? Прывёў Аляксей кацер у Дальнюю Чорную рэчку. Сышоў на бераг — смяецца. Такі чалавек.

Другі раз сустрэў я яго ў Падпарожжы. Гляджу — вачам не веру: белы, фуражка — раменьчыкам пад бараду. Глядзіць на мяне як з таго свету — увесь у муцэ, «Што з табою?» — пытаюся. «Нічога асаблівага,— кажа, а сам ледзь губамі варушыць.— Муку вёз, мала не перавярнула кацер».— «Што?» — не паверыў. «Ды муку! — закрычаў аж ад злосці.— Вёз ОРСу муку, вось — жывы. Памацай мяне — жывы?»

А што здарылася? Загружаўся ў Петразаводску зацемна. Начаваць там не захацеў, паплыў. Надвор'е быццам ціхае, агні далёка відаць, мяхі з мукою паклалі не ў трум, а перад рулявой рубкай, каб пасля лягчэй згружаць. Выйшлі ў возера, а там — шторм. Анегу ўсё ж пераплылі, у Водлу трэба зайсці. Фарватэр — паварот пад дзевяноста градусаў. Мяхі з мукою па палубе соўгаюцца, валяць кацер то на адзін, то на другі бок. Што рабіць? Выкінуцца на бераг — разбіцца. Ісці на гэтакім павароце ў Водлу — перавернешся. Усё рашала імгненне, думаць не было часу. І рызыкнуў — пайшоў у Водлу. Хваля кацер падкінула, вецер на борт наваліўся, і ўжо, можна сказаць, ляжалі на баку, кілем угару. І раптам нейкая неверагодная сіла падхапіла кацер, матанула, як на той свет,— выкінула ў Водлу.

Сустрэліся ў Падпарожжы, калі ён ішоў званіць, каб прыехалі муку выгружаць... А колькі яшчэ было гэтакіх рэйсаў у Аляксея!..

У кабіну вярнуўся Толя. Ён прычыніў дзверцы, моўчкі завёў машыну, і мы адразу выскачылі з гразкае каляі-

ны на вузкую, але сухую гравійку. Справа пад круглым чыстым месяцам апошні раз бліснула Дальняя Чорная рэчка, пагасла ўначы, мы пераехалі Бліжнюю Чорную рэчку, што ўпадала ў першую, Дальнюю, мінулі пасёлак, у якім дзе-нідзе яшчэ гарэлі агні, лес адступіўся ад нас — да Пудажа было рукою падаць.

Маўчалі. Я думаў пра Аляксея.

## ГНЯЗДО ПАМОРАЎ

На самым беразе Белага мора, паўночней за Кем, стаяць дзве маленькія вёскі — Кузёма і Паньгома. Кузёма — чыгуначная станцыя, Паньгома — рыбацкае паморскае гняздо. Першая жыве з чыгункі, другая — з рыбы.

Мне хацелася ў Паньгому. Але з трох бакоў яна недаступная выпадковаму падарожніку, адно з поўначы да яе можна прыйсці берагам мора ў час адліву. Я так і зрабіў. Апоўдні сышоў з цягніка ў Кузёме, распытаў у мясцовых жыхароў, як дабрацца ў паморскую вёсачку, па шпалах дзятва вывела мяне да лесу, а там, пад чыгуначным адхонам, ляжаў вялізны белы камень, і на ім, чорным па белым, было напісана: «Паньгома». І на камені — стрэлка. Яна паказвала на сцежку, што вяла ў лясны гушчар.

— Як толькі сцежка выведзе да мора, вярніце направа. Восем кіламетраў — і Паньгома,— наўздагон мне крычалі хлапчукі.

І я пайшоў.

Быў час адліву.

Паўз лясны бераг, акаймаваны чырвонымі, сінімі, чорнымі, зялёнымі, барвовымі россыпамі камянёў, траў, дрэў, ляжала шырокая, метраў на сотню, бясконцая палоска мокрага марскога дна: двойчы ў суткі, першым і другім адлівамі, яно адкрывалася сонцу, а цяпер — канчаўся першы адліў. Лесам ісці было гразка, па прыбярэжных камянях — цяжка, я паспрабаваў ісці па рудаватым дне, якое пакінула вада, але боты грузлі ў мокрым пяску. Паміж лесам і марскім дном заўважыў шнурочак падсохлага жвіру — прыбойны марскі рубеж, ім ісці аказалася лацвей як дзе, і я пайшоў ім паміж морам і лесам, дзе раскашавалі яркія восеньскія кветкі і сівы мох, чырвоныя брусніцы, сінія чарніцы, ласкава-блакітны ганабель (дурніцы па-нашаму), абдавала водарам анфельсіі, лопугі, сі-

стэры — вядомых беламорскіх траў. Усю дарогу краявіды мяняліся, і кожны бачыўся ў нечаканай загадкавасці, суровасці, паэтычнасці. Кожны маніў да сябе.

Раптам адзін з гэтых далёкіх краявідаў заблішчэў насустрач мне і сонцу блакітнымі і ружовымі агеньчыкамі. Яны зіхацелі над марской вадою, на скалах. Сэрцам зразумеўшы, што гэта яна, мая незнаёмая Паньгома, я сеў на вялізны камень і доўга ўглядаўся ў яе першыя абрысы, колеры, прыслухоўваўся да грукату вады, які нёсся з таго боку і нагадваў мне чуты раней грымотны гнеўКівача.

На моры пачынаўся прыліў.

З Іванам Канстанцінавічам Кутчыевым я сустрэўся на беразе рэчкі, дзе цясніліся самых розных памераў і колераў бярвёны, каменне, баркасы. Стары ёмка стаяў у вузенькай, падобнай на паляшуцкі човен, пасудзіне, укладваў ля ног сетку, асаджаную на абручы, збіраўся ў мора. Доўгі і рухавы, гадамі — пад восемдзесят, але апрануты не па надвор'і лёгка: картовы пінжачок, жаночая шарсцяная хустка вакол танклявай шыі, босыя ногі ў гумовых атопках, абвіслыя штаны на вузкай папружцы. Выгляд старога ўразіў — я спыніўся. Ён выпусціў з рук сетку, выпрастаўся, пранізліва прыжмурыў вочы, нібыта і мая асоба нечым яго зацікавіла, з лодкі ступіў на пляскаты камень, падышоў, працягнуў доўгую сухую руку, назваў сябе і павёў у хату.

Адкуль яму падалося, што я — да яго?

У хаце стары падсунуў да беленькай печы ўслончык, узлез на яго, выцягнуў з-за коміна перацяты шпагатам пачак жоўтых газет з партрэтамі калісьці ўсім вядомых, цяпер усімі забытых людзей, разгарнуў газеты, і там, у іх, аказаліся жоўтыя і бурыя бухгалтарскія ведамасці, справаздачы: у кожным радку — лічбы, лічбы, лічбы. Пасадзіўшы за стол і сам сеўшы, стары пачаў расказваць пра сваю бабку, якая памерла ў дваццаць сёмым годзе, пражыўшы гадоў дзевяноста, пра дзеда, які жыў восемдзесят гадоў і «памёр яшчэ малады», памянуў прабабку, прадзеда. Нагадаў, што вёсцы дзвесце пяцьдзесят гадоў, што некалі пры царах яна дзялілася на «петкі», у якіх улічвалі адны мужчынскія душы. Дзесяць петак на вёску — дзесяць рыбацкіх гнёздаў. Хлопчык народзіцца — яму давалі палавіну душы. Дажываў да чатырнаццаці —

атрымліваў поўную душу. Усе даброты размяркоўваліся па душах. Калі жанчына патрабавала палосу лугу ці лесу або яшчэ нейкае на нешта права, дык яе садзілі на месца: «Бяздушная ты, маўчы!» На памяці Івана Канстанцінавіча ў вёску з цэнтральнай Расіі прыганялі палітычных. Іх адразу садзілі на ёлы і адпраўлялі ў мора рыбаліць разам з бывалымі рыбакамі-паньгомцамі. Сам Кутчыеў малым хлапчуком пачаў хадзіць на рыбацкія промыслы ў Баранцава мора.

— Чулі пра зуйкоў?

— Птушачкі?

— Ёсць і птушкі. Але яшчэ зуйкамі ў нас называлі малых дзяцей, рыбакоў. Недзе ў маі яны разам з бацькамі ішлі на ёлах у Баранцава, а вярталіся — у пачатку верасня, як лісце з дрэваў пасыплецца густа, а то і снег. Там, у Баранцавым, рыхтавалі аснастку, з невадоў выбіралі дробную рыбу, на ярусы садзілі нажыўку. Адзін ярус — трыста метраў шнура. Праз кожныя два метры — кручок. А ярусаў на ёле — дваццаць, трыццаць. Шэсць кіламетраў яруса нажывіць не проста. Рукі дзіцячыя пухлі. А заблытаюцца кручкі — зноў зуйкам работа. Іншыя з пяці гадкоў упрагаліся. Мяне бацька пашкадаваў, упрог з сямі.

Пры савецкай уладзе Іван Канстанцінавіч актыўна будаваў мясцовы калгас «Беламорскі рыбак». Плаваў з ярусамі і невадамі, кіраваў арцелямі ў Петразаводску, Мурманску, Кемі. Яго выбіралі членам праўлення рыбнага калгасна-кааператыўнага саюза Карэліі. Вярнуўся да роднага берага — пачаў пісаць гісторыю Паньгомы. Ён паказаў мне гэтую рукапісную гісторыю, і я здзівіўся: там падрабязна былі апісаны рыбныя і нярыбныя гады, ёлы, доры, траўлеры, сеці, штормы, тысячы і тысячы тон сіга, селядца, сёмгі, пікшы, дзесяткі вяскоўцаў, каторыя ляжалі на дне мора і пад магільнымі крыжамі, вечна жывыя легенды аб іх.

Калі я скончыў гартаць паньгомскі летапіс, стары паправіў на шыі хустку, устаў і паклікаў мяне на бераг. Толькі цяпер, на беразе, я здагадаўся, што гісторыя Паньгомы выводзіла мяне на цікавую сцежку, і цяпер я, ужо без старога, пайду па ёй — ад хаты да хаты, ад чалавека да чалавека, і гэтая сцежка якраз будзе той сцежкаю, на якую мяне выправілі Улы і Мары. Цяпер ужо не толькі яны, Улы і Мары, благаслаўлялі мяне на гэтае падарожжа, але і стары Кутчыеў. У гэтым благаславенні я адчуваў

мудрасць самой зямлі Калевы, тую самую мудрасць, якая аднойчы блаславіла, дала ў святую дарогу паходную кайстру і кій самому Лёнроту.

— А вунь і Даніла, наш старшыня. Нагонім?..

Стары жвава падхапіў рукамі шырозныя штаніны, каб матузы ад іх, прышытыя ўнізе, ля костачак, не лучылі пад атопкі, смешна, як танцуючы, шыбануў па жоўценькіх драўляных кладках на гару.

Я прыпусціўся за ім следам.

Даніла Якаўлевіч Дзмітрыеў — нетаропкі мужчына гадоў за сорак — збіраўся на тоню, пад другі адліў вады. Я напрасіўся плысці з ім разам.

Гулкімі камяністымі сходамі мы сышлі ў маленькую зацішную бухтачку, селі ў маторную лодку: Дзмітрыеў — на карму, я — бліжэй да носа лодкі, ля вёслаў. Ён некалькі разоў смаргануў за караценькі сталёвы тросік, матор завыў, і лодка памчала паміж камянёў у вузкую гарлавіну парога, за якім рака выходзіла ў мора.

Ужо адплыўшы ад берага, мы нагналі малы старэнькі, нейкі цацачны, баркас Івана Канстанцінавіча. Ён плыў да вострава, што віднеўся наперадзе, пад шэрым ветразем, стоячы на ўвесь рост,— той самы картовы пінжак, незашпілены, расхрыстаны, хустка на стрэчным ветры разматалася і матлялася за плячыма, а на галаве нягегла, на самай макаўцы, сядзела зімовая шапка з кукардаю капітана.

— Заколы пайшоў глядзець! — нібыта з гонарам за свайго аднавяскоўца ўсклікнуў на карме Дзмітрыеў.

— Вось дык стары-ы! — шчыра здзівіўся я, не адводзячы вачэй ад шэрага ветразя і гонкай постаці рыбака.— Не баіцца ні мора, ні ветру?

— А што яму баяцца? Прасолены, як селядзец.

Наша лодка абагнула высокія стромыя скалы. Даніла Якаўлевіч заглушыў матор, ціха падплыў да кала, што тырчаў з вады, выцягнуў яго з дна — з ім разам паднялося крыло круглай, на абручах, снасці.

— Можа, сёмужка на вячэру трапіла?.. Няма. Няўжо ніводнай? — прыгаворваў, аглядаючы адзін, другі, трэці заколы.

Сёмгі не ўзялі ніводнай. Некалькі камбал ды харыус. Развярнулі лодку носам паўз бераг і паплылі далей, у доўгую вузкую губу.

Вада яшчэ схлынала, рыбакі чакалі поўнага адліву, калі выкінуты цяглавы невад павінен быў сесці грузам на дно, глухой сцяною мярэжы адгарадзіць злоўленую рыбу ад мора. На тоні, аднак, рыбакоў відаць не было, акрамя брыгадзіра Грыгорыя Паўлавіча, таксама — Кутчыева. Ён адзін стаяў у лодцы над невадам, чуйным вопытным вухам лавіў кожны падводны шоргат. Дзве заякараныя лодкі віднеліся далей, каля процілеглага берага.

— Чай дзе-небудзь ля касцярка папіваюць,— выказаў здагадку Дзмітрыеў.— У нас так заведзена: невад у мора — самі на бераг чаёўнічаць.

— А брыгадзір?

— Яго вока і вуха на вадзе заўсёды.

Мы таксама паставілі лодку на якар, сышлі ў плыткую, па калена, ваду, выйшлі на мокры зляжалы пясок, пакінуты вадою ў час адліву. Усё роўна як заўважыўшы нас, на процілеглым беразе губы з'явілася адна постаць у ружовым рыбацкім рокане, потым другая і трэцяя — у такім самым ружовым адзенні. Усе трое падышлі да лодкі, паднялі з дна якар і пачалі веславаць да нас. Падплыў і брыгадзір.

Вецер мацнеў, халадала, грэліся хто як мог — хадзілі туды-сюды, скакалі на адным месцы, а пажылая, гадоў далёка за пяцьдзесят, рыбачка Аляксандра Яфімаўна сябе і нас саграваля размовамі:

— Вада сейдзень нявыпадка.

— Марану чуе,— заўважыў брыгадзір.

— Вось-вось задуе вецер. А сейдзень — запад. Паміж шалонікам і пабярэжнікам. Хвалі вялікай не дае ды халодны. Пабярэжнік, той норавам іншы. Дзьме пылка.

— Пабярэжнік — слава богу.

— Грыгорый, а пры якім ветры твой зяцёк морам накрыўся? Здаецца, у сорак сёмым?

— Шалонік яго захліснуў. Пры шалоніку рыбы мала, бяды многа. Зарыфлены парусок паставілі, а ёлачка была малая, за дорку меншая.

— Трэба са штапаком хадзіць. Парусок хоць малы, ды заўсёды выкінеш насустрач ветру,— разважыла рыбачка.— Нялёгка, праўда, наўскасяк з ім плысці, але даплывеш, як прыпячэ.

— Трое тады загінула. І зяцёк мой, і пляменнік. З усіх адзін я жывы застаўся. Двое сутак насіла па моры, пакуль вынесла,— успомніў Грыгорый Паўлавіч.

— Цяпер у Белым і рыбка не тая.

— У пяцьдзесят пятым,— згадаў брыгадзір,— адной тоняю трыццаць тон сельдзі залавіў. Памятаеш, Яфімаўна? — Ён паглядзеў на рыбачку, потым на мора, сунуў рукі ў мокрыя брызентавыя рукавіцы.— Ну, арлы, пацягнем. Дай бог рыбаку рыбы.

Надышоў момант, беспамылкова ўлоўлены вопытным вокам, калі вада ўжо не спадала болей, але яшчэ і не прылівала, як бы задумалася, куды ёй рушыць, уверх ці ўніз, прылііваць ці пачакаць, і ў гэты момант вераўчаныя канцы невада знялі з заколаў — пацягнулі на бераг. Снасць пайшла цяжка, усё роўна як мора заваліла яе камянямі, і Грыгорый Паўлавіч першы зразумеў гэты цяжар: вочы, рукі, твар — выдавалі радасць. Я таксама шчыра ўхапіўся за снасць.

— Не рві невад, бо з калгасам не разлічышся,— пажартаваў ён, стрымліваючы маё празмернае стаpанне.— Бярыся паціху. Рыбак на пуп усё жыццё бярэ, ды рваць пуп яму не дазволена. Сарве — мора прагоніць на печ. Чаму вось я хоць і стары, а цягну як маладая Яфімаўна? — пажартаваў яшчэ раз.— Хоць усё жыццё рваў жылле, а пуп бярог. Трэба з напорам, але плаўна. Хапайся, ды не на смерць. Гэтак мора само робіць і нас, дурняў, вучыць.

Сець шаргацела па цыратовых робах, круглыя шкляныя кухтылі адзін за адным вынырвалі з вады. Мне дзіўна было глядзець, як Аляксандра Яфімаўна, ускінуўшы канец вяроўкі на спіну і ёмка ўпіраючыся нагамі ў топкае марское дно, вяла на вяроўцы і трапяткі невад, і чаргу мужчын. Нягледзячы на гады, а гадамі яна была ў брыгадзе хіба за Грыгорыя Паўлавіча маладзейшая, Аляксандра Яфімаўна здавалася жвавейшаю за астатніх, цягнула невад упарта, весела. Яна ні ў чым не ўступала мужчынам і потым, калі з вады падымалі куцец, завалены рыбаю, калі з кутца выбіралі таўстых зіхаткіх сігоў, грузілі ў лодку. Яна ўсё рабіла нароўні з мужчынамі, і гэта, як мне падалося адразу, было ў ёй выхавана доўгім рыбацкім жыццём. Яна з пяці гадкоў хадзіла зуйком у Баранцава мора з бацькамі, усё жыццё разам з мужчынамі змагалася са штормамі, неаднойчы выводзіла з-пад мёртвага вала сваю ёлу, улетку і ўзімку ёй здаралася плаваць і дагары кілем. У моры і з Грыгорыем Паўлавічам сышлася, такім самым прасоленым рыбаком, стала яго другой жонкаю, як і ён яе другім мужам, пачалі разам лавіць селядцоў ды сігоў.

Вечарэла. Хаваліся ад вачэй далягляды. Цяжкая шэрая вада змрочна блішчала наўкола.

Мы вярталіся ў Паньгому на цяжкіх, заваленых сігамі баркасах.

Прычаліўшы да каменнага пірса, вынеслі на бераг мокрыя сеці, кінулі іх на вешалы, у аграмадныя кашы, што стаялі тут, на скале, пачалі выбіраць рыбу.

А ў мора ад берага збіралася адчальваць другая рыбацкая брыгада, у якой былі адны жанчыны, мужчыны — аніводнага.

— Даніла, матор глухне. Ты б яго паглядзеў? — прасілі калгаснага старшыню рыбачкі.

— Рана здаваць пачынаеце, бабкі. Яшчэ рыба ў моры не перавялася, а вы ўжо на матор жаліцеся.

— Не жартуй, Даніла. Праўду кажам.

— Можа, на сваім вас адбуксіраваць?

Замоўклі, не ведаючы, мабыць, што адказаць. Але знайшлася самая маладая:

— Я твайму матору не даверуся.

Зарагаталі.

— Не скаль зубы, Варка! І ты, Даніла! — абсекла з кармы ўсіх адразу пажылая жанчына ў рабой хустцы і чорным, нібы прадвеснік ночы, кажуху.— Тут сур'ёзна вырашаць трэба, а вы, маладыя... Вам абы гіргатаць...

— А што вырашаць? Заўтра ўся Паньгома смяяцца з нас будзе, як Даніла нас вёў на сваім буксіры. На вёслах берагавіком дабяромся. Не першы раз. Ты нас, Даніла, лепш сустрэнь. Штарміць пачынае.

— Можа, не вымётвалі б? — прапанаваў старшыня.

— А гэта мы паглядзім у моры. Як законы праверым.

Уважліва слухаючы рыбацкую гаворку, густа перасыпаную жартамі, як і клопатамі, я думаў: чаму даўней гэтакіх мужных і працавітых жанчын у рыбацкіх петках не прызнавалі за жывыя душы? Спытаў пра гэта і ў Данілы Якаўлевіча, калі ён, адправіўшы жанчын у мора, падняўся да мяне на скалу.

— А ў Паньгоме кожная жанчына рыбачка,— адказаў Дзмітрыеў.— Хто б лавіў рыбу, калі б не яны, жанчыны? Мужчыны з траўлерам у Баранцавым, а беламорская рыбка ўся на жаночых плячах.

Нашу размову, мабыць, пачула Аляксандра Яфімаўна — ціхенька засмяялася.

— Ты чаго? — спытаў старшыня.

— Ды... так сабе...

Вячэралі позна. З рыбай, вядома, бо якая ж рыбацкая вячэра без рыбы? На стале ляжалі смажаныя сігі, камбала. Знайшлася і сёмужка.

— Цяпер сёмгі мала,— прызнаваўся Дзмітрыеў.— Летась усім калгасам здалі сто пяцьдзесят кілаграмаў.

— Яе заўсёды мала. Рэдкая рыба,— заўважыла, робячы ля печы, гаспадыня Марыя Антонаўна.

— Калісьці тонамі здавалі.

— Свой лёс і ў чалавека, і ў рыбіны,— уздыхнула Антонаўна.— Бывае лепшы, бывае горшы. Жыццё мяняецца. Вада ў Паньгоме паніжэла, сёмужка і не праходзіць на нераст.

— Ну а ў вас рыбы багата? — націкавіўся гаспадар.— Сёмужка ёсць? Няма?.. Вугор ёсць?.. Га-а!..

Бачыў я, што ў лёсе беламорскай сёмужкі шмат агульнага з лёсам нашага нарачанскага вугра. Як тут сёмга ішла на свае спрадвечныя нерасцілішчы і не знаходзіла іх, так і вугор з Нарачы ўжо не выходзіў у цёплае Саргасава мора, збіўшы губы аб бетонныя пляціны ў Нёмане, а без цёплага мора не мог даць прыплоду, аднаўляць свой род. Неяк уначы, на тонях Нарачы, я на ўласныя вочы пераканаўся, як цяжка ўжо ловіцца вугар — пустымі падымалі мы падвалокі славутага нарачанскага рыбака Міколы Варанца. А ў Чараўках, на той жа Нарачы, Віктар Хіхель, яшчэ адзін славуты тамашні рыбак, расказваў аднойчы, як у час ходу вугра на нераст заўважыў яго ў гарлавіне паміж Мястрам і Нараччу, і разам з сынам, за адну ноч, вылавілі яго цэлую тону. Віктар любіў прыроду, ніколі не быў браканьерам, і тут, калі расказваў, яму было вельмі няёмка за той улоў, ён колькі разоў паўтараў, як бы апраўдваючыся: «...Разумееш, на цёрку наш вугор усё роўна не даходзіць...»

За акном пакаціліся залівістыя паморскія прыпеўкі:

Не пойду з Паньгоме замуж,
Не хочу сельдей ловить,
Выйду я в Кеми за дроля —
Буду барыней ходить.

Не толькі там, за вокнамі, але і тут, у хаце за вячэраю, на душы адразу павесялела, прасцейшы і ўтульнейшы зрабіўся свет.

Раскачайте-ка повыше,
Хочу море повидать.
Не пойдет ли мой хорошенький
По бережку гулять.

— Можа, Надзя дроля чакае? — спытала ў мужа Антонаўна.

— Ці не масквічкі спяваюць,— падумаў Даніла Якаўлевіч, прыслухаўшыся.— Тут да нас у Паньгому маскоўскія мастачкі прыехалі. Вёска спадабалася. Малююць з усіх бакоў. І песні нашы павывучвалі. Спяваюць так, што не разбярэш, дзе іхнія галасы, дзе галасы нашых дзевак.

І зноў:

Это лето — не два лета,
Как-нибудь переживу,
Придет миленький мой с моря —
Всю обиду растоплю.

— Не кажы, Надзя спявае. Іншыя падпяваюць. Значыць, дроляў чакаюць з Баранцава. Там наш МРТ, траўлер.

Прыпеўкі сыпаліся пад самымі вокнамі, ляцелі-раскатваліся па скалістых берагах, па моры, потым цішэлі, і адразу мацнела на стале песня меднага шыпуна-самавара. Утульна пахла тонкім самаварным духам, смажанай рыбаю, ранішнімі, яшчэ свежымі, пірагамі.

— Песні ў нас — ой, працяжныя! — закручваючы кранік самавара, кажа Марыя Антонаўна.— Бывала, плывуць хлопцы і дзяўчаты з тоні, песні спяваюць. Здаецца, як у вёсцы сядзіш, што зусім блізка плывуць. Маткі ўсхадзяцца: ах, самавары, хутчэй трэба ставіць. Нальюць, распаляць, а рыбакоў няма і няма. Песні блізка, а самавары тухнуць, стынуць. Зноў пачынаюць распальваць. Песня ў скалах ды на моры дужа далёка чуваць. Скажы — не, Даніла?

— Ваша бабская справа — песня.

— Для каго іх катаем, як не для вас, мужчын.

— Няма калі слухаць. Мяне тут усе за маладога лічаць. А гэты малады яшчэ ў дваццаць восьмым годзе з бацькам выйшаў у Баранцава. Яшчэ ў нас калгаса не было. У бацькі свая ёлка стаяла пад берагам.

— Колькі ўжо стажу? — спытала жонка.

— А палічы.

— У вайну ты сем гадкоў не рыбачыў.

— Вайну — на вайне. У трыццаць дзевятым пайшоў, у сорак шостым вярнуўся. І адразу на ёлу. Быў механікам. Дзесяць гадкоў адхадзіў па Баранцавым. Бралі рыбу сецяным ловам, ярусным, дрыфцерным. На МРТ механікам плаваў. Хацелася, каб калгас багацеў. А людзей не ставала. Адзін і за механіка, і за капітана, і за рыбака. Што

адзін зможаш? І якар не выкатаеш. Ну, тапіўся не раз. Ды ўсе мы, паморы, не раз за жыццё топімся. Такая служба. Памятаеш, Марыя, як Івана Піліпавіча Дзмітрыева мора суткі насіла па ледзяной хвалі, пакуль карабель не падабраў? У Мурманску сустрэў старога, абняліся. А сам я прыплыў туды мотаботам у шпіталь з паламанай рукою...

Гаспадар, нешта не дагаварыўшы, зусім нечакана замоўк, спахмурнеў, зірнуў у акно, падумаў, адставіў шклянку з недапітым чаем.

— Ну, жонка, мне трэба ў мора.

Устаў з-за стала.

— Што надумаўся?

— Там дзеўкі на вёслах. А мора на ноч разыгрываецца. Трэба маторам іх прыцягнуць.

Марыя Антонаўна ні словам не запярэчыла мужу, падала яму шарсцяныя, нагрэтыя ля грубачкі, світэр і шкарпэткі, ватоўку, шапку. Даніла Якаўлевіч моўчкі апрануўся, усцягнуў на ногі боты і выйшаў за дзверы ў цемень.

Уранні, прачнуўшыся, гаспадара ў хаце я не заспеў. Марыя Антонаўна, ляскаючы гаршчэчнікам у печы, сказала, што муж паплыў вымётваць невад.

Я памыўся сцюдзёнай вадою, паснедаў ружовымі смажанымі сігамі і гарачым чаем — падаўся на вёску.

Сонца стаяла над морам, і ўся Паньгома купалася ў лёгкай ранішняй смузе. Холадна бліпічалі шыбы, дахі, валуны і скалы, сецi на платах, старыя драўляныя тратуары — яны ляжалі ўсюды, куды вокам ні кінеш, вакол хат і свірнаў, хлявоў і лазняў. З-за рэчкі, апяразанай пахіленым драўляным мостам, вёска выглядала надзвычай таямніча, прыгожа, зіхацела каляровымі агеньчыкамі, нібы ўпрыгожаная на свята. Да скал, як ластаўчыны гнёзды, туліліся маленькія лазні, і некаторыя з іх мелі толькі па тры драўляныя сцяны, прыбудаваныя да скалістых стромаў.

Па камянях я спусціўся ў бухту, адкуль учора выпраўляліся на сігоў і куды вярталіся потым назад у загружаных рыбай баркасах. Скачучы з каменя на камень, прабраўся да стаянкі дораў — чалавек на дзесяць кожная. Яшчэ большыя доры, падобныя на казачныя пірогі з высока ўздзёртымі насамі, горда стаялі ў вусці Паньгомы, на выхадзе ў мора — у бухце ім было, пэўна, зусім цесна.

У канцы вёскі бераг ніжэў, скала канчалася, пачынаўся роўны пясчаны адхон. На пяску валяліся выкінутыя морам паплаўкі ад невадаў, сетак, шкляныя і берасцяныя кухтылі, старыя, што аджылі свой рабочы век, якары, трухлявыя рэбры ад дораў і баркасаў. Тут, крыху адступіўшыся ад вады, былі і могілкі Паньгомы: крыжы, крыжы, крыжы...— завельмі для невялічкай вёскі. Амаль каля кожнай магілы прылеглі дзе як, бокам ці дагары, знявечаныя векам і штормамі баркасы і доры. Пастаяўшы моўчкі, тут нельга было не прыгадаць словы Кутчыева: «На гэтым беразе нашы песні і нашы магілы...» Шмат якія баркасы і доры ўжо грунтоўна пазасыпала зямлёю — тырчалі дзе нос, дзе карма. З цягам часу паморскія судны таксама ішлі ў магілы, але да канца аставаліся вернымі рыбакам — паміралі побач з імі.

Ля аднаго з баркасаў, расколатага на дзве палавіны, сядзеў сабака: вялізны, рабы, з белымі нагамі. Задумлівыя вочы глядзелі ў мора, слязіліся.

Вецер дзьмуў золкі, аж апякаў твар. Я адвярнуўся ад мора і ад сабакі, і толькі цяпер заўважыў, што вёска стаяла нібыта таксама адвярнуўшыся ад халоднага мора, кожная хата павярнулася да яго глухімі цёплымі сценамі, усімі вокнамі і дзвярыма глядзела ў процілеглы бок, на лес, дзе было больш цішыні, спакою і цеплыні. Ля глухіх сцен сохлі прывезеныя з начных тоняў сеткі, тут жа стаялі высокія, роўна са стрэхамі, сціrты дроў — яны засланялі паморскія хаты ад лютых вятроў.

Я павярнуў да дома старшыні, але спыніўся каля бліжэйшага свірна: падалося, што ў адчыненыя дзверы зайшла Яфімаўна.

Свіран стаяў па-над самай вадою. Я зазірнуў у дзверы. Ля парога, пры святле, з аднаго боку сядзела яна, Аляксандра Яфімаўна, з другога — Грыгорый Паўлавіч, а вакол іх да самай страхі ляжала сіняя, месцамі чорная, зялёная, дзе-нідзе з сівымі пасмамі, марская трава анфельсія. Калгасу даводзіўся план не толькі на рыбу, але яшчэ на марскія травы, адны з якіх ішлі ў медыцыну, другія — у харчовую прамысловасць, і кожны паньгомец жыў не толькі з рыбы, але і з травы. Таму шторм тут і чакалі, і пракліналі адначасова — ён не пускаў рыбакоў у мора, але затое выкідваў на бераг розныя травы.

— Сейгод катора трава прыб'ецца да берага, дык яе ўжо не возьмеш,— разважала з той самай ахвотай, што і ўчора на тоні, Яфімаўна.— Ужо не мы яе будзем падбі-

рацъ, а зімка. Што за лета паспеў сабраць, тое хутчэй перабяры і здай на склад, не памарозь.

— Зборы, вядома, кончыліся. Да вясны.— Падтрымаў жончыну думку гаспадар.— Але ўсё ж занятак гэты больш бабскі. Мужыцкая справа — рыба. Там хоць смерць на пяце, ды затое ёсць што спомніць.

— Во калупаемся і спамінаем.

Я здагадаўся, што з маім прыходам у іх абарвалася нейкая размова, дарагая абаім, таму папрасіў:

— Што цікавае і я паслухаў бы.

Стары адкінуў яшчэ некалькі ачышчаных водарасцей, узяў у рукі чарговую, утаропіў у яе вочы, але рукі ўжо не варушыліся, і ён пачаў:

— Спамінаем год трыццаць сёмы. Дык вось... Звечара мы выплылі ў Баранцава па добрай пагодзе. Выкінулі ярусы, у ёле на камінку сагрэлі чай, напіліся, леглі спаць. Хлопцы маладыя, здаровыя — заснулі хутка. А прачнуліся — шторм. Калі пілі чай, клаліся, непадалёк ад нас пагойдвала іншыя пасудзіны, а то глядзім — нікога блізка. Усе пакідалі свае ярусы ў моры, выскачылі на бераг да сваіх стаянак. Адны мы засталіся ў моры. Пацягнулі ярус, каб з пустым не вяртацца, а ён цяжкі, на кожным кручку — траска. Цягнем, хоць шторм ладны. Ёлка ў нас малая, усю траской завалілі. Тут яшчэ адзін ярус бачым — кухтылі падкідае на хвалі. Давай і яго выбіраць. Не дайшлі да стаянкі кіламетры два — вецер пачаў прыпадываць. На бераг позна — кладзёмся на хвалю, ды ў мора. Яшчэ і снег паваліў. Усё кругом адразу збялела, стаянка на гарызонце змылася, быццам яе там і не было. Адна хваля пакацілася цераз нас, другая пад нас, трэцяя зноў на нас. Ужо мы абняліся, развіталіся. Дваццаць пятага мая было гэта. Снег з лютым ветрам. Перакуліла нас дагары, параскідала. Вада белая, што малако, белыя валы ў вачах. Чатыры гадзіны кідала па тым ледзяным малацэ. Мяне падабраў фінскі мотабот. Адагрэлі спіртам ды чаем, тады я пачаў балакаць з фінамі. Ат!.. Якое балаканне? Пасля было... Як заснеш, дык і бачыш той малочны шторм, як валы белыя бягуць на цябе. Крычаць ахвота, ды не можаш, нешта ў горле не дае крычаць. А на цела быццам нехта жалезныя абручы набівае, сціскаюць усё мацней ды мацней, ужо і дыхаць няма чым...

Грыгорый Паўлавіч замоўк, выцер далонню гарачы, мабыць, ад тых перажыванняў, лоб, зноў узяўся перабіраць траву. Як мне было зразумець яго пачуцці? Для гэ-

тага, відаць, трэба, як ён, гадоў шэсцьдзесят пражыць на моры ў рыбацкай робе, сотні разоў пазмагацца са штормам, дзесяткі разоў гінуць і не здацца ні разу, выжыць, неаднойчы ісці на марское дно і заўсёды дзівам падымацца з дна марскога. Такое цяжка, проста немагчыма зразумець, калі ты — не памор.

Міма свірна нячутна праплыла лодка, заваленая цюкамі з анфельсіяй. Аляксандра Яфімаўна хоць і не глядзела ў дзверы, занятая сваімі думкамі і работаю, ды, мабыць, пачула лодку — казырком прыставіла да лба руку, гукнула ў дзверы:

— Ваня!.. Ці ты здаваць вязеш?

— Здаваць! — пачуўся з вады мужчынскі голас.

— А хто прымае? Старшыня на складзе?

— Кажуць, што на складзе. Але збіраецца па зайцоў у Кузёму.

— Па якіх зайцоў? — пацікавіўся я.

— Ды па школьнікаў. Сваёй школы няма, вёска наша маленькая, усе нашы дзеці ў Кузёме вучацца. І жывуць там. Па суботах на нядзельку прыязджаюць.

Успомніўшы, што мне патрэбны Дзмітрыеў, я выйшаў са свірна на бераг, пастаяў, агледзеўся і падаўся да старшынёвай хаты.

Дома яго не было, але Марыя Антонаўна паабяцала, што зараз прыйдзе. Я сеў на ўслон ля акна і згадаў Улы і Мары. З адчуваннем нейкай віны перад імі падумаў, што пара быць у Вольніцы, як абяцаў. Што ўжо тут сядзець? Усё роўна ніхто ў нядзелю не стане вымётваць невады, усе будуць корпацца пад сваімі стрэхамі з травою, дзеці прыплывуць — клопат амаль у кожнай хаце сустрэць, абмыць, абшыць, накарміць. Дык трэба ехаць. Вось і Даніла Якаўлевіч якраз плыве ў Кузёму, на цягнік падвязе.

Я падняўся з услона, каб развітацца з Антонаўнай.

— Гэтак мала ў нас пабылі?

— Яшчэ трэба ехаць у Калевальскі раён.

— Ой, далёка,— пляснула яна ў далоні і, як спахапіўшыся, прызналася: — А я ж беларуска таксама. З-пад Полацка. Але зямлю сваю ўжо і не памятаю. Якіх тры гадкі было мне, як бацька прывёз сюды ўсю сям'ю. Там і радні нікога не засталося. Усе тут...

Падышла да акна, зірнула ў той бок, дзе за спіртаю колатых дроў віднеліся магільныя крыжы.

— Куды я адсюль паеду?

Вецер мацнеў.

Хваля за хваляй, вал за валам каціліся да берага. Яны яшчэ былі дробныя, не грозныя, асабліва памору, аднак былі яны і прадвеснікамі шторму. Магутныя хвалі ўжо нараджаліся ў нетрах вечна жывой і ваяўнічай стыхіі, набліжаліся да берага, дасягнуўшы якога заўсёды разбіваліся і вярталіся назад, у тыя самыя нетры, даючы месца на беразе новым і новым хвалям. Перамагала бясконцасць, хоць жыццё тут было хуткаплыннае, як жыццё чалавека ў сваім чалавечым моры, і сам чалавек аказваўся ўсяго толькі мадэллю нейкай марской хвалі. Мадэллю прыроды і самой прыродаю. Тое, аб чым і на Бесавым Носе, і ў Шокшы, і на Канчвозеры, і ў Кіжах думалася мелькам, пра што здагадваўся, тут зразумеў як рэальнасць: чалавек у доме-краі Іванан Улы і Васелэйн Мары быў крапяжом паміж усімі яго сценамі, і ці не ў гэтым было яго найвышэйшае прызванне. Як і ў часы подзвігаў Вяйнямёйнена. Як жыццё самога Вяйнямёйнена, слёзы якога былі морам, а мора — яго слязьмі. Аб тым і радкі з яго песні пад гукі кантэле:

> Шызакрылая, ты часта
> галавою ўніз ныраеш
> і гайдаешся на хвалях.
> Ты збяры ўсе мае слёзы
> з-пад тых хваль, са дна марскога...

Спакойна і высакародна цацілася ў гэтых глыбінях прыроды жыццё Паньгомы. Прыходзілі і адыходзілі, выканаўшы свой не часовы, ад «векавечных пачаткаў» Вяйнямёйнена, абавязак перад светам паморскія пакаленні, адно легенды заставаліся жыць у новых часах, ды крыжы на магілах, ды счарнелыя баркасы пад крыжамі. І жыў, пры ўсіх бедах і смерцях, сам чалавек, нашчадак усіх памораў Калевалы.

Гэтак і атрымалася: да Кузёмы мяне ўзяў на маторку Даніла Якаўлевіч.

Вырульваючы з паньгомскай бухты, мы заўважылі на скале старога Кутчыева. Ён стаяў высока, нібы паньгомскі маяк, ужо без зімовай шапкі, але ў тых самых караткаватых, з аборамі ля костачак, штанах і атопках. На плячах у яго ўжо вісеў незашпілены, проста накінуты на плечы, кажушок.

— Бач... Дастаў з печы кажух. Значыць, чакай марану. Як закон. А марана з мора — цяплынь у мора.

Рукі Дзмітрыева, быццам па камандзе старога са скалы, узняліся да каўняра шарсцянога світэра, наставілі яго вышэй. Матор працавіта завыў. Мы памчалі між камянёў, на якіх сярод свінцова-цяжкой вады сядзелі, не варушыліся, надзьмутыя маладыя чайкі.

Кутчыеў адплываў разам са скалою, на якой стаяў, у сінюю, зусім не сонечную, як уранні, у вельмі сінюю далячынь, і скала пад ім узвышалася не ружовая, якой была раней, а сінюшная. Боцік імчаў у адрытае мора, вада паміж ім і берагам усё шырэла, ужо нішто не магло вярнуць мяне на бераг, і я не зводзіў вачэй са старога на скале, шкадуючы, што мы з ім ужо ніколі не ўбачымся, не пагаворым. І ў той жа час ён усё роўна як заставаўся са мною, нікуды не знікаў. Мне здавалася, што ён жыве ў самім эпасе, створаным Поўначчу, жыве ў «Калевале», і калі я захачу зноў з ім сустрэцца, паслухаць яго, дык гэта заўсёды можна будзе зрабіць, разгарнуўшы «Калевалу», я абавязкова сустрэну яго там, сярод вады і лесу, камянёў і вятроў, дзе жывуць Вяйнямёйнен і Лемінкяйнен, Ілмарынен і Айна, Ука і Міелікі. Свет паэтычнага эпасу ён яднаў у маіх вачах з Паньгомай, гэтым дзіўным куточкам Белага мора, і больш таго — стаяў на варце і свайго берага, і непаўторнага паэтычнага эпасу. Ён яго нібыта і ствараў, і ахоўваў.

Была субота, вёска чакала дзяцей, і ўсе лазні паўз бераг стаялі пад казачна-сінімі дымкамі. Мала дзе дымы цягнуліся з комінаў, часцей яны курэлі з-пад верхняга вянца-бярвенца ці з малога акенца — лазні паліліся пачорнаму.

На паўдарозе ад Паньгомы да Кузёмы нам сустрэлася маторная лодка з прычэпленай да кармы доркаю. У глыбокай доры сядзела і стаяла паньгомская дзятва. Праплываючы міма нас, дзеці паднялі вэрхал, крык, махалі над галовамі шапкамі і вучнёўскімі сумкамі — віталі наш боцік.

— Дзед Мазай і зайцы! — усклікнуў Дзмітрыеў.

Хвілін праз дзесяць матор чыхнуў і супакоіўся, боцік носам тыцнуўся ў прыбярэжныя камяні.

Сышлі на бераг. Даніла Якаўлевіч павёў у лес паказваць карацейшую сцежку да Кузёмы, чыгуначнай станцыі.

— Яшчэ кіламетры тры.

— А вы?

— Я паплыву назад. Дзяцей Мазай перахапіў.

— Імя — Мазай?

— Нехта назваў дзедам Мазаем. Прыліпла. Мазай і Мазай. І зайцы. Дзяцей любіць.

Дзмітрыеў падаў руку на развітанне. Памаўчалі, разумеючы, што ўжо ніколі не ўбачымся. Жыццё каціліся хутка і незваротна, мы з ім гэта ў свае гады ўжо адчувалі, а дарог на зямлі ляжала багата, і двойчы паўтарыць адну, асабліва такую далёкую, як была ў мяне гэтая, наўрад каб давялося.

Крокаў праз трыццаць я азірнуўся.

Даніла Якаўлевіч стаяў у той самай паставе, у якой я яго пакінуў, спіною да ветру і мора, прыкурваў. Прыкурыўшы, глянуў у мой бок. Я памахаў яму рукою. Ён мне — шапкаю.

У густым маладым бярэзніку, перасыпаным ельнікам, я зноў спыніўся. Не азірнуўся, адно прыслухаўся. За лесам, ля блізкага берага, затарахцеў матор, і боцік панёс свайго марахода зноў у мора — да Паньгомы.

Я прыбавіў кроку.

## ВУЧЫЎ СТАРЫ ВЯЙНЯМЕЙНІ

Каб сустрэцца з Іванан Улы і Васелэйн Мары, трэба дабрацца да Калевалы, а ўжо адтуль да іхняе Вольніцы, вялікай зялёнай вёскі на беразе Куйтыярві, застанецца кіламетраў паўсотні.

У Калевале стаіць сасна Лёнрота. Яна чула шмат рунаў. Старыя калевальцы пераконваюць, што іх славуты збіральнік Лёнрот праслухаў пад гэтай сасною ад мясцовых рунапеўцаў большую частку эпасу «Калевала». Тут ён запісаў песні Ямані Варагвонты, ці не самага вядомага калевальца. Праўда, у тыя часы сасна стаяла не на мысе Рух'я, дзе стаіць цяпер, але ўсё ж на беразе Куйты. Яшчэ перад Вялікай Айчыннай вайною яна красавала, зялёная і густая. У вайну фашысты з-за возера абстрэльвалі пасёлак — асколкі моцна пасеклі дрэва. Яно пачало сохнуць, а вецер яго зусім зваліў, сухое. Знайшліся «рупліўцы» — адхапілі пілою смолкі камель. А што засталося, удалося ўратаваць. Гэтае «астатняе», сухое і голае, пасадзілі зноў у зямлю. Ужо каля Дома культуры, на Рух'я.

Да сасны Лёнрота я прыйшоў з Маці Пірханенам, «хросным бацькам многіх карэльскіх пісьменнікаў», як сказаў Яака Ругаеў. Карэнны калевалец, школьны па-

стаўнік, вялікі патрыёт роднага краю, Маці Пірханен увёў у літаратуру не аднаго Ругаева, але і Анці Ціманена, Мікалая Лайнэ, Пеку Перту, Арцёма Сцяпанава, Васіля Мікеля... Год за годам, карпатліва адточваў ён таленты калевальскага краю на асялку гісторыі народа, яго песень і духоўнай мудрасці.

Пірханен мне расказваў, як у Латвозеры знайшоў Лёнрот Архіпа Пертунена і той спяваў яму трое сутак. Здзівіўся Лёнрот: «Калі ж настане канец тваім песням, мудры чалавек?» І адказаў Пертунен: «Прыйшоў бы ты, Лёнрот, запісваць нашы руны хоць некалькі гадоў назад, калі жыў мой бацька, дык ён бы табе спяваў пятнаццаць дзён, і руны былі б усё новыя».

Яшчэ Маці Пірханен казаў мне:

— Едзьце ў Вольніцу. Лёнрот запісаў там руны ад Антрэя Маліпена, ад Васілы Кіелівайнена. Там жывуць іх унукі і праўнукі. Адшукайце Васелэйн Мары, Іванан Улы...

Вось адкуль пачалася мая сцежка ў Вольніцу.

Цяпер зноў вярнуўшыся да Улы і Мары, я знайшоў іх на тым самым беразе Куйтыярві, у тым самым доме, за тым самым сталом і самаварам. І сялява, як тады, дваццаць дзён назад, ляжала на стале: смажаная, вяленая, вараная — быццам усяго на некалькі хвілін пакідаў я застолле і вось зноў вярнуўся на працяг размовы.

Улы і Мары адразу пусціліся ў роспыты: дзе быў ды што бачыў? Калі я скончыў расказваць, Іванан Улы заўважыла:

— Чужая рука пад пахаю халодная. Вось і мы з Мары баяліся, што руны будуць табе чужыя. Бо ты не ведаў дом, у якім яны нарадзіліся.

— Цяпер я шмат пабачыў.

— Цяпер і руны ты зразумееш.

Яна ўстала з лавы, усім траім наліла па шклянцы моцна заваранага чаю, па добрым кавалку свежага пірага з сялявою паклала ля кожнай шклянкі, села, уважліва паглядзела на Мары, нешта сказала ёй па-свойму — тая згодна кіўнула галавою, кінула два-тры слоўцы ў адказ. Абедзве паклалі рукі на калені і...

Не, заспявала не Улы. Яна толькі прыладзілася слухаць. Заспявала Васелэйн Мары. Пачала ціхім, задушэўным, нібы ручаёк, з-пад вялікага каменя, голасам:

Кіелты ванга Вяйнямёйні,
Кіелты колместа пагаста...

Цётка Мары пасля кожнай страфы спынялася, каб даць магчымасць Улы перакласці радкі руны:

Вучыў стары Вяйнямёйні,
Вучыў пазбягаць тры бяды:
Нельга свістаць на вадзе,
Нельга спяваць на хвалях,
Нельга старому жадаць маладую,
Захапляцца прыгожай.
Казаў стары Вяйнямёйні
Свайму малодшаму брату:
«Прыгожы кацёл на агні,
Калі вада ў ім кіпіць,
Мудрыя думкі ў галаве ў мужчыны,
Які нават без справы сядзіць.
Сіла не ломіць плячэй,
Думкі не ломяць галавы».

І тады, пры нашай першай сустрэчы, і цяпер я звяртаў больш увагі на цётку Улы, дзівіўся з яе ўвішнасці, кемлівасці, гаварлівасці і быў чамусьці ўпэўнены, што ў песнях яна таксама будзе першаю. Але першым голасам аказалася яе сяброўка, ціхая і рахманая. Можа, не толькі чалавек выбірае сабе руны, можа, руны выбіралі сабе выканаўцу, і сціплую нетаропкую жанчыну выбралі — якраз пад свой лад, працяжны і нехапатлівы.

Не хадзіў нікуды я вучыцца,
Не імкнуўся ў багатыя землі,
Я блукаў па лясах тваіх, Лапі,
Веславаў я па водах Віро.
У родным краі спяваць я вучыўся,
На сваіх дарогах лавіў руны,
Па кустах зялёных зрываў,
У алешніку іх знаходзіў,
Ад людзей вясёлых збіраў,
У лясах верасовых ламаў
І з травінак яшчэ абіваў.
З тысяч пялёсткаў, травінак,
З паўнюткіх сотаў пчаліных,
Адкуль мёд на зямельку капае...

Старыя зноў перакінуліся слоўцамі — зноў мне пераклала Улы:

— Сказала Мары: як самі пастарэлі, дык і руны старыя. Раней усё пра каханне пелі. А я кажу: калі б усе руны памяталі, дык нячысцік пералавіў бы сяляву ў Куйты.

Улы чакае, калі Мары, скончыўшы спяваць адну песню, заспявае другую, чакае цярпліва, моўчкі, ні словам, ні нават позіркам не прыспешвае. Песня павінна сама на-

радзіцца, выспець у душы, выліцца — Улы гэта ведае. Але Мары маўчыць. І тады, як здагадаўшыся, што ёй трэба ціха падумаць, успомніць, настроіцца, Улы заводзіць размову пра жыццё:

— У нас з ёю мужыкі не былі кроўнымі. І мы не былі з ёю кроўнымі. А пажылі — кроўнымі сталі. Мужыкі нашы загінулі на вайне. У мяне дачка ёсць, але не жыве са мною. Мы з Мары самі і ў касе, і ў рыбе. Усюды самі...

Мары ставіць на стол шклянку, паварочваецца да сяброўкі, глядзіць на яе, у самыя вочы, пакуль Улы не паўтарае ёй па-карэльску ўсё, што дагэтуль сказала мне.

Ёй, пасля — мне, як працяг ранейшага:

— Адна — баркас на вяроўцы. Яго хваляю і левым бокам аб бераг, і правым бокам аб бераг, і носам у пясок. Кароўку трымаю, лужок сама кашу. Тры капы накасіла, зграбла — мала. Працэнт саўгасу, працэнт сабе...

Кінула позірк на Мары, нешта заўважыла ў яе на твары — тут жа замоўкла, не дагаварыўшы. Мары апусціла рукі на калені і заспявала:

Прыляцеў арол і сеў на шула,
Лапамі зямлю хапае,
Крыламі травіцу топча.
Раскапусціўся арол на шуле,
Пазірае ў вокны —
Гаспадар пытае:
— Што, арол, ты сеў на шула?
Гаспадынін твар цябе прывабіў
Ці гаспадара багацце?
— Гаспадынін твар мяне не вабіць,
І не трэба мне тваё багацце.
Выглядаю я ў акне нявесту.
— Ты, арол, сядзеў на шуле тыдзень,
Пасядзі яшчэ два тыдні.
Падрасце няхай твая нявеста.
Пасядзеў арол амаль што тыдзень,
Адсядзеў пасля яшчэ два тыдні —
Зноў пачаў пытацца пра нявесту.
— Адсядзеў, арол, ты цэлы тыдзень,
Потым адсядзеў яшчэ два тыдні,
Пасядзі яшчэ хоць тры дзянёчкі —
Ужо рукаў адзелі на нявесту,
А другі рукаў мы не адзелі...

Праляцелі і тры апошнія дзянёчкі. Паклікалі бацькі арла да арліцы. А ён — прыгожы і дужы. Арліцы абяцае дом вялікі, вясёлы, сам будаваў — вянцы вазіў з лясочка ягаднага, мох з балацін самых мякенькіх.

Ступіла арліца ў дом арла — жахнулася:

Першая сцяна з касцей мужчынскіх,
А другая — з касцей жаночых,
Трэцяя сцяна з касцей аленя,
А чацвёртая — ад слёзак мокрая.
У куце бацька воўкам вые-завывае,
У падмосці маці рыкае мядзведзіцаю,
Сястра маўчыць — цвік ў сцяне тырчыць,
Брацец меншы — злыдзень першы...

Васелэйн Мары сціхае, цярэбіць на каленях, апусціўшы галаў, фартушок. Руна скончылася, ды не скончылася жыццё спявачкі ў руне: быццам не заўважае нас, быццам нішто, акрамя песні ды жыцця, якое ў песні, для яе цяпер не існуе. Песня прыгадалася «жаласлівая, перажывацельная», як кажа Улы, і душа Мары, поўнасцю зліўшыся з мелодыяй, з журбою слоў, адразу не можа адысці, супакоіцца.

— Руны для сэрца нялёгкія,— уздыхае Улы.— На вяселлях Мары часта прасілі спяваць. Спявае і плача. У нас так бывае: калі прыходзяць сваты і бацька згодны аддаць дачку, то запальвае пад абразом свечку. Калі нявеста не згодная, то падыходзіць і гасіць свечку, а згодная — не гасіць. Потым спяваюць. Бацьку, маці. Навошта выдалі лябёдушку замуж за сокала, няўжо не шкада свае дачушкі?.. Да слёз.

Цяпер ужо кажа Мары. Уважліва выслухаўшы яе, Улы перакладае:

— Гаворыць, што ёй не спявалі, як выходзіла. Бацька з маці не хацелі выдаваць, дык яна паехала будаваць Мурманскую чыгунку і там знайшла свайго мілёнка.

Мары глядзіць на Улы, пасміхаецца.

— А я таксама не пыталася дазволу. Ён мяне хацеў знайсці, дык прыехаў на Юшквозера. Я пагадзілася.

Сказала і заспявала:

Дзяўчат не мяняюць на грошы,
Не гандлююць імі пры народзе,
Вавёрак прадаюць за грошы,
Лісамі гандлююць пры народзе.

— У мяня не дужа суладна. Не пявуха я, не...

Зноў, аднак, зацягнула:

Як ён пакахаў мяне на возеры,
Вочы ў яго зрабіліся прыгожыя,
Глянуў на мяне, як той арол,
На душы ільдзінку растапіў.

Звонка засмяялася, прызнаўшыся... І заціхла, зажурылася.

Магчыма, Улы не жадала цягацца ў спевах з Мары, добраахвотна аддавала ёй першынства, прызнанае ўсімі ў Вольніцы. Пагаварыць пра жыццё, нешта прыгадаць — магла. І цяпер пачала ўспамінаць, як у восем гадкоў пайшла «карміць сваю галовушку», як усю мужчынскую палавіну сям'і Васелэйн Мары «выбіла вайна». Успаміны зноў расхвалявалі, і яна, нібы малое дзіця, прыкусіла губу. Тады зноў заспявала Мары, зноў яе руны паплылі з гары на гару, з возера на возера.

Тым часам Улы выйшла з-за стала, пачала корпацца ля печы — зачыняла пелькі (юшкі) на доўгіх драўляных дзержаках, чысціла хэлу (пліту пры печы), гусіным крылом шоргала ў купе (выцяжным каўпаку над плітою), даставала з касіно (скрыні пры печы) бульбу на заўтрашні дзень. Было відаць, што нашы сённяшнія руны вось-вось супакояцца на апошнім радку. Яшчэ, праўда, Мары спявала, яшчэ Улы перакладала мне яе руны, але ў тую хвіліну, як яна ўстала з лавы, з-за стала, песенны настрой у хаце пачаў ападаць, і лямпачка пад столлю пачала цьмець, свяціць напалавіну свае ранейшае сілы.

Я не памыліўся ў прадчуванні — замоўкла і Мары. Апошнюю страфу Улы пераклала не адразу, падумаўшы і ўздыхнуўшы:

— Чым яна закончыла свой канцэрт? Канчаў гэтак Архіп Пертунен, славуты калевалец:

> Пясняр, нават самы лепшы,
> Не пяе ўсіх сваіх песень,
> Як і вадаспад бурлівы
> Усёй вады не вылівае.

Гэтыя нечаканыя словы далі мне адчуць, што не адны руны скончыліся для мяне на восеньскіх карэльскіх дарогах, скончылася само падарожжа, надышоў час вяртання да сваіх родных песень, у сцены свайго ўласнага дома.

## ДЫК ЧАМУ Ў ЛЕБЕДЗЯ ДОЎГАЯ ШЫЯ!

Ну вось я і дома.

На счарнелыя за доўгую восень дрэвы, на спацелую аконную шыбу, на спіну старога ціхага голуба цярусіць дробны, нібыта праз сіта, снег. Першы снег, магчыма, непадоўга, але надвор'е кіруе на халады, на маразы.

Раніца.

З брамы дзіцячага садзіка выходзіць гаманлівая чарада чырвананосай малечы. Надвечар, чакаючы бацькоў, малыя гэтымі сваімі насамі будуць адхукваць замёрзлыя шыбкі ў вокнах, а цяпер цёпла апранутыя непаваротні плывуць-валюхаюцца, быццам качкі. З імі наглядчыца: строменькая, у блакітным паліто, блакітнай шапачцы, белатварая, аж зліваецца з блакітнавата-белай раніцай. І мне адразу ўспамінаецца, што ў сваім карэльскім сюжэце я ледзь не згубіў адзін выдатны дзень — мой апошні паўночны дзень.

З Калевальскага раёна, з берагоў Куйтыярві, я вярнуўся ў Петразаводск. Да адлёту самалётам у Мінск заставалася раніца, дзень да вечара, вечар і ноч — да наступнай раніцы. Заскочыў у заўсёды шматлюдны буфет гасцініцы, выпіў шклянку чаю і выправіўся апошні раз прагуляцца па горадзе.

За ноч лёгкі марозік падсушыў паветра і асфальт, на дрэвы, карнізы дамоў, правады тралейбусных ліній і помнікі легла лёгкая бухматая бель.

Ад круглай, з чырвонага каменю, плошчы я прайшоў над гаманлівай Ласосенкай, перасек сквер ля краязнаўчага музея, пастаяў ля помніка Пятру Першаму — цар узвышаўся танканогі, нібы алень, ззелянелы ад часу і пабелены зазімкам,— зноў павярнуў на левы бераг рэчкі, абышоў драматычны тэатр з жыццярадасным канёнкаўскім ансамблем рабочых і работніц на высокім франтоне. Каля тралейбуснага прыпынку на жоўтай цаглянай сцяне вісела мемарыяльная дошка: тут калісьці стаяў дом першага губернатара краю паэта Гаўрыіла Раманавіча Дзяржавіна. Цяпер — і дом не той, навейшы, і шыльда нечаканая: «Выстаўка карэльскага жывапісу».

Маленькі выставачны пакой. Адзін з нешматлікіх. Нізкія, блага асветленыя сцены. Карціны...

Чалавек мадэліруе прыроду. У жывапісцаў пераважаюць шэра-зялёныя гамы. Такая Карэлія: шэра-зялёная... Гэтыя словы належала б узяць у двукоссе — успомніўся Горын па захімічаным астраўку ў Кіжах. Усё роўна як адсюль, з гэтага выставачнага пакоя, вынес ён свае думкі. Тут фарбы сапраўды шэра-зялёныя, яшчэ белыя, сінія, але не чыстыя белыя, не чыстыя сінія — ахутаныя шэранню. Фарбы Карэліі, яе прыроды? Але цікава, ці пабываў ён, Сяргей Мікалаевіч, у самай апошняй зале, вузенькай, падобнай на службовы калідорчык?

Драўляная паўночная вёска стаіць над ракою, нахілілася да вады, кожная хатка як у ваду наровіць сысці, некаторым да вады адзін чалавечы крок — звычайны для краю пейзаж. Але незвычайныя малюнкі, колеры: белая рака, блакітныя хаткі з высокімі, пад самыя стрэхі, светлымі вокнамі, валуны зараслі не шэрымі — агніста-чырвонымі, сакавіта-сінімі, выразна-зялёнымі, бялюткімі, чорнымі лішайнікамі, і тут жа да сонца выцягнуліся бялюткія парасоны невядомых мне кветак. Побач — «Ладзвінскі пейзаж»: чорная начная рака, за ракою, на тым беразе, дамы і дрэвы, лазні адна пры адной, амаль паньгомскія, і амаль паньгомскія дымы над нізкімі лазнямі. Яшчэ далей: прыгажуня «Айно» ў ружовым і блакітным святле раніцы — бялявыя, нібыта аснежаныя, вейкі, празрыстая кветачка ў медальёне. «Айно і дзевы» — зімовы белы пейзаж. Нават рака смерці Туанела не шэрая, як звычайна малююць у гэтым краі рэкі, а чорная і чырвоная, нібыта скрываўленая, ляжыць перад вачамі вясёлага і мужнага героя «Калевалы» Лемінкяйнена — у кантрасце з белым лебедзем, надта даўгашыім, як лебедзі Бесавага Носа, белым і ледзь-ледзь блакітным, быццам самы шчаслівы ўспамін. «Успамін аб Ладве» — таксама ніякай шэрасці, і разам з тым, што асабліва ўражвае, у гэтых чыстых фарбах няма спрэчкі з прыродай Карэліі, з яе фарбамі і колерамі. Спрэчка іншая — з самой шэрасцю: яе поўнае адмаўленне. І хай сабе чыстых колераў у прыродзе не так багата, хай пад няласкавым небам імжаць дажджы, плывуць шэрыя хмары, збіраюцца туманы, але ж і тут, як у любым краі, чыстыя сакавітыя колеры існуюць, іх, мімалётныя, трэба ўбачыць, злавіць, запыніць у памяці, у вачах, у сэрцы. Гэта разумее аўтар. І ловіць іх, а не пахмурную дажджлівую шэрань, чысты промень прапускае праз прызму гратэску і такім чынам даносіць да нас панараму паэтычна-казачную і рэальна-зямную адначасова.

Я выйшаў з выстаўкі.

У вачах плылі вясёлкавыя кругі, прашытыя яркім сонцам.

Тралейбуса доўга не было. Я зайшоў у тэлефонную будку і пазваніў паэту, аднаму з перакладчыкаў новай рэдакцыі «Калевалы» Марату Тарасаву.

— Глядзеў работы Юфы? Прыязджай, пазнаёмлю.

Светлы твар, бялявыя валасы, блакітныя вочы. Блакітнае паліто, блакітная шапачка, блакітны шалік. Быццам

адна з тых гордых «блакітных дзеў», якія паўгадзіны назад захаплялі мяне на ладвінскіх пейзажах.

— Мае любімыя колеры — блакітны і чырвоны.

— Вашы? А колеры Карэліі?

— Калі я скончыла Ленінградскае мастацкае вучылішча, мяне накіравалі сюды, у Карэлію, школьнай настаўніцай. Прапанавалі шмат вёсак — я выбрала Ладву. Па назве. Ладва! У гэтым слове мне адразу адкрылася штосьці казачнае, сама паэзія. І чысты-чысты блакіт. Здалося, што ў гэтай вёсцы жывуць героі казак.

— А прыехалі?

— І не памылілася. Людзі, праўда, мяне сустрэлі вельмі зямныя, ніякія не героі, проста людзі, душэўныя, працавітыя, але якая прырода! Рэчка — праз усю вёсачку. Вада чысцюткая, быццам у ёй зроду ніхто і ног не намыў. Берагі — камень, а па камені, пры самай вадзе, хаткі з высокімі вокнамі, лазні над вадою, дымы блакітныя плывуць з іх каменак па рацэ нізка-нізка. У школу ідзеш цераз мосцік, а ля яго — рабінка, гронкі чырвоныя. А як там сонца заходзіць! Ружовыя прамяні на блакітных стрэхах і дрэвах. Ладва — вобраз самой Карэліі.

— Блакітныя і ружовыя колеры? А шэрыя?

— Хто якімі вачыма паглядзіць, убачыць. Для мяне тая кропля чыстай расы адбівала ўсю раніцу, усё неба. Я ж з маленства любіла казкі. Расла пад цудоўныя казкі сваёй бабулі. Спачатку любіла іх слухаць, потым — маляваць. Прыехала ў Ладву — тут мае казкі зліліся з вёскаю, з прыродаю, з людзьмі. Асабліва — з жаночымі вясковымі вобразамі. Я наогул люблю жаночую натуру. Яна пластычная, у тонкіх лініях. Мне здаецца, што хоць Карэлія — край суровы, але жаночыя вобразы глыбей, больш паэтычна раскрываюць мясцовы пейзаж, характар. Вельмі палюбіла народны карэла-фінскі эпас «Калевалу». У кожным радку — незвычайныя сюжэты, вобразы. «Калевала» натхніла мяне надоўга.

З ілюстрацый да «Калевалы» ў Тамары Юфы ёсць акварэльны аркуш — «Айно».

> Выйшла ў беразняк зялёны
> Айно, юная дзявіца.
> Венікі вязаць з галінак...

Айно — дзіця прыроды. Яна лёгка апускаецца на дно марское і становіцца сястрыцаю сігам. Такая яна і ў Юфы. Блакіт аб'ядноўвае фактуру гераіні і прыроды

адным настроем, спрыяе паэтызацыі вобраза самой Поўначы.

— У народным эпасе жывапіс ідзе ад прыроды і вяртаецца ў прыроду. У гэтым мудрасць эпасу і народа, які яго стварыў.

Яшчэ нядаўна вядомая, здаецца, толькі сваёй вёсцы Ладве школьная настаўніца раптам становіцца адным з самых глыбокіх выразнікаў нацыянальнага духу ў выяўленчым мастацтве Карэліі. Адкуль гэтакі ўзлёт? Ён — ад зліцця таленту з прыродай, з народнай паэзіяй, з жыццём народа.

Думаеш пра гэта — і зноў прыгадваецца Бесаў Нос, размова з Нілавым каля наскальных малюнкаў першабытнага мастака. І наша тая размова:

— Чаму ў лебедзяў гэтакія доўгія шыі?..

— Гэтакія вадзіліся лебедзі?..

Не, Яўген. І тады яны, мабыць, былі такія, як сёння. Проста першабытны чалавек, які маляваў іх на скале, быў вялікі мастак. Каб перадаць прыгажосць прыроды, ён тады ўжо карыстаўся гратэскам як мастацкім прыёмам. Глядзі, як падобны яго лебедзь на лебедзя Тамары Юфы. Тыя самыя прапорцыі, ракурсы. Тое самае высакародства. Усё роўна як яны вучыліся ў аднаго настаўніка. А так і ёсць. Настаўнік у іх адзін — прырода. Так, яна вучыць нават мастацкім прыёмам. Ты ж, Яўген, сам і падказаў мне звярнуць увагу на тое, як мяняюцца наскальныя малюнкі ў залежнасці ад таго, раніца гэта ці поўдзень, дзень на схіле ці вечар, на возеры штыль ці шторм, у небе ясна ці воблачна, сыпле імжа ці зззяе сонца. Нават прапорцыі цела лебедзя, здаецца, мяняюцца ў залежнасці ад таго, пад якім вуглом на яго падае сонечны прамень. Тая самая шыя лебедзя падасца то надта доўгай, то як быццам нармальнай у даўжыні. Вось табе і ўрокі мастацтва. Можна і сёння адкрываць, аказваецца, тое, што ведаў яшчэ наш далёкі-далёкі продак.

Яшчэ адзін падобны ўрок мастацтва мне паднёс процілеглы, паўднёва-заходні бераг Анежскага возера, дзе здабываецца вядомы ў свеце шокшынскі малінавы кварцыт.

Каменяломні — унізе, глыбака ў нетрах, а ўверсе над імі — хваёвы лес, валуны. Яны высыпалі табунамі, быццам гэта жывёла пасецца на брусніцах, чарніцах, дурніцах. Адзін з валуноў нагадвае шыракагрудага скакуна. Ён нізкаваты, усё роўна як праваліўся капытамі ў зямлю.

Я саджуся на яго, нібы ў ёмкае сядло, прыглядаюся, як пастух, да іншых істот у табуне. Яны ўсе — жывыя?

Паветра над возерам і кар'ерам гайдаецца, густое і духмянае, кружыць голаў, і здаецца, што скакун пада мной ажывае. І не толькі скакун. Вось дзік насупраць. Прылёг, паранены ці стомлены, паклаў на зямлю ў верас магутны лыч. Лыч надта доўгі. Як тая шыя ў лебедзя на Бесавым Носе. Але ж гэтае «надта» якраз і робіць камень дзікам, жывым дзікам. Я злажу са скакуна, саджуся верхам на дзіка. Вакол мяне аднолькава таўсматыя авечкі — мой табун. Свіння з рабенькімі парасяткамі — таксама мае. Свіння пузатая, як зноў пароснае. А далей: жахліва-пачварныя дзікабразы, вялізная галава белавежскага зубра з дзвюма куксамі замест рагоў. Дзе сам зубр? Калі ёсць галава, дык быў і ён. Дзе падзеўся — загадка. Тут шмат загадак. Але я цяпер добра ведаю, што скакун — самая прыгожая істота ў табуне. Перасаджваюся зноў на яго, зажмурваю вочы і думаю пра дзядзьку Паўла, шафёра з каменяломні, які вось-вось павінен па мяне прыехаць. Але мне здаецца, што скакун нясе мяне адсюль, ад каменяломняў, ад майго табуна. І раптам — голас дзядзькі Паўла. Я адкрываю вочы: вось — ён, таксама на жывёліне верхам, побач. Адкуль узяўся?

Дзядзька Павел расказвае, як французскі імператар прасіў у рускага цара шокшынскі кварцыт на саркафаг Напалеону. Цар абурыўся: Напалеон Расію ў крыві тапіў, а ты яму яшчэ і дарагі камень дай на саркафаг? Але пасля астыў цар. Падумаў, разважыў: што такое саркафаг? Труна і труна. Было б на што добрае, а на труну — можна. І загадаў адпусціць трыццаць блокаў бясплатна, у дар французскаму народу.

Яшчэ дзядзька Павел расказваў пра карэльскія аметысты, рускіяльскі мармур, чырвоныя, з чорнымі паясочкамі, граніты вострава Святы Герман, шэрыя сартавальскія граніты, што ў вобразах магутных атлантаў падперлі партал Эрмітажа, калонамі ўзвышаюцца на Ісакіеўскім саборы і Адміралцействе ў Ленінградзе, пра граніт Рапаківі, якім выкладзены набярэжныя Нявы. І вядома ж пра мармур з Белай Гары, які любіць болей за ўсе іншыя камяні, з-за любові да якога збіраецца нават кідаць Шокшу, ехаць працаваць на Белую Гару.

Мара дзядзькі Паўла, пра якую ён так рады быў расказаць мне, выпадковаму на яго дарозе чалавеку, зноў нагадала руны Улы і Мары, малюнкі Бесавага Носа, спек-

такль «Дзеці прыроды» па п'есе Майю Ласілы на тэатральнай сцэне ў Петразаводску, дзе героі Юна, Пірка, Еры, Улы, Феда, Саку, Хейлі (колькі паэзіі ў саміх імёнах!) — сплаўшчыкі і сплаўшчыцы лесу — жывуць паміж скал, сагрэтыя навіссю хвой і вогнішчам, як жыў той невядомы мастак Бесавага Носа, пад музыку горнага вадаспада. Тут чалавек ва ўладзе прыроды. Яна, прырода, робіць яго шчаслівым. Тут ён прачынаецца з песняю:

Добры дзень, пагоркі й горы,
Добры дзень, мой бор яловы,
Добры дзень, бярэзнік светлы...

Гэтак Віктар Рымша вітае новы дзень, калі ранічкай выходзіць на паляванне. Але ж ці не такая і першая песня Вяйнямёйнена?

Ну такая ж, вядома. А хіба ж песні Улы і Мары, мудрасць Кутчыева і дзядзькі Паўла, мужнасць Аляксея з Бесавага Носа і памораў з Паньгомы — не працяг песень, мудрасці і мужнасці Вяйнямёйнена? І ці не ўсё гэта разам — паэтычны народны эпас Карэліі, берагоў якога не бачыў і Лёнрот? А хіба яго берагі бачылі Ямані Варагвонта ці Архіп Пертунен? Ці сам народ зямлі Калева?..

Эпас — акіян.

Народ — акіян.

Іх прыгажосць — у бясконцасці.

За акном, на балконе маёй кватэры ў Мінску, шызы голуб атрасае першы, яшчэ не зімовы, снег з пасохлых, але ўсё яшчэ жывых астраў.

Лёгкі марозік прыхапіў ранішнія шыбы, паклаў на іх празрыстыя малюнкі. Вось графічна строгія скалы з зусім белымі вяршынямі, а паміж скал — сінеча, як сінеча вады. Нешта ад Паньгомы, нешта ад Канчвозера. Вось бязлістыя бярозкі, а побач з імі і елачкі ў адвечна пушыстым адзенні. Бераг белы, пясчаны. Гарбаты мядзведзь, што ляжаў над Куйты, таксама тут. А гэта — сцяна шокшынскіх каменяломняў...

І грымоты — як адтуль...

Не — гэта ў маю мікра-Карэлію, у свет майго яшчэ аднаго трызнення ёю ўрываецца паўночны вецер — марана. Магутныя хвалі падымаюць сваю песню на вышыню дзевятага вала — б'юць у берагі Паньгомы, Бесавага Носа, Кіжаў, Вольніцы, Петразаводска:

— Р-р-ра!..

І зноў...

І — зноў: скрыгат, грукат... песня.

Канца-краю няма цяжкім уздыханням вады і каменя.

Пад гэтыя гукі мне бачыцца паньгомская скала і на ёй — стары Кутчыеў. Ён зашпільвае на грудзях кажух — цяпер усе кажухі Паньгомы будуць зашпілены на ўсе гузікі...

Ідзе марана.

Але ж нешта не вельмі грозна яна спявае сваю паўночную песню? Можа, гэта адтуль, з Поўначы, лятуць руны Мары і Улы? Можа, марана нясе на сваіх крылах паўночныя руны?..

Руны мараны...

У гэтых словах і гуках мне яшчэ доўга будуць чуцца песні ўсіх чатырох стыхій паўночнай прыроды, памножаных на стыхію дабраты і мужнасці чалавечага сэрца.

*1973—1988*



# СВЯТЛО ЛІМЕНІ

Неяк увосень, калі я быў у Чэрыкаве, мы з мамай завіталі да дзядзькі Рыгора, мамінага роднага брата. На згоне зімы ў наступным годзе ён памёр, а тады яшчэ тупаў з кійком у руцэ — яму ішоў дзевяты дзесятак. Павёў нас у свой сад. Падвёў да дзвюх яблынь — пачаў успамінаць:

— А ці ведаеш, Нюська, колькі ім гадоў?

— Ведаю, што многа. Я была дзяўчынкаю, а яблыні ўжо тады былі немаладыя.

— Ты мне кажаш!.. Я за цябе старэйшы, а і то колькі сябе помню, столькі і гэтыя яблыні яблыкамі абсыпаныя. Іх яшчэ наш бацька садзіў. Яшчэ хлапчуком.

Успаміналі, гадалі, прыкідвалі і пагадзіліся, што яблыням больш як па сотні гадоў. А між тым яны і сёлета, ужо без дзядзькі, цвілі і зноў яблыкамі абсыпаліся.

Без добрага прыгляду, вядома, гэткі век не жылі б і не радзілі б. Але і дзядзька Рыгор, і мой дзед Анісім былі выдатнымі садоўнікамі, ведалі любое дрэва, любілі і сад, і лес, рабілі ў свой час і леснікамі. Кажу «і леснікамі», бо даўжэй, як лесніком, дзядзька служыў на граніцы, быў кадравым афіцэрам, у дваццатыя гады — начальнікам палітаддзела Чапаеўскай дывізіі, а дзед Анісім меў вельмі чулае сэрца — такія тады ў лесніках доўга не хадзілі. Дый у руках у яго было рамяство, блізкае да мастацтва, якое не горш і карміла, і да душы ляжала: ён быў славуты рымар і маляр, а як расказвае мама, дык і болей

таго — мастак. Са скуры мог зрабіць любую штуковіну, нават лакавыя чаравічкі паненкам, але раскідацца не любіў і абшываў толькі коней. Шыў сёдлы, аброці, шлеі, вупраж аздабляў строчкамі, кутасамі, металічным наклёпам, разьбою. Для шыкоўных карэт і фаэтонаў шыў са скуры падушкі, тыя ж карэты і фаэтоны пакрываў фарбамі, лакам, размалёўваў. Усюды, на кожным раменьчыку, на кожнай спіцы клаў аздобу вельмі высокага густу. І ў касцёл, і ў вялізны, на два прастолы праваслаўны сабор, якія стаялі ў Чэрыкаве, на самыя далікатныя работы заўсёды клікалі Анісіма Шаблоўскага — майго дзеда. Ён, высокі і грузны, узлазіў на высозныя купалы, пакрываў іх і крыжы золатам, і калі, як любіць расказваць мама, прыходзіў па святах з дзецьмі ў сабор, дык яму, як шаноўнаму госцю, бацюшка падносіў просвірку на сподку, хоць дзед, звычайны рамеснік, быў і небагаты чалавек.

Строма Сажа, дзе я нарадзіўся, вельмі маляўнічая. Па строме стаяць хаткі, лазенкі, крывулькі-сцежкі бягуць, нібы дажджавыя ручаіны, з гары да Сажа, раскідаючы крывулькі-платы, равы і ровікі пасабляюць ім ствараць тое бязладдзе, якое чаруе душу. І ўжо адсюль — толькі пераплывеш Сож — пачынаецца Ліменская пушча, ці, як усё яшчэ кажуць старыя людзі, Васілеўшчына — колішнія надзелы ліменскага пана Васілеўскага.

З ёю, Ліменшчынай, звязана ўсё жыццё маіх сваякоў па маці — Шаблоўскіх. І дзедава. І маміна. А пасля — і маё. Першы раз я адчуў яе як штосьці надзвычай роднае, сваё, кроўнае, як сцены роднае хаты, як маміны ці бацькавы рукі і голас, на самым пачатку вайны, калі мне было сем год, толькі-толькі я разагнаўся на восьмы, калі мы, бацькі і дзеці, спусціліся з гары на мост, каб па ім уцячы ў лес ад немцаў, якія былі ўжо зусім блізка,— гарачыя баі ішлі на Проні, пад Прапойскам, за трыццаць кіламетраў ад Чэрыкава. Мост цераз Сож быў драўляны, высозны і доўгі, з аграмаднымі фермамі ўверсе і быкамі ўнізе, а тады, на той узрост, здаваўся самым вялізным у свеце — ён нас, малых, і прываблівaў, як адно з самых-самых цудаў свету, і палохаў. І што там, на ім, рабілася! Людзі, коні, машыны, каровы, козы, а на вазах — свінні, куры, гусі, авечкі, і ўсё гэта — крычала, раўло, галасіла, плакала. А тут яшчэ, калі мы ўзышлі на мост са сваімі клункамі, у небе над нашымі галовамі з'явіўся чорны крыж нямецкага самалёта! Ён кружыў нізка над мостам, выбіраючы момант, каб кінуць бомбы, і пад ім, тым кры-

жам, яшчэ больш жах ахапіў усё жывое. Смерць была і ўверсе — той чорны крыж, і ўнізе — чорная вада ракі. Храплі, вырываючыся з хамутоў, коні, трашчалі парэнчы моста, пачалі страшэнна раўці каровы, але нішто нікога ўжо спыніць не магло, і людская рака вынесла нас у пушчу. І вось тады, здаецца, да мяне прыйшло сваё, не з расказаў мамы, а ўжо сапраўды сваё адчуванне Ліменскай пушчы: тут не было ўлады чорнага крыжа, смерць засталася там, ззаду, на адкрытым прасторы моста і ракі, а тут, у пушчы, быў паратунак, было жыццё, і гэта ўсе адчулі адразу, адчулі нават і мы, дзеці. Тое маё першае і самае, мабыць, вострае адчуванне пушчы як адзінай сілы ратунку запомнілася на ўсё жыццё. І яшчэ адно адчуванне запомнілася з таго часу — як адкрыццё, сваё, той самай пушчы. Яно звязана з пушчанскімі начлегамі. Яно ўвайшло ў душу ад лясных вогнішчаў, вакол якіх збіраліся ўсе: мама, бацька, сястра, сваякі і чужыя людзі, якія сядзелі сярод сваіх для мяне як свае таксама. Яно — ад той лясной цемені і зыркага святла вогнішчаў, ад цішыні, то лагоднай, як маміна на сон песенька, то вусцішнай, ад раптоўных уначы ўскрыкаў птушак, ад гаманы ля вогнішча, ціхай і таямнічай, зусім не такой, як удзень, ад вусцішнага пошуму дрэў над галавою. О-го, тыя вогнішчы, тое начное жыццё вакол іх! Калі б мець талент Івана Сяргеевіча Тургенева,— пашэрхлі б фарбы і гукі нават «Бежына лугу». Дык вось адтуль да мяне прыйшло адчуванне пушчы як таямнічае глыбіні, якую не разгадаць нікому і ніколі. Гэтае адчуванне пазней неяк мянялася, мабыць, з усё большым вопытам жыцця ў ёй, але ўвогуле засталося. Яно пачало мяняцца тады, як скончылася вайна і мы, вярнуўшыся з бежанства, зноў жылі на сваім чэрыкаўскім беразе — у зямлянцы. Хаты пагарэлі, бераг быў пусты, здзічэлы, а пушча за Сажом, надзіва, стаяла тая самая — магутная, непахісная, велічная — і мы, хлапчукі, падрослыя і насталелыя за вайну, хутка і рашуча праклалі туды свае сцежкі-дарожкі.

А ўсё ж і тое пасляваеннае адкрыццё пушчы — грыбное ды ягаднае — не было яшчэ сапраўдным яе адкрыццём, каб на ўсю шырыню ды глыбіню. Самае-самае адкрыццё Ліменшчыны прыйшло да мяне пазней, ужо ў сталыя гады, калі пушчанскія сцежкі прывялі да пушчанцаў, жыхароў гэтага ляснога краю, і калі многія з іх сталі маімі блізкімі сябрамі. Адным з іх, нават ці не першым з іх, быў Аляксандр Васільевіч Карпенка — ляснічы Лі-

мені, не проста ляснічы, а яе, Лімені, душа. У той час я толькі-толькі скончыў універсітэт, рабіў у раённай газеце, блізка ад Чэрыкава будаваў дом і ў Лімень прыязджаў па лес.

Што ўспамінаецца з тых дзён, дзён завязі нашае дружбы з Аляксандрам Васільевічам? Многае, вельмі многае. І вельмі шкада, што пра многае не раскажу свету, людзям — не паспею. Хоць штосьці і расказаў. Хоць бы і ў «Пушчы».

Успамінаецца летняя пагодлівая раніца. Сонца паднялося па-летняму рана, але расы на травах яшчэ не высушыла, яшчэ кантора лясніцтва на замку, а ля канторы нас, кліентаў, поўна сабралася. Адзін на аднаго глядзяць, пазнаюць ці не пазнаюць, часцей — не пазнаюць, кожны сам сабе думае: і адкуль вас, людцаў, столькі нагнала, за вамі ці атрымаеш той лес, які трэба? Адкуль нагнала? Каб жа толькі са сваіх лясных вёсак ці хоць са свайго раёна, а то ж з суседніх раёнаў, нават і не суседніх, далёкіх. Старыя, што і ногі ледзь валакуць, інваліды, мужчыны ў самай сіле, якіх бервяно, асабліва камель, вельмі любяць, жанчыны, таксама адна на адну непадобныя, маладзейшыя і старэйшыя, падлеткі — усе чакаюць ляснічага, моляць бога, каб ён сёння прыйшоў пакладзісты, добры. І вось ён выходзіць дарогаю з лесу, адзін ці з леснікамі, тэхнікамі. Усе, хто ля канторы, хто ляжаў ці сядзеў пад клёнам, на ганку, пад ганкам на мурагу, хто дзе драмаў ці спаў, падхопліваюцца дружненька, як па камандзе, атрасаюцца, зашпільваюцца, прыводзяць сябе ў парадак. А ён падыходзіць нетаропка, здароўкаецца, строга аглядае ўсіх, амаль кожнага — у твар, зазіраючы ў вочы, і тады толькі, усіх, здаецца, заўважыўшы, пра кожнага штосьці падумаўшы, падымаецца на ганак. Здымае з чэпа ўвесісты замок, адчыняе дзверы, пераступае цераз парог, а за ім — першымі абавязкова ішлі тэхнікі, затым леснікі, рабочыя, конюх Анані Якаўлевіч Зарэцкі і ўжо следам за імі ўсімі — кліенты. Гэты парадак быў тут абавязковы для ўсіх і свята захоўваўся.

Але я сам яго ці не парушыў, не назваўшы ліменскага бухгалтара Уладзіміра Іванавіча Мядзведзева. А чалавек гэты быў рэдкасны. Пра яго хадзілі легенды. У асноўным пра яго талент паесці і выпіць. І то была не брахня. Праўда. Я сам бываў у адной з ім кампаніі і магу засведчыць, што ён адразу мог з'есці калі не паўкабана, то сцягно — як не бывала, ці два кілаграмы сала, ці вядро бульбы, ці...

і выпіць адпаведна. Але чаму і не з'есці, калі важыў за восем пудоў? Аднойчы я прывёз яму пачытаць раман Рабле «Гарганцюа і Пантагруэль». Не, узваліць на сваю галаву гэтакую работу ён не рызыкнуў, але тое-сёе, выбарачна, прачытаў і рагатаў ад душы. Казаў мне: «Бедны быў бы твой Гарганцю, калі б я сеў побач з ім да кабанчыка!»

Пра ўсё гэта я менш за ўсё хацеў тут расказваць — так атрымалася. Я хацеў сказаць, што чалавек Уладзімір Іванавіч быў добры, а сваё месца ў лясніцтве лічыў калі не першым, дык другім абавязкова. Ён ведаў, што грошы кіруюць светам, а ўсе грошы былі ў яго ў сейфе, ключы ад якога ляжалі ў яго кулаку. І таму калі ляснічы заходзіў у кантору, то следам за ім ішоў ён, ліменскі бухгалтар Уладзімір Іванавіч Мядзведзеў, які ў душы лічыў сябе ўсё ж першым чалавекам Ліменi.

Дык вось дні гэтыя, калі збіраліся кліенты, называліся тут «вялікімі сходамі». Ляснічы і бухгалтар сядзелі за адным сталом пасярод пакоя, а вакол іх — людзі адусюль, знаёмыя і незнаёмыя, хітрыя і шчырыя, сумленныя і ўрвіцелі, здаровыя і хворыя, такія, каму трэба паболей, і такія, каму хопіць і меней. А калі мець на ўвазе нарад, то ўсім трэба было болей, як у тым нарадзе. На хату звычайна чалавеку выпісвалі пяць кубоў, а ці з тых пяці хату паставіш? Іх і да падаконня не хопіць. Чалавек тады і мудрыў, як узяць болей. Ілгалі, кралі, спойвалі леснікоў — хто як мог, хто на што быў здатны. Тут і ляснічаму, калі ў яго душа — не камень, ой як цяжка. Усім памагчы хацелася, а як ты ўсім паможаш? І ўсё ж памагаў ён многім, асабліва старым, бяднейшым, слабейшым. А хітрым, хапугам, хто наравіў з іншым леснікам праціць хвою ці дуб, ходу не даваў. Людзі ведалі яго круты нораў, хаваліся, але і ён іх бачыў наскрозь: хто што думае, хто чым дыхае, хто ў які бок верне. І таму тут, у канторы, у дні «вялікіх сходаў», ішла не проста выпіска лесу, а ціхая, як быццам непрыкметная, вайна за чалавека, за праўду, за лес. Ляснічы не спяшаўся выпускаць людзей з канторы, з кожным завязваў гаворку не толькі пра лес, але і пра сям'ю, пра вёску. Раптам успомніць, як той ці іншы кліент прыязджаў летась, пазалетась, дзесяць гадоў назад, што ён тады ў лесе браў, як браў. А то згадае мінулае Ліменшчыны, калі яна была за панам Васілеўскім, тыя лясныя парадкі, тых леснікоў, выйдзе і на часы ранейшыя, на лясныя ўказы Пятра Першага — смелыя, мудрыя, ча-

сам жорсткія, а то і смешныя, як на цяперашні розум,— на тое мінулае нашага лесу, калі яго сплаўлялі па Сажы і Дняпры ў Азоўскае і Чорнае моры, дзе ён ішоў на будаўніцтва першага рускага ваеннага флоту, калі яшчэ гэты лес належаў князю Пацёмкіну, а той якраз і будаваў, па даручэнні царыцы Екацярыны, першыя ваенныя фрэгаты і дрэдноуты. А то, бывала, падпісваючы лесарубны білет, згадае па нейкай аналогіі дзеда Піпку, як той служыў фурманам у пана Васілеўскага — дзед Піпка тады жыў у суседняй вёсцы,— ці дваццатыя гады, калі ў маёнтку адкрылася школа-камуна, якую ўзначалілі браты і сёстры Лепяшынскія, сваякі вядомага рэвалюцыянера-ленінца Панцеляймона Лепяшынскага. Таксама цікавая, багатая старонка Лімені.

Звычайна чалавек, атрымаўшы білет на лес, спяшаецца хутчэй схаваць яго ў кішэню ды ляцець да сваіх сасонак, ялінак, бярозак. Ляснічы гэтакіх не любіў. Ён сам ніколі не спяшаўся ні са словам, ні з выпіскаю білета, а хто спяшаўся — той кантору пакідаў самы апошні. Яму важней за ўсё на свеце было пагаварыць з чалавекам, зразумець яго, хоць словам дапамагчы. А цяпер, праз шмат гадоў, мне здаецца, што тыя размовы з людзьмі Васільевіч вёў і дзеля мяне, для мяне, тады яшчэ маладога газетчыка, пачынаючага пісьменніка — даваў мне ўрокі людскога жыцця на будучае. І ўрокі тыя аказаліся незабыўнымі. Дзіву даюся, як спавядаліся яму людзі, давяралі самы патаемны свой боль, якая шчырасць была паміж іх.

Раман «Пушча» я напісаў значна пазней, тады пра раман не думаў, наогул ці я думаў, што тое, людское, некалі ляжа ў радкі маіх твораў, але цяпер бачу, што ў душы маёй раман пісаўся ўжо тады, у лясной ліменскай канторы, па-за яе сценамі, дзе лясы і лясы, дзе Сож, лясныя крыніцы, лугі, тыя лясныя дарогі і сцежкі, якія — я гэта зразумеў — не адзін год хаваюцца ад чалавека, пакуль не прызнаюць яго сваім, сабе патрэбным.

У мяне часта пытаюцца, хто такі Валошка, герой рамана, дзе я яго знайшоў, хто такі Зімавец, другі герой рамана. Пытанні гэтыя для мяне цяжкія, і я рады, што пра гэта не пытаюцца хоць на Ліменшчыне — там усё ведаюць. Але і там я неаднойчы тлумачыў, што нельга ў Валошку бачыць толькі Васільевіча, у іх розныя сем'і, розны ўзрост і яшчэ шмат чаго рознага. Але ў той жа час алень рогі не схавае — відаць кожнаму, у каго ёсць вочы. І сам сабе я прызнаюся: Валошка — Васільевіч, хоць і не думаў,

калі пісаў, што гэтакім будзе падабенства. Аднолькавыя характары, душы, погляды на свет, на людзей, на прыроду. Дый вонкавага нямала агульнага: захапленне зверам, слончынай цягаю, бакасінымі шлюбнымі песнямі, рознымі драбніцамі ляснога жыцця, іншаму воку зусім непрыкметнымі. Валошка і лесапасадачныя машыны робіць тыя самыя, што і Васільевіч. І філосафы абодва. Ды і лёс у абодвух нялёгкі. І што абурае. Хай бы жыццё іх ускладнялі нейкія заганы характараў, а то ж наадварот — багацце натуры, талент.

Я неаднойчы бачыў, як у Лімень прыязджала начальства, ляснае і не ляснае, і як Васільевіч побач з тымі, ад каго залежаў, каму падначальваўся, выглядаў чалавекам і спецыялістам шмат разумнейшым, цікавейшым, мудрэйшым. Такім людзям, па шчырасці кажучы, жыць і працаваць цяжка, асабліва калі яшчэ і душа сумленная, праўдзівая, і натура ўпартая. Вось ён і звольніўся «па ўласным жаданні». Паехаў працаваць аж у іншую вобласць. Але сям'ю сарваць з наседжанага месца, дом прадаць не паспеў, як адчуў, што нідзе яму спакою не будзе, акрамя як у Лімені. Помню, як пасля прызнаваўся: «Вярнуўся я ў Лімень і бачу, што машыны, мною выдуманыя, лес садзяць, мае станкі на лесазаводзе кроіць дошчачку, на лузе, які я асушаў самаробным экскаватарам, леснікі траву ў пояс косяць, лес, які сам садзіў, шуміць-расце. І зашчымела сэрца: як жа я ўсё гэта быў кінуў?»

На лясную службу, аднак, ужо не вярнуўся. Працаваў то дыспетчарам на аўтабазе, то механікам на лесазаводзе, то рабочым. Хваробы прычапіліся — на пенсію выйшаў.

Нядаўна заехаў да яго. Сядзіць за сталом, начапіўшы на нос акуляры, выразае з ліпы ножычкам скульптуру грэчаскай багіні, заступніцы лясоў і звяроў. Работа не закончана, а ўжо відаць, што робяць яе рукі мастака. Ведаю: ніколі раней не браўся ён за гэтую работу, а вось узяўся, як вольны час з'явіўся, і атрымоўваецца што трэба. І настрой добры. Жартуе, усміхаецца. А ўсё ж і жарты, і ўсмешка — праз нейкую тугу, глыбока схаваную. Туга, мабыць, па сапраўднай рабоце. Па Лімені.

Дзе логіка? Чалавеку таленавітаму, сумленнаму толькі б і рабіць тое, што ён можа, што любіць рабіць, а ён вымушаны кінуць работу. Каму гэта трэба? Яму самому — не. Дзяржаве? Не. Дык каму? Мой Валошка Лімені не пакідае, ва ўсякім выпадку — на плошчы аднаго рамана,

хоць цяжка яму, як і Васільевічу. Поўнага суладдзя са светам у іх абодвух няма. Цяпер вось думаю, што пра Валошку я пісаў, увесь час перажываючы за Васільевіча, пад яго вельмі моцным уплывам. Гэта, відаць, добра, але, можа, і не зусім добра. Можа, мне не хапіла свае ўлады над героем.

Зноў ахвота вярнуцца ў кантору лясніцтва, да людзей. Вось тут, адразу ля дзвярэй, звычайна сядзеў на сваёй бензапіле Коля Кандратаў. Ён працаваў пільшчыкам, валіў і крыжаваў лес — камусьці і гэта рабіць трэба. Заўсёды вясёлы, жартаўлівы, рагатун і насмешнік, ён асабліва здзіўляў усіх у лесе з пілою ў руках. І без пілы. Стане ў адным месцы сярод дрэў, доўгія рукі з пілою працягне да камля — дрэва ўжо ляжыць, а за ім тут жа другое, трэцяе, пятае. З месца, здаецца не сыдзе, пілы не заглушыць — ужо вакол яго светла-светленька, сонечна, чысценька, быццам і не расло тут нічога. І дрэвы заўсёды ляжаць так, як трэба Колю. Ніводнае не завісне на іншай дзераўіне, не заўпарціцца, не зачэпіцца, куды Коля вокам пакажа — там яно ўжо і ляжыць. Здавалася, што ён на тыя камлі і не глядзіць — то нешта расказвае, то жартуе, то спявае,— яны самі перад ім кладуцца, адно за адным. А то стаім над якім камлём удвух, утрох, учатырох — як яго ўзяць? Падсоўваем калы, крэкчам, на далоні паплёўваем, а ён не даецца. Коля падыдзе. Спачатку рагатне з нас, як паветра лішняе з грудзей выпусціць, потым усіх развядзе аграмаднымі рукамі ад камля, з канца, танчэйшага, адзін падхопіць, паставіць «на папа», прысядзе пад яго, адной рукою абхопіць, таўсцейшы канец, камель, адным рухам сабе на клуб ускіне — і панёс. Мы за ім следам, хапаемся, каб памагчы, баімся, каб не надарваўся, а ён, Коля, нясе і рагоча. А то, бывала, коціш бярвяно па лагах на машыну — адзін канец у кузаў на «лісіцу», другі на прычэп,— падкоціш пад борт, а вышэй ускінуць ужо ні ў кога сілы няма: крэкчаш-крэкчаш... І раптам бервяно лягчэе на тваім плячы, на руках, плыве, нібы само па сабе, угару і ляціць у кузаў. Азірнешся: Коля стаіць за спінаю, смяецца ўсім сваім вялізным прывабным тварам. Ён быў далёка не прыгажун, але я рэдка сустракаў чалавека, які б гэтак прыгажэў, смеючыся, рагочучы. Рабіў за дзесяцёх, але заўсёды без крыку, без злосці, здавалася, што і без поту, весела. Высокі, хударлявы, а косць буйная, душа шырокая — хоць рабіць, хоць гуляць. Адным словам — сіла! Артыст! Быў чалавек!..

Кажу, на жаль,— быў.

Каля Лімені, ад вёскі метраў трыста, у спелым сасновым лесе ёсць могілкі. Кожны раз, прыехаўшы сюды, а бываю я тут даволі часта і падоўгу, едучы міма праз лес, спынюся, пастаю над магілкаю Мадэста Мікалаевіча Ляпяшынскага, у школе-камуне якога вучыўся мой дзядзька Саша, які рана памёр, яшчэ да вайны, над магілаю Івана Васільевіча Гутарава, майго, па універсітэце, прафесара, які, памёршы ў Мінску, пакінуў запавет, каб яго пахавалі тут, у ліменскім лесе, побач з Лепяшынскім, у камуне якога таксама вучыўся. А праз дзве магілкі — курганок Колі Кандратава. Стаю і думаю: як гэта так здараецца ў жыцці? Чалавек удаўся магутны, прырода яму дала столькі сваёй сілы і прыгажосці, столькі любові да жыцця, да людзей, здавалася, што жыць такі чалавек будзе калі не вечна, дык доўга, вельмі доўга, а ён і да сарака не дажывае. І ад чаго памёр? Кажуць — надарваўся ў рабоце. А хто калі бачыў, каб ён падрываўся? Ён жа заўсёды, ваюючы з дрэвам, жартаваў і рагатаў. Вось загадка прыроды! Адно курганок застаўся ад такога чалавека, ад усяго таго, што было. Як гэта так?

І не мая заслуга, што душу, сілу, натуру сваю Коля Кандратаў аддаў майму Клімашу з «Пушчы». Ён яго выбраў і ў мяне, здаецца, аб тым не спытаўся. Я сам знаходзіўся ў палоне Колевай непаўторнай натуры. Але аддаў ён сябе не аднаму Клімашу. Ад яго — і Міцька Курнопа. Ён, Коля, нібы падзяліў сябе на іх двух. Аднаго яму было мала. І вось тут я сам дзіўлюся: як гэта атрымалася.

Часам і не ведаеш, пакуль працуеш над творам, з каго пішаш свайго героя, нават і любімага. Напішаш — тады раптам пазнаеш у ім кагосьці са сваіх блізкіх, жывых ці былых жывых.

Гэтак атрымалася з Нікодымам. З каго пісаў — не ведаў, не думаў. А напісаўшы, убачыў у ім свайго дзеда Анісіма. І не толькі душа ягоная ў Нікодыма, але і справа жыцця, хай сабе не ўся, хай сабе часцінка.

Затое вось да дзеда Ягора, Ягора Захаравіча Лісікава, адразу, як сышліся, пачаў прыглядацца з пэўным прыцэлам. І не адзін я ў гэтым павінен — ён сам таксама. Адразу гэтак сябе паказаў. А паказаць сябе ён можа. І любіць. Помню, як прыехалі да мяне ў Лімень Валодзя Караткевіч, Янка Брыль і Рыгор Барадулін. Ну, чым вітаць гасцей? Юшкай, вядома, на маляўнічым беразе Сіняга возе-

ра. А якая юшка без дзеда Ягора? І ён пастараўся — добрых лінёў злавіў. Было вогнішча на беразе пад хвоямі, была юшка, былі песні, размова. А дзеду Ягору гэтага мала: «Што за паэты без вершаў?» Валодзя Караткевіч чытаў «Заяц варыць піва», а стары аж скакаў ад асалоды і прапаліў штаны, ды адзаду, на далікатным месцы. «І як мне,— казаў,— ісці да бабы?» Паставіў сушыць вясло, а на яго надзеў Рыгораў берэт. Сабраліся ад'язджаць — берэта няма. «Дзе, дзед, берэт?» А ён рагоча: «Буслам аддаў». Амаль гэтак і атрымалася: праз год заехаў я ў лімёнскую кантору, гляджу — на галаве ў лесніка Рыгораў берэт. Дзе, пытаюся, узяў? А ён і кажа: «На Сінім бура зламала хваіну, дык гняздо шэрай чаплі з яе звалілася, а ў гняздзе тым і гэты берэцік быў. Заржавеў на дажджах ды сонцы, злямчыўся, але на галаву ўзлез». Пасля Барадулін напіша пра гэта ў вершы «Ліст у Лімёнскае лясніцтва». І яшчэ раз парадуе дзеда Ягора. Ад той сустрэчы і здымак застаўся: усе сядзяць на беразе Сіняга табунком, пісьменнікі і леснікі, а дзед Ягор асобна, наперадзе, прыкурвае ад вялізнай, большай за самога сябе, галавешкі. «Гэта,— кажа,— мой лепшы палтрэт на фоне ўсёй беларускай літаратуры».

Чым уразіў мяне дзед Ягор з першай сустрэчы? Сваёй еднасцю з прыродай: ракой, азёрамі, лугам, лесам. «У прыродзе трэба быць ціхім, як рыбіна»,— казаў ён і сам, слухаючы, не варушыўся, гадзінамі мог сядзець ціха, не кажучы ні слова, хоць пагаварыць любіў. «У прыродзе трэба мець доўгія вушы, вострыя вочы,— казаў.— Тады такога наслухаешся, такое ўбачыш, чаго і ва сне не бывае. Сам, бывала, з лодкі на бераг вылезе, закурыць і маўчыць — слухае. «А што ноч? Гэта не значыць, што калі ноч, дык і сон павальны. Прырода ўсю ночку працуе. Тады, вядома, калі ты яе разумееш, чуеш. А як глухі, дык табе і здаецца, што яна маўчыць, спіць». Сам бачыў і чуў яе дзіўна, кожную яе праяву, кожны шолах, за кожным шолахам паэму чытаў. А як мог расказваць! Аднойчы ўлетку я, прыехаўшы, раскінуў на беразе Сажа палатку, і там ён хутка знайшоў мяне. Вечар сядзелі каля вогнішча. Спачатку ўсё спяшаўся дадому, «да бабы» — дарэчы, яна ў яго, Хадора, дужа строгая,— а пасля і на бабу забыўся, да раніцы, пакуль не развіднела, «плёў кашы» — пра сады, грады, сваю маладосць. Была пара, калі пайшла пладажэрка, і ён пачаў з яе, адкуль яна бярэцца і як з ёю ваяваць, а з пладажэркі перакінуўся на жанчын і пачаў

сыпаць «анекдотамі са сваёй кухні». Яго анекдоты, вядома,—тое, што было з ім, Ягорам Захаравічам, але расказвае так, быццам усё было з іншымі. Вось — пра бабу, якая не любіла, калі яе мужык хадзіў на паляванне. «А якая баба любіць таго паляўнічага, што прыносіць дадому пустыя кішэні? Ці таго лаўца, які ловіць паветра? Любой гэтакі не па губе». І вось гэтая — усё хавала ад мужыка патранташ. Аднойчы стала на парозе, дзверы загарадзіла, не пускае, зноў за патранташ хапаецца. Ну не біцца ж з бабаю? На, бяры. Але што ты з ім рабіць будзеш? А яна, доўга не думаючы, яго ў печ. А была раніца: у печы дровы гарэлі, чыгуны стаялі. Кінула патранташ у агонь і стаіць, рукі ў бокі, смяецца, як з дурня: ну, маўляў, што ты цяпер рабіць будзеш, куды з пустымі ствапамі пойдзеш? А мужык спачатку і разгубіўся быў, але скеміў, што гэта зараз пачнецца — таксама вочы павесялелі: ну і ну, баба, зараз ты ў мяне абразумішся. Тут у печы і пачалася вайна — патроны пачалі рвацца. Баба — на падлогу, ляжыць і не дрыгае. А мужык плюнуў на ўсё гэтае ды з хаты: сама кашу заварыла — сама і расхлёбвай. Расказваў усё гэта дзед Ягор як быццам не пра сябе, анекдот, але ўсюды «я» ды «баба мая». Як жа было паверыць, што гэта анекдот? Хоць і ведаю: са стрэльбай дзед Ягор не ходзіць, ён з тых рыбакоў, якія на паляўнічых плятуць несусвеціцу, як на самых заклятых сваіх ворагаў. На гэта, мабыць, што я ведаю, і ён разлічваў. Але пасля з'явілася ў мяне яшчэ і такая думка: ці не Хадора цябе некалі і адвадзіла ад стрэльбачкі?

Не так даўно, вясною, сустрэў яго ў Чэрыкаўскім лясгасе. Глядзіць вясёлым вокам, усміхаецца:

— А рыбка, Віцька, плешчыцца?..

Ну як было не зразумець празрысты намёк? Трэба нам на Сажы сустрэцца. Але спяшаўся я тады ў Крычаў. Заўсёды некуды бяжым, спяшаемся. Пасля і сам шкадаваў, што яшчэ раз не пасядзеў з дзедам Ягорам на беразе Сажа ці на Сінім возеры, што даўно мы з ім вогнішча не раскладалі.

Калі развіталіся, у вачах у старога я заўважыў даўно знаёмую тугу праз далікатную ўсмешку. Часта і здаўна яна перарастае ва мне ў маю ўласную тугу — без усмешкі.

З гэтай тугою — праз усмешку — ён аднойчы сказаў мне:

— Эх, каб я быў паэтам!..

Яму заўсёды гэтага не хапала: выказаць свету сваю ду-

шу і душу прыроды, якую ён ведае як сваю. Аб гэтым яго вечная туга. Адсюль, ад гэтае тугі, і тое, што сказаў пры апошняй сустрэчы: «А рыбка пялешчыцца?..» Ён шукае сустрэчы з чалавекам, якому можа хоць крыху, хоць у нейкай малой меры выказацца, аддаць тое, што адчувае і ведае, што нажыў з гадамі, іншым людзям, а праз асобных людзей, можа, і ўсяму свету, і такім чынам вызваліць душу ад цяжару, ад тугі, або, як неаднойчы казаў, «вызваліць душу ад грэху». На яго думку, выходзіць, насіць у сабе тое, што можна выказаць свету, насіць у сабе, не выказваючыся,— гэта «насіць у сабе грэх».

І што вось тут мне рабіць? Трэба ехаць да дзеда Ягора. Усё кінуць і ехаць. Тым больш што і дзед Гарох з «Пушчы» — не ўся, прызнаюся, глыбіня і паўната дзеда Ягора. Пакуль што не ўся. І трэба ехаць.

Тут і мая радасць, і маё засмучэнне. Радасна, што жыве дзед Ягор, што я магу бясконца слухаць яго, пераліваць у сябе, а потым і ў свае творы, яго думкі, перажыванні, вопыт жыцця. Тут як бы жыццё чужое цябе прызнала, табе адкрылася, і твор твой гэтага чакае, патрабуе. Але ёсць і засмучэнне: відаць, ніколі не ўдасца, каб жыццё гэтае схапіць на ўсю глыбіню, чарпануць да самага дна, наліць ім твор з берагамі, ні кроплі не згубіўшы па дарозе. І вось тут, думаючы пра ўсё гэта, памятаючы пра «грэх» дзеда Ягора, зразуметы ім як немагчымасць «излить миру» сваю душу, я аднойчы выразна адчуў, як не адчуваў раней, сваю пісьменніцкую задачу — найгалоўнейшую: пасобіць дзеду Ягору вызваліцца ад яго цяжкога «граху» перад светам. Адчуў я гэта той, калі не памыляюся, ноччу, улетку, калі паставіў на беразе Сажа палатку, а дзед Ягор знайшоў мяне і мы да раніцы, пакуль у небе зоркі не пагаслі, вялі бяседу. І з таго часу разуменне сваёй задачы я не змяніў. Можа, шырэй яе зразумеў з часам? Бо ўбачыў, што бяда старога — не толькі яго бяда. Хіба Васільевіч не пакутуе гэтым самым: выказацца перад светам? Нядаўна разгарнуў раённую газету — яго, Васільевіча, артыкул: «Верабей». Пра вераб'я артыкул. Спытаў: аказалася, што не першы яго артыкул у газеце. Пісаў пра асіпу, пра бярозу, пра грыбы. І цікава напісана: сваё, не чужое, свае сустрэчы з асінамі, бярозамі, вераб'ямі, грыбамі. А Коля Кандратаў хіба быў іншы? Хіба яго шчырая, ад душы, работа і рогат не былі жаданнем выказацца перад людзьмі? Дый усе ліменцы гэтакія.

Ведаю, што цяжкая ў мяне задача. Але, як кажуць,

назваўся груздом — скачы ў кошык. Расказаць пра такіх людзей, як Ягор Захаравіч, Васільевіч, Коля Кандратаў, усе іншыя ліменцы, шчыруны мае ліменскае пушчы, паказаць свету іх жыццё, душы і думкі, пакуты і радасці, можа, мне і не па сілах. Але колькі тых сіл ёсць — трэба рабіць. Бо, калі і далей па шчырасці, бачу, што і дзед Ягор, і Васільевіч на мяне спадзяюцца. Не магу я цяпер ужо сам-насам са сваім «грэхам» пакінуць дзеда Ягора.

З гэтымі думкамі мне трэба, дый ахвота, яшчэ раз вярнуцца ў Лімень, ужо зімовую, засыпаную снегам, да Петрака Кірылавіча Ерафеева, ліменскага егера, да ўспаміну пра яго самога і яго Тарзана, выдатную сібірскую лайку. Мы тады абклалі дзікоў на вяселлі і аднаго ўзялі. Але крыху пазней, калі ўжо цямнела, калі збіраліся вяртацца ў леснічоўку, Тарзан зноў падняў дзікоў. Сабака счапіўся з імі, а Пятрок быў блізка — стрэліў і ўклаў тым адным стрэлам не толькі свінню, але і Тарзана, хоць паміж імі, свіннёй і сабакам, было добрых дзесяць крокаў. Куля прайшла праз свінню і рыкашэтам ад косці прашыла сабаку. Тры дні Пятрок піў гарэлку і плакаў несуцешна, як дзіця, і слёз сваіх перад людзьмі не саромеўся, не хаваў. А я глядзеў на яго гэтакага і прыгадваў колішні Петракоў расказ-успамін, як недзе на пачатку вайны ён трапіў у палон і як амаль усю вайну, тры гады, немцы ганялі яго па лагерах смерці. Апошнім акордам, самым трагічным, быў сусветна вядомы Майданак. Тады, слухаючы Петрака, я здзіўляўся: як чалавек усё гэтае вытрываў, як выжыў? Цяпер падумаў іначай: як, такое перажыўшы, ён захаваў яшчэ і слёзы для Тарзана? І не адзін я гэтак думаю, не адзін я гэта ўсё ведаю. Ведаюць ліменцы, уся наша пушча. Ведаюць ліменскія алені. Гэта ж ён, Пятрок Кірылавіч, гадоў дваццаць назад прыняў іх, перасяленцаў, у пушчу, і з таго часу даглядае, падкормлівае, бароніць ад ваўкоў і злых людзей, то ўвесну выпускае іх з вальеры ў лес на волю, то на зіму зноў збірае ў вальеру, калі ім становіцца цяжка без яго прygляду, за кожным ходзіць па следзе, за кожнага хварэе сэрцам. Бывае, што і аплача каторага, як Тарзана. Гэта ж спачатку да яго, Петрака Кірылавіча, а пасля ўжо да Міны ў «Пушчы», пад яго леснічоўку, пад самае Петракова акно, а пасля ўжо пад Мінава, з-пад таго мацёрага воўка, абліваючыся крывёю, прыбегла алянуха Пані. Ведала, што толькі Пятрок уратуе яе ад смерці. І ці ён вінаваты, што не быў тады ў Асечы?

Дык вось калі я мастацкім словам здымаю цяжар з

душы дзеда Ягора, то думаю ў гэты час і пра Петрака Ерафеева. Што гэта так, можна зразумець хоць бы па апавяданні «Апошняе паляванне з лайкай».

Такія ў мяне землякі, такая ў мяне Лімень — Лісань з маёй «Пушчы». І хатак у ёй ужо зусім небагата, тых, у каторых яшчэ цёплыя печы, усяго тры, усяго-наўсяга, а для мяне яна, Лімень,— мацярык, жывы сёння і ў вечнасці, які я, ведаю, не здолею спасцігнуць усімі сваімі раманамі, аповесцямі, апавяданнямі і эсэ,— тымі, якія ўжо напісаў, і тымі, на якія спадзяюся, бо вельмі хочацца напісаць.

*1986*

# ЗМЕСТ

**Карамазаў В.**

К 21 Проста ўспомніў я цябе...: Публіцыст. проза, эсэ. — Мн.: Маст. літ., 1989.— 317 с.: іл.

ISBN 5-340-00318-3.

Карамазов В. Просто вспомнил я тебя...: Публицист. проза, эссе.

Парыж... Бульвар Гарыбальдзі, малюсенькі атэль «Сегюр» пад Эйфелевай вежай, акно ў свет чалавечых пачуццяў і... зусім нечакана — у свет паэзіі беларуса Аляксея Пысіна.

«Лемурыя», Каір, Адэн, Найробі, Рэюньён, востраў Праслен... Зямля Калева — цікавыя і захапляючыя падарожжы аўтара па зямлі.

Усё гэта з кнігі публіцыстычнай прозы В. Карамазава.

$К\frac{4702120204-067}{М\ 302(03)-89}7-89$ ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

**Карамазов**
**Виктор Филимонович**

ПРОСТО ВСПОМНИЛ Я ТЕБЯ...
***Публицистическая проза, эссе***

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Карамазаў**
**Віктар Філімонавіч**

ПРОСТА ЎСПОМНІЎ Я ЦЯБЕ...
***Публіцыстычная проза, эсэ***

Рэдактар *Е. А. Пяршай*
Мастак *Г. В. Шапялевіч*
Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*
Карэктар *А. Т. Глушчанка*

ІБ № 3146

Здадзена ў набор 07.07.88. Падп. да друку 18.01.89. АТ 06665. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,80. Ум. фарб.-адб. 17,22. Ул.-выд. арк. 17,92. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1634. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

**НАБЫВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ
НОВЫЯ ТВОРЫ
БЕЛАРУСКІХ ПРАЗАІКАЎ**

К. КАЛІНА
*Крылаты конь*
Аповесці

А. ЛОИКА
*Францыск Скарына,
або Сонца Маладзіковае*
Раман-эсэ

М. ЛУЖАНІН
*Трое*
Аповесці, апавяданні, эсэ

Н. МАЕЎСКАЯ
*Холад доннай вады*
Аповесці